◂ № 36 (357) ◂ 27 верасня ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час



ІГАРУ АЛІНЕВІЧУ — 30 ГАДОЎ

Стар. 4

**ВАЛАДАРСТВА КНЯЗЁЎ КОРСАКАЎ**

У фермерстве былы калгасны інжынер-механік Кастусь Корсак ужо паўтара дзесяцігоддзі. Пачынаў з 43 гектараў зямлі з правам перадачы ў спадчыну

Стар. 6

**НЯСУМНЫЯ НАСТУПСТВЫ СУМНЫХ ВЫБАРАЎ**

Практычна ўсе палітолагі назвалі мінулыя выбары ў Бундэстаг сумнымі. Аднак, як цяпер высвятляецца, сумныя выбары 22 верасня могуць цалкам змяніць нямецкі палітычны ландшафт

Стар. 29

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Стар. 9–24

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**КРАІНА, У ЯКОЙ НЕ БЫЛО КРЫЗІСУ**

Нарыс Сяргея Пульшы

З НАГОДЫ

# НА ЯКІ ДЫЯЛОГ РАЗЛІЧВАЕ ЕЎРОПА?

Сяргей ПУЛЬША

**На гэтым тыдні «праездам у Маскву» ў Беларусь зазірнуў Гунар Віганд — дырэктар дэпартамента Расіі, «Усходняга партнёрства», Цэнтральнай Азіі, рэгіянальнага супрацоўніцтва і АБСЕ Еўрапейскай службы знешніх дзеянняў. Нічога, акрамя чарговай канстатацыі «шматвектарнасці беларускай палітыкі», гэты візіт не выклікаў.**




Як паведаміла прадстаўніцтва ЕС у Беларусі, візіт Віганда галоўным чынам быў прысвечаны «Дыялогу аб мадэрнізацыі Беларусі». Віганд павінен быў сустрэцца з «усімі зацікаўленымі бакамі, каб абмеркаваць напрамкі, па якіх дыялог можа развівацца ў будучыні».

Вельмі цікавы фон, на якім Віганд завітаў у Беларусь. Найперш, Еўропа павінна страціць свае ілюзіі наконт паштовага голуба Уладзіміра Макея. Тыя невядомыя прапановы, якія былі дадзеныя беларускаму міністру замежных спраў у ліпені гэтага года падчас ліпеньскай сустрэчы міністраў замежных спраў ЕС, выкананыя не былі. Прынамсі, гэтага не бачна. А Еўропа, нагадаем, тады ўскладала на іх вялікія надзеі. Прынамсі, еўракамісар па пытаннях пашырэння ЕС і добрасуседства Штэфан Фюле адзначаў: «Адкрыліся магчымасці ўзаемадзеяння з уладамі на такім узроўні, які не тое што не дазваляе нам забыцца аб нашых патрабаваннях і ўмовах, але насамрэч можа іх узмацніць». Узмацніць не выйшла.

За гэты час еўрапейскія дэпутаты даведаліся пра Беларусь больш — быў прыняты знакаміты «даклад Палецкіса», які апісвае сітуацыю ў нашай краіне, але патрабаванні ўсё роўна высоўвае старыя — дэмакратызацыя і вызваленне палітвязняў.

Што тычыцца апошняга, то ад «Макееўскай размовы» некаторыя з палітвязняў былі вызваленыя, а некаторыя пагасілі свае судзімасці — тыя, хто быў асуджаны ўмоўна і з адтэрміноўкай выканання прысуду. Але гэта адбылося «натуральным чынам»: усе выйшлі па сканчэнні тэрмінаў, і ні пра якія «выкананні патрабаванняў Еўропы» гаворка ісці не можа.

То бок, у Еўропы няма падставаў казаць пра тое, што якія-небудзь іх умовы для дыялогу з афіцыйным Мінскам былі выкананыя.

У той жа час Беларусь узмацняе сваё супрацоўніцтва з Расіяй. Як ні дзіўна, скандал з арыштаваным у Мінску менеджарам «Уралкалію» толькі паспрыяў узмацненню двухбаковых стасункаў: прынамсі, паміж Аляксандрам Лукашэнкам і Уладзімірам Пуціным. Пуцін і Лукашэнка не бачыліся, здаецца, з сакавіцкага пасяджэння Вышэйшага дзяржсавета Саюзнай дзяржавы, калі Аляксандр Рыгоравіч папрасіў у Расіі крэдыт у два мільярды долараў, а Пуцін яму адмовіў. Пасля гэтага абодва прэзідэнты старанна адзін аднаго ігнаравалі. Аляксандр Лукашэнка нават не паляцеў у Кіеў на святкаванне 1025-годдзя хрышчэння Русі, дзе быў расійскі прэзідэнт.

Аднак 23 верасня падчас шараговай канферэнцыі АДКБ Пуцін і Лукашэнка, па паведамленні расійскіх СМІ, сустракаліся самнасам аж тройчы. Зразумела, гэтыя размовы насілі характар, хутчэй, нефармальны, што заўважыла нават прэс-служба Крамля, але факт застаецца фактам.

Адначасова Беларусь і Расія праводзяць вучэнні «Захад–2013», дзе сумесна «змагаюцца» супраць умоўных незаконных узброеных фарміраванняў. Хаця, здавалася б, Расіі такія вучэнні без патрэбы: у іх гэтых НУФ і без вучэнняў шмат, і не ўмоўных, а так бы мовіць, «безумоўных».

На тэрыторыі Беларусі з'явілася расійская вайсковая база. Некаторыя аналітыкі лічаць, што гэта — толькі пачатак, і такіх базаў у выніку сумесных вучэнняў і дамоўленасцяў у межах АДКБ можа быць больш.

У той сітуацыі, калі ўмовы ЕС для дыялогу не выконваюцца, а супрацоўніцтва з Расіяй квітнее, некаторыя палітыкі пабачылі ў візіце Віганда чарговую спробу Еўропы нагадаць пра сябе. У прыватнасці, сустаршыня БХД Віталь Рымашэўскі адзначыў, што «Дыялог аб мадэрнізацыі Беларусі» ўсё больш ператвараецца ў спробы еўрапейскіх чыноўнікаў любым коштам забяспечыць супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Еўрапейскім саюзам.

«Мы лічым такія спробы памылковымі і бесперспектыўнымі. З практыкі мінулых гадоў мы ведаем, што любое супрацоўніцтва рэжым спрабуе выкарыстаць для таго, каб узмацніць ціск на грамадзянскую супольнасць. І я збіраюся нагадаць пра абавязальніцтвы ЕС аб немагчымасці роўных перамоваў з уладамі без паляпшэння становішча ўнутры Беларусі. А сітуацыя толькі пагаршаецца. Таму магчымыя толькі трохбаковыя перамовы, якія б былі празрыстымі для беларускай супольнасці. Нельга падтрымліваць рэжым і фінансаваць рэпрэсіі ў дачыненні да грамадзян», — адзначыў Рымашэўскі.

Але большасць аналітыкаў з Рымашэўскім не згодная. «Дыялог аб мадэрнізацыі» зараз сапраўды праходзіць без удзелу дзяржаўнага боку. А гэта значыць, што вынікі такога дыялогу — нулявыя. Эксперты, канешне, распрацоўваюць «мадэрнізацыйныя» праграмы і прапановы, але, калі гэтыя прапановы не ажыццяўляюцца, карысці з такой працы няшмат. З іншага боку, зараз заканчваецца чарговы гадавы этап працы праграмы. Адпаведна, трэба падводзіць вынікі і будаваць планы на будучыню. Таму Віганду цікава паглядзець на тое, што зроблена, і падумаць, як зрабіць лепш. Альбо — увогуле, у сувязі з эканамічным крызісам, які моцна падкасіў ЕС, — закрыць гэтую праграму «з мэтай эканоміі дзяржаўных сродкаў».

Канешне, Віганд зацікаўлены ў тым, каб «Дыялог аб мадэрнізацыі» працягваўся. Але не менш зацікаўлены ён і ў тым, каб праграма прыносіла нейкі плён. Ужо шмат разоў казалася пра далучэнне да «ДМБ» (як жартаўліва палітолагі называюць «Дыялог аб мадэрнізацыі») экспертаў з дзяржаўнага сектару. І, відавочна, гэта б дадало «ДМБ» прагрэсу.

Варта заўважыць, што «ДМБ» з'яўляецца доўгатэрміновай праграмай. Усё роўна ўсе напрацоўкі «ДМБ» яшчэ не адзін раз будуць адрэвізіяваныя ў залежнасці ад сітуацыі, што складзецца, і стану беларускага грамадства і дзяржавы. Таму разглядаць гэтую праграму і ўдзел у ёй дзяржаўных экспертаў як пачатак дыялогу, пэўна, не варта. Не трэба і шмат чакаць ад Віганда. Ягоны візіт у Беларусь сапраўды быў тэхнічны.

ПРАВЫ ДЗІЦЯЦІ

# ЯК БЕЛАРУСАМ КУПІЦЬ ЗДАРОЎЕ?

**Ва ўсходніх рэгіёнах Беларусі ўрачы наўпрост сыходзяць у іншыя сферы альбо з'язджаюць. Людзей лячыць няма каму. Што рабіць?**

Пра канцэпцыю рэформаў аховы здароўя разважае старшыня БНФ Аляксей Янукевіч у межах «Еўрапейскага дыялогу аб мадэрнізацыі з Беларуссю».

— Сістэма аховы здароўя працуе на больш-менш якасным узроўні, аднак медыцына ў нас ужо не з'яўляецца насамрэч бясплатнай. У той ці іншай форме людзі ўсё роўна вымушаны плаціць. Мы лічым, што сістэма прыватнай медыцыны павінна працаваць па-іншаму. Дакладней — нам неабходна страхавая медыцына. Але і дзяржаўную, бясплатную медыцыну ў канцэпцыі прапануецца захаваць. Яна павінна забяспечваць гарантаваны мінімум.

Бясплатнай павінна застацца і хуткая дапамога, і шпіталі, і паліклінікі. Страхавая ж медыцына дазволіць лепш працаваць прыватным медыцынскім цэнтрам, якія атрымаюць доступ да больш значных рэсурсаў. А вось для грамадзян іх паслугі будуць каштаваць менш. Сёння ж для большай часткі жыхароў краіны гэтыя паслугі недаступныя, у першую чаргу з-за іх кошту.

Сэнс нашай прапановы ў тым, каб людзі, якія маюць працу і стабільны заробак, мелі рэгулярны доступ да платнай медыцыны. Гэта дазволіць палепшыць якасць паслуг, разгрузіць дзяржаўныя бясплатныя паліклінікі і шпіталі, утрымаць медыкаў у краіне, прапанаваўшы ім добрыя заробкі.

У некаторай ступені гэта дазволіць паменшыць і чэргі на тыя ж аперацыі, таму што нейкая частка грамадзян ужо зможа дазволіць сабе зрабіць іх у прыватных цэнтрах.

Другі бок праблемы — лекі. Бачна, што шлях замяшчэння і абмежавання імпарту ў гэтай галіне памылковы, таму што аб'ектыўна якасць мясцовых лекаў часта значна ніжэйшая. Таму мы выступаем за тое, каб, наадварот, спрасціць працэдуру іх імпарту, каб нашы грамадзяне мелі доступ да больш якаснай прадукцыі.

Страхавая медыцына, безумоўна, павінна быць добраахвотнай. Калі клапоцішся пра сваё здароўе і хочаш атрымліваць больш якасныя паслугі — выдаткоўвай на гэта грошы. Сродкі гэтага будуць збірацца страхавымі кампаніямі, якія будуць мець магчымасць укладваць іх, напрыклад, у каштоўныя паперы. Тут на ўзроўні заканадаўства трэба дакладна вызначаць усе нюансы — напрыклад, страхавыя фонды не павінны ўдзельнічаць у рызыкоўных фінансавых аперацыях, каб не страціць сродкі сваіх кліентаў. Але калі здараецца страхавы выпадак, чалавек атрымлівае суму, якой хапае на неабходнае яму лячэнне і рэабілітацыю.

Больш за тое — калі чалавек сыходзіць на пенсію, ён таксама атрымлівае нейкую суму, у залежнасці ад таго, колькі працаваў яго поліс і колькі ён хварэў падчас яго дзеяння. Той, хто быў здаровы, атрымае больш.

За невялікімі адрозненнямі, гэтая сістэма працуе ў большасці заходнееўрапейскіх краін. Іншая справа, што ў багатых краінах, у той жа Нямеччыне, вялікую частку грошай у страхавыя фонды ўносіць дзяржава. Але нам пакуль складана казаць пра гэта, таму што дзеля гэтага краіне трэба мець моцны эканамічны падмурак.

**Паводле zautra.by**

ПРАВЫ ДЗІЦЯЦІ

# НАСТАЎНІЦА ЗБІЛА ШКОЛЬНІЦУ

**У Баранавічах настаўніца СШ №14 збіла чацвёртакласніцу, вучаніцу адзінага ў горадзе беларускамоўнага класу Ясю Малашчанку, за адмову слухаць афіцыйны гімн.**

Як распавядае маці дзяўчынкі, каардынатарка аргкамітэту БХД Таццяна Малашчанка, інцыдэнт здарыўся на ўроку музыкі, калі настаўніца распавядала пра афіцыйныя дзяржаўныя сімвалы. На гэта дзяўчынка заявіла, што лічыць гімн дрэнным, бо ў ім не спяваецца пра Бога, і назвала сваім гімнам спеў «Магутны Божа».

На гэта настаўніца паспрабавала пераканаць дзяўчынку ў важнасці афіцыйнага гімна, распавядаючы пры гэтым пра свае ўяўленні пра тое, як хораша жылося ў СССР. Затым яна пачала спяваць афіцыйны гімн, але, убачыўшы, што Яся закрыла вушы рукамі, накінулася на яе, пачала адцягваць рукі ад вушэй і біць па руках. Калі ж даведзеная да слёз дзяўчынка паспрабавала выйсці з кабінету, настаўніца пачала здзіраць з яе заплечнік, працягваючы біць па руках. Затым яна выйшла з класу, пыгразіўшы распавесці пра ўсё завучу, але хутка вярнулася і адпусціла заплаканую дзяўчынку з урока.

Маці Ясі Малашчанкі прычыны такіх паводзінаў настаўніцы не разумее і кажа, што ў мінулыя гады яна сябе так не паводзіла. «Я разумею, калі б яна запатрабавала дачку пакінуць клас, зрабіла б заўвагу ці гэта далей. Але ж тое, што яна пачала біць, я лічу недапушчальным», — падкрэсліла Таццяна Малашчанка.

Урокі музыкі ў школе з'яўляюцца факультатыўнымі. А Яся Малашчанка ходзіць у музычную школу.

Ані настаўніца, ані адміністрацыя школы прабачэнняў дзяўчынцы ці яе бацькам не прынеслі. На ўроку музыкі яе цяпер запрашаюць, прапануючы прыходзіць праз 10–15 хвілін, калі заканчваецца вывучэнне афіцыйнага гімну. Але дзяўчынка хадзіць на ўрокі спеваў баіцца. Бацькі не выключаюць, што могуць напісаць прашэнне дазволіць іх дачцэ не наведваць урокі музыкі ў школе.

**Прэсавая служба БХД**

ПІКЕТ

# ДЭПУТАТЫ НЕ ВЫКОНВАЮЦЬ СВАЕ АБАВЯЗКІ

**Марат ГАРАВЫ**

**24 верасня пенсіянеры Аляксандр і Валянціна Каваленкі падалі ў Бабруйскі гарвыканкам заяву на правядзенне 9 кастрычніка пікета ў цэнтры горада.**

Як паведаміў НЧ Аляксандр Каваленка, пікет павінен прыцягнуць увагу жыхароў Бабруйска да праблемы невыканання сваіх абавязкаў дэпутатам Палаты прадстаўнікоў Жаннай Мішур, якая прадстаўляе інтарэсы бабруйчан у дзяржаўных органах. «Яна спыніла з намі ліставанне, не адказаўшы на нашы лісты па сутнасці пастаўленых у іх пытанняў, як таго патрабуе Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь», — падкрэсліў Аляксандр Каваленка.

Паводле слоў Валянціны Каваленкі, яна тройчы была на прыёме ў Жанны Мішур, якая паводзіла сябе не як абранніца народу, а як звычайны чыноўнік, прызначаны ўладамі. «Склалася ўражанне, што гэтая дэпутатка нават не ведае сваіх паўнамоцтваў згодна заканадаўству. Таму Жанна Мішур адмовілася прадстаўляць нашы інтарэсы ў дзяржаўных органах і спыніла з намі ліставанне», — сказала Валянціна Каваленка.

Аляксандр Каваленка адзначыў, што ў пікетаванні прымуць удзел толькі самі арганізатары мерапрыемства, падчас якога мяркуецца выкарыстаць плакат наступнага зместу: «Дэпутат Мішур не абараняе правы і інтарэсы народа, а дагаджае чыноўніцтву!».

У сваёй заяве Каваленкі звярнулі ўвагу чыноўнікаў гарвыканкама на тое, што права на свабоднае выказванне свайго меркавання і правядзенне пікету прадстаўлена грамадзянам, адпаведна, артыкуламі 33 і 35 асноўнага закону краіны, а таксама артыкуламі 19 і 21 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах. Механізм рэалізацыі гэтага права вызначаны законам «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь».

Яны дзясяты год імкнуцца ўзнавіць парушаныя правы свайго сына, які знаходзіцца за кратамі. Аляксандру Каваленку спачатку пагражалі, а ў 2006 годзе сфабрыкавалі супраць яго крымінальную справу. За кратамі мужчына правёў 3 гады і 2 месяцы, аднак у 2010 годзе быў рэабілітаваны. Зараз разам з жонкай ён працягвае абараняць правы свайго сына і іншых грамадзян Беларусі.

ТРАДЫЦЫЯ

# ТЫДНІ ГЕРМАНІІ–2013 У БЕЛАРУСІ

**Тыдні Германіі, якія сёлета адзначаюць свой 10-гадовы юбілей, пачаліся ў гэтым годзе па традыцыі 26 верасня — у Еўрапейскі дзень моваў, і будуць доўжыцца да 20 кастрычніка.**

Яны адрасаваны ўсім, хто жадае пазнаёміцца з сучаснай нямецкай культурай, грамадствам і эканомікай.

Мерапрыемствы ў рамках «Свята нямецкай мовы» стануць адной з цэнтральных падзей Тыдняў Германіі. Важнымі пунктамі праграмы з'яўляюцца таксама мерапрыемствы Германскай службы акадэмічных абменаў (DAAD), Інфармацыйнае бюро якой у Мінску ў гэтым годзе адзначае 10 гадоў паспяховай працы.

Акрамя таго, Германія прадставіць беларускай грамадскасці фільмы, музыку, тэатральныя пастаноўкі, літаратуру, фотавыставу і шэраг іншых мерапрыемстваў. Школьнікі, студэнты, а таксама вучоныя і эксперты з'яўляюцца актыўнымі ўдзельнікамі праграмы.

Поруч з культурнымі імпрэзамі пройдуць і іншыя мерапрыемствы, якія тычацца палітычных аспектаў, гуманітарнай дапамогі і эканамічнага супрацоўніцтва.

Тыдні Германіі з цягам часу сталі нязменным складнікам працы ў галіне нямецкай культуры ў Беларусі. Яны праводзяцца Пасольствам Федэратыўнай Рэспублікі Германія разам з іншымі германскімі ўстановамі і нямецкімі пасярэднікамі ў галіне культуры ў Беларусі ў супрацоўніцтве з беларускімі партнёрамі.

Больш падрабязную і актуальную інфармацыю аб асобных мерапрыемствах і арганізатарах глядзіце на www.minsk.diplo.de.

ПАДЗЕЯ

# СЁМЫ ДЗЕНЬ НЯМЕЦКАЙ ЭКАНОМІКІ Ў БЕЛАРУСІ

**Генадзь КЕСНЕР**

**«Прафесійныя кадры для эканомікі — канцэпцыі, досвед, перспектывы» — галоўная тэма Сёмага дня нямецкай эканомікі ў Беларусі, які пройдзе 8 кастрычніка.**

Ён ладзіцца пад патранатам пасла Германіі ў Беларусі Вольфрама Мааса. Арганізатарамі таксама з'яўляюцца Прадстаўніцтва нямецкай эканомікі ў Беларусі на чале з Уладзімірам Аўгусцінскім і Нямецка-беларускі эканамічны клуб пад старшынствам Клаўса Баера.

Да ўдзелу ў мерапрыемствах запрошаны прадстаўнікі дзелавых колаў Беларусі і Германіі, беларускага ўраду, а таксама федэральных міністэрстваў Германіі, Саюза нямецкіх гандлёва-прамысловых палатаў, установаў адукацыі, галіновых саюзаў і арганізацыяў, установаў адукацыі.

Як адзначыў 25 верасня на прэс-канферэнцыі прадстаўнік пасольства Германіі Марцін Гізэ, сёлетняя тэма Дня нямецкай эканомікі ў Беларусі абрана невыпадкова. «Сучаснае прафесійнае навучанне і павышэнне кваліфікацыі спецыялістаў у адпаведнасці з актуальнымі патрэбамі — аснова эфектыўнай эканомікі, канкурэнтаздольнай на сусветным рынку. З прычыны дынамічнага эканамічнага развіцця ў свеце неабходна пастаянна надаваць увагу пытанням падрыхтоўкі і размеркавання спецыялістаў з улікам спецыфічных асаблівасцяў той ці іншай краіны, — сказаў дыпламат. — Не толькі фірмы, якія з'яўляюцца чальцамі Нямецка-беларускага эканамічнага клуба, адзначаюць цяперашнім часам дэфіцыт спецыялістаў у многіх галінах — вытворчасць, паслугі, менеджмент».

У рамках Дня нямецкай эканомікі маюць адбыцца прэзентацыі і дыскусія аб канцэпцыях ды вопыце прафесійнага навучання і павышэння кваліфікацыі спецыялістаў.

Па словах Клаўса Баера, сам Дзень нямецкай эканомікі пачнецца ён з пленарнага пасяджэння, у якім мяркуецца ўдзел дэпутата Бундэстага, а таксама кіраўніка аднаго з упраўленняў нямецкага міністэрства эканомікі. Запланаваны ўдзел у мерапрыемствах і прадстаўнікоў беларускіх уладных структураў. Клаус Баер нагадаў, што асноўнымі партнёрамі з беларускага боку з'яўляюцца Міністэрства адукацыі і Рэспубліканскі інстытут прафесійнай адукацыі (РІПА).

У другой палове дня адбудзецца прэзентацыя практычнага досведу ў арганізацыі прафесійнага навучання і павышэння кваліфікацыі спецыялістаў. Клаус Баер адмыслова прапанаваў наведаць Мінскі дзяржаўны ліцэй №12 (будаўніцтва), дзе ўжо рэалізуюцца праекты дуальнай адукацыі, пра якую, на вялікі жаль, мала хто ведае. «Раней нават заходнія партнёры крытыкавалі Германію за развіццё дуальнай адукацыі, арыентаванай на прафесійную падрыхтоўку спецыялістаў. Цяпер яны просяць, каб мы ім патлумачылі, як нам удалося гэта ўсё арганізаваць», — адзначыў кіраўнік Нямецка-беларускага эканамічнага клуба і выказаў упэўненасць, што нямецкі досвед у гэтым пытанні будзе вельмі карысны і для Беларусі.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# НАПЯРЭДАДНІ КРЫЗІСУ

Сяргей САЛАЎЁЎ



**«Беларускі эканамічны цуд» пакрысе падыходзіць да свайго лагічнага завяршэння. Чым далей мы ўзбіраліся на надзьмутую расійскімі датацыямі вышыню, тым больш балюча будзе падаць. Асабліва балюча гэта будзе для тых, хто шчыра верыў у нашу «стабільнасць» і высокі эканамічны рост, які дагэтуль дэкларуецца з высокіх трыбунаў.**

Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь правяло на тыдні аўкцыён па продажы валютных дзяржаўных аблігацый 105-га выпуску ў надзеі знайсці 100 мільёнаў долараў, неабходных для абслугоўвання знешняга доўгу краіны, у тым ліку і крэдыту ў 1 мільярд долараў, прадастаўленага Ашчадным банкам «Беларуськалію» пад гарантыі ўрада «сінявокай». Вынікі не радуюць: валюты ў краіне няма. Паводле дадзеных ААТ «Беларуская валютна-фондавая біржа», было зарэгістравана 5 здзелак на суму 22,51 мільёна долараў, што складае менш за чвэрць заяўленага аб'ёму. Мяркуючы па ўсім, у бліжэйшы час Мінфін РБ, правёўшы працу з дзяржбанкамі, страхавымі і іншымі кампаніямі, абвесціць аб даразмяшчэнні дадзенага выпуску. Аднак адбудзецца гэта толькі ў наступным месяцы, што не дазволіць уладам часткова прыкрыць зніжэнне золатавалютных рэзерваў у верасні.

Спадзявацца на «традыцыйны» для Беларусі прыход валютных паступленняў у краіну не выпадае. Выручка Беларусі ад экспарту нафтапрадуктаў у студзен–ліпені 2013 знізілася на 2,912 мільярда долараў, альбо на 29,9% у параўнанні са студзенем-ліпенем 2012 года, паведамляе Нацыянальны статыстычны камітэт. За 7 месяцаў бягучага года на экспарт было пастаўлена 8,994 мільёна тон нафтапрадуктаў, што на 22,1% менш, чым за аналагічны перыяд 2013 года. Экспарт у краіны па-за СНД знізіўся на 28,9% і склаў 6,159 мільёна тон, у грашовым выражэнні аб'ём экспарту ўпаў на 37,4%.

Значнае зніжэнне выручкі тлумачыцца як скарачэннем фізічных аб'ёмаў экспарту, так і зніжэннем экспартных коштаў. Зразумела, бо «разбаўляльна-растваральная афёра» скончылася. У святле таго, што Расія скароціць нам у 4-м квартале пастаўкі нафты, разлічваць на павелічэнне экспарту нафтапрадуктаў таксама не прыходзіцца — нам проста не будзе з чаго гэтыя нафтапрадукты рабіць.

На калій таксама спадзявацца не трэба. Беларусь ужо знізіла вытворчасць калійных угнаенняў у студзені-жніўні 2013 на 11,6% у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года да 3196,7 тысячы тон у пераліку на актыўнае рэчыва. У жніўні вытворчасць калію склала 215,4 тысячы тон, што на 48% менш, чым у ліпені, і на 50,3% менш, чым у жніўні 2012 года, паведамляе той жа Белстат. І тут таксама не прадбачыцца нічога лепшага. «Беларуськалій» нават вымушаны быў спыніць два з чатырох сваіх руднікоў на «планавы рамонт».

Не прадаецца і экспартная прадукцыя. Нават Мясніковіч адзначыў, што ў Беларусі не паляпшаюцца тэндэнцыі па аб'ёмах вытворчасці і рэалізацыі, а таксама запасах гатовай прадукцыі.

А нам трэба валюта, каб расплачвацца па крэдытах. Калі валюты не будзе — краіна можа аб'явіць дэфолт, то бок немагчымасць разлічыцца па знешніх займах.

Але не толькі дзяржава зараз знаходзіцца ў складаным становішчы. Людзі, асабліва тыя, якія глядзяць БТ з іх рэгулярнай канстатацыяй «квітнеючай Беларусі», таксама адчулі гэтае «квітненне» ў сваіх кішэнях. Найперш гэта тычыцца тых, хто набраў рублёвых крэдытаў.

Згодна паведамленню Нацбанка, праблемная запазычанасць па рублёвых крэдытах вырасла за студзеньжнівень на 79,1% да 208,3 мільярда беларускіх рублёў. Нягледзячы на гэта, банкі працягваюць нарошчваць аб'ём выдадзеных фізічным асобам крэдытаў у нацыянальнай валюце. На 1 верасня 2013 года аб'ём крэдытаў склаў 48,195 трыльёна рублёў, павялічыўшыся на 23,6% з пачатку года.

Між тым, запазычанасць па валютных крэдытах зніжаецца: рэшта такой запазычанасці знізілася на 28,4% за 8 месяцаў бягучага года да 98,7 мільёна долараў на 1 верасня 2013 года (з 2009 года дзейнічае забарона на валютнае крэдытаванне фізічных асоб). Праблемная валютная запазычанасць склала 15,5 мільёна долараў, знізіўшыся на 18,8% з пачатку года.

То бок, валютныя крэдыты пацiхупатроху аддаюцца, чаго не скажаш пра рублёвыя. Альбо насельніцтва чакае дэвальвацыі, каб хутка пагасіць свае пазыкі «патаннеўшымі» грашыма, альбо на прадпрыемствах перасталі павышаць заробак. У святле таго, што кошты растуць рэгулярна, грамадзяне проста не разлічылі свае фінансавыя магчымасці, набраўшы крэдытаў больш, чым яны могуць аддаць.

А насельніцтва чакаюць яшчэ горшыя часы. Мы шмат пісалі пра тое, што імклівае падражанне паліва напачатку верасня выкліча і іншыя наступствы. Гэтага доўга чакаць не прыйшлося. Нягледзячы на тое, што ў сакавіку мінскія ўлады адмовіліся ад планаў павышэння платы за праезд, зараз яны вымушаныя вярнуцца да гэтай ініцыятывы. Намеснік дырэктара ГП «Мінсктранс» Ірына Якубоўская паведаміла, што дакумент аб падвышэнні кошту праезду з 1 кастрычніка на 500 рублёў да 2,5 тысяч рублёў пададзены на ўзгадненне. Гэта выклікана ростам коштаў на паліва.

Як вядома, рост кошту праезду ў Мінску аўтаматычна цягне за сабой адпаведнае павышэнне коштаў і ў рэгіёнах. Так што салодка не будзе нікому.

Збегчы ад эканамічнага крызісу, набываючы больш якасныя і больш танныя тавары за мяжой, пакуль што можна. Але хутка будзе нельга. І не толькі з-за таго, што наш любімы ўрад абмяркоўвае ініцыятыву не менш любімага Аляксандра Рыгоравіча пра вызную пошліну «100 баксаў на рыла». Нядбайная свінячая гаспадарка з яе афрыканскай чумой таксама ўносіць свае карэктывы ў сітуацыю.

Украіна ўвяла часовыя абмежаванні ў працы пунктаў спрошчанага пропуску на мяжы з Беларуссю. Па інфармацыі Дзяржаўнай памежнай службы Украіны, у сувязі з санітарна-карантыннымі мерапрыемствамі з 20 гадзінаў 25 верасня 2013 года ў спрошчаных пунктах пропуску праз дзяржаўную мяжу Украіны і Беларусі часова забаронены рух транспарту.

Пропуск грамадзян у гэтай катэгорыі пунктаў пропуску будзе ажыццяўляцца ўкраінскім бокам толькі ў пешым парадку, усе транспартныя сродкі (у тым ліку матацыклы і ровары) будуць перанакіроўвацца на бліжэйшыя міждзяржаўныя і міжнародныя пункты пропуску для правядзення неабходных відаў кантролю.

Збегчы ад крызісу не атрымаецца.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### МЕЧЫСЛАЎ ГРЫБ



28 верасня свае 75-годдзе адсвяткаваў былы спікер Вярхоўнага Савета 13-га склікання Мечыслаў Грыб. Мечыслаў Іванавіч вядомы не толькі як дзяржаўны дзеяч, пад кіраўніцтвам якога была прынятая першая Канстытуцыя Беларусі, але і як выбітны следчы. У 1985 годзе, стаўшы начальнікам упраўлення ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкама, ён узначаліў расследаванне так званай «Віцебскай справы» аб серыйным маньяку — забойцу Міхасевічы, і давёў гэтую справу да канца: у тым жа годзе забойца 43 жанчын быў арыштаваны.

«Я не працую , таму што працаваць мне не даюць. Ды і ўзрост не той. Пасля сыходу з пасады кіраўніка Вярхоўнага Савета пайшоў у Мінскую калегію адвакатаў. Адпрацаваў толькі 6 месяцаў — пазбавілі ліцэнзіі за тое, што ўдзельнічаў у шэсці, прысвечаным трэцяй гадавіне прыняцця Канстытуцыі. Уладкаваўся выкладчыкам у Інстытут правазнаўства, але і там чытаў лекцыі нядоўга. Улады папярэдзілі кіраўніцтва інстытута, што калі мяне не звольняць, ВНУ закрыюць. Пасля гэтага зразумеў, што нідзе ўладкавацца не змагу, нават на месца простага выкладчыка», — расказваў Грыб.

Але ён усё ж атрымаў Пратакол пасяджэння Камітэта па правах чалавека ААН, у якім кажацца, што яго правы, прадугледжаныя артыкуламі 19 і 20 Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека, былі парушаныя, і ён мае права звярнуцца да ўладаў за вяртаннем ліцэнзіі на занятак адвакацкай дзейнасцю і па кампенсацыю прычыненых яму страт.

### АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ



Выбітнаму беларускаму праваабаронцу, віцэ-прэзідэнту Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека і кіраўніку закрытага ўладамі праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесю Бяляцкаму 25 верасня споўніўся 51 год. Як і мінулы дзень нараджэння, гэты ён сустракае за кратамі.

Нагадаем, праваабаронца быў затрыманы ў Мінску вечарам 4 жніўня 2011 года. У той жа вечар у яго кватэры, на лецішчы і ў офісе цэнтра "Вясна" прайшліператрусы. 12 жніўня Бяляцкаму прад'явілі абвінавачванне па частцы 2 артыкула 243 Крымінальнага кодэкса (утойванне даходаў у асабліва буйным памеры). Падставай для распачатага пераследу стала інфармацыя аб рахунках праваабаронцы ў літоўскім і польскім банках, перададзеная беларускім уладам Мінюстам Літвы і Генпракуратурай Польшчы ў рамках дамоваў аб прававой дапамозе з Беларуссю.

На замежныя рахункі Бяляцкага паступалі грошы ад міжнародных арганізацый, якія выкарыстоўваліся для аказання дапамогі рэпрэсаваным грамадзянам Беларусі і іх сем'ям.

У Вільні і Варшаве заявілі, што Мінск злоўжыў механізмам міжнароднай прававой дапамогі для расправы над праваабаронцам. Літва і Польшча папрасілі прабачэння ў Бяляцкага і яго родных, а таксама прыпынілі дзеянне пагадненняў аб прававой дапамозе з Беларуссю. Некалькі чыноўнікаў літоўскага Мініста і польскай Генпракуратуры пазбавіліся сваіх пасадаў.

24 лістапада 2011 года Бяляцкага прысудзілі да 4,5 год пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Вызвалення Алеся Бяляцкага запатрабавалі ад афіцыйнага Мінска аўтарытэтныя міжнародныя праваабарончыя арганізацыі, кіраўніцтва Еўрасаюза, ЗША і многіх іншых краін свету.

### МІХАІЛ МЯСНІКОВІЧ



Прэм'ер Беларусі Міхаіл Мясніковіч вырашыў тарпедаваць любімую цацку Пуціна — стварэнне Еўразійскага эканамічнага саюза. «Вымушаны канстатаваць, і я думаю, што мы ў гэтым плане будзем весці дыскусію па парадку дня, што ў цэлым працэс гэты прасоўваецца з цяжкасцямі. Хоць створана 12 працоўных груп калегіі ЕЭК (Еўразійскай эканамічнай камісіі — наднацыянальны орган кіравання), але яснасці пакуль няма па многіх пытаннях», — сказаў прэм'ер на пасяджэнні Вышэйшага Еўразійскага савета на ўзроўні кіраўнікоў урадаў у вузкім складзе.

«Прапануецца разгледзець прапанову казахстанскага боку — тое, што тычыцца асаблівa інстытуцыйнай часткі. Прапануецца новая структура Саюза (ЕАС). Шчыра кажучы, для нас, можа быць, з-за недахопу інфармацыі, не зусім зразумела, навошта гэта трэба», — сказаў беларускі прэм'ер.

Сапраўды, навошта ЕЭС структура? І так ужо розных «саюзных» бюракратаў зашмат. Так што Мясніковічу можна яшчэ і даць прэмію за барацьбу з бюракратызмам. Хіба што яму яшчэ трэба высунуць ідэю скарацiць розныя «саюзныя» органы на 25%.

ВЫБАРЫ

# КААЛІЦЫІ — У ЧАКАННІ НАРОДА

Таццяна ЛІСІЧЭНКА



**Вось і адбылося тое, чаго палітычна заангажаваныя асобы чакалі тры месяцы. Канчаткова сфармавалася новая кааліцыя: «Грамадзянскі альянс за справядлівыя і сумленныя выбары для лепшага жыцця «Талака». Зараз у нас ужо дзве кааліцыі апазіцыйных сіл.**

І «Талака», і «Народны рэферэндум» разлічваюць на падтрымку народа. У іх адны тыя ж мэты і задачы: змяніць сітуацыю ў краіне такім чынам, каб народ меў магчымасць уплываць на ўладу і яе рашэнні. У гэтым рэчышчы ўся розніца паміж імі палягае ў тым, не «што рабіць» (зразумела — абудзіць народ), а як гэта зрабіць. І вось тут ужо дзеянні розняцца.

«Народны рэферэндум» мяркуе, што аб'яднаць людзей можа патрабаванне таго самага рэферэндуму. Пытанні да плебісцыту былі ўжо абмеркаваныя падчас розных «фокус-групаў» на экспертным, рэспубліканскім і рэгіянальным узроўнях. Засталося толькі іх «прычасаць» — і ў кастрычніку ініцыятары рэферэндуму плануюць гэтыя пытанні агучыць. А калі пад патрабаваннем правядзення рэферэндуму падпішацца паўмільёна чалавек, то ўладам будзе складана ігнараваць гэтыя патрабаванні. Адпаведна, давядзецца праводзіць «Народны рэферэндум».

Для гэтага — збору подпісаў пад патрабаваннямі «народнага рэферэндуму» — будуць скарыстаныя выбары ў мясцовыя саветы. Акрамя таго, падчас гэтых выбараў аўтаматычна «вымалююцца» новыя рэгіянальныя лідары і, можа, кампанія выбараў дагрукаецца да шараговых чальцоў выбарчых камісій.

«Калі простыя людзі пойдуць кандыдатамі — мы будзем іх падтрымліваць. Калі мы здолеем разам казаць пра адно і тое, то можа здарыцца, што настаўніца ў камісіі раптам скажа, што разумее, чаму гэты чалавек павінен быць у мясцовым савеце і чаму гэтыя выбары павінны быць іншымі, паколькі гэта будзе ўплываць на яе жыццё. Выбары для ўсіх нас павінны стаць не пра пасаду, а пра нашу будучыню, пра тое, што мы прапануем, дзеля чаго людзям патрэбна пазбягаць фальсіфікацыі», — кажа адзін з каардынатараў «Народнага рэферэндуму» Андрэй Дзмітрыеў.

Кааліцыя «Талака» ідзе іншым шляхам. Яны адзначаюць, што пагаршэнне жыццёвага ўзроўню людзей найперш адбываецца з-за некампетэнтнага і несумленнага кіраўніцтва, якое змяніць немагчыма, бо ў краіне няма свабодных і сумленных выбараў. А таму людзі павінны актыўней удзельнічаць у выбарчых працэсах. І, калі колькасць такіх удзельнікаў перавысіць «крытычную масу», улада, зноў жа, вымушаная будзе хаця б лічыць галасы.

Адпаведна, падчас кампаніі мясцовых выбараў трэба прыцягнуць народ для ўдзелу ў працэсе. То бок, высоўваць «сваіх» людзей, дзе толькі можна: у выбарчыя камісіі розных узроўняў, у назіральнікі, у кандыдаты, і ў ініцыятыўныя групы кандыдатаў. Каб людзі «памацалі» выбары сваімі рукамі, зразумелі, што ў нас творыцца, і, адпаведна, запатрабавалі сумленных выбараў.

«На парламенцкіх выбарах 2012 года ў кампанііназірання «За справядлівыя выбары» бралі ўдзел каля двухсот чалавек, якія прыйшлі проста з вуліцы. Пасля выбараў не было лепшых за іх прапагандыстаў. Яны казалі: «Я ведаў, што выбары несумленныя, я чуў, што апазіцыя казала пра фальсіфікацыі, але каб выбары фальсіфікаваліся настолькі, я не ўяўляў!» У ініцыятыўнай групе адзінага кандыдата ў прэзідэнты ў 2006 годзе было тры з паловай тысячы чалавек. Калі іх будзе 15000, а на плошчу выйдзе 200000, улады памяняюць правілы гульні», — упэўнены лідар Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» Сяргей Калякін.

Карацей, як у Філатава: «Ранкам мажу бутэрброд, — раптам думка: «Як народ?». А вось народ, на жаль, для апазіцыянераў пакуль што не збіраецца збірацца ў «крытычную масу».

Згодна з ліпеньскімі дадзенымі Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД, Літва), народ заклапочаны кілбасой, а не свабоднымі выбарамі ці ўплывам на ўладу. Хоць ідэю рэферэндуму і падтрымлівае 52% насельніцтва, пра што радасна кажа Дзмітрыеў, на пытанне пра тое, якія праблемы павінны выносіцца на рэферэндум, 51,6% адказалі — эканамічныя. Пытанні рэформаў адукацыі, медыцыны і нават пенсійнай рэформы на дзясятку працэнтаў апярэдзілі такія тэзы, як адстаўка прэзідэнта і ўрада і наўпроставыя выбары мэраў гарадоў.

У той жа час ніхто не сумняваецца ў тым, што ўлада «пракіне» «Народны рэферэндум», колькі б тысяч подпісаў за яго не сабралі. Гэта тым больш тычыцца і справядлівых выбараў. У выпадку актыўнасці «Талакі» можна чакаць не лібералізацыі, а, наадварот, «таталітарызацыі» выбарчых працэдураў: у камісіі не дапусцяць ніводнага «левага» чалавека, а назіральнікаў пасадзяць у суседні з выбарчым участкам кабінет.

У такіх умовах, аднагалосна кажуць эксперты, апазіцыі застаецца толькі праца з насельніцтвам «пра запас» і нарошчванне кола сваіх прыхільнікаў і актывістаў.

Але і «экспертнае» меркаванне, на дадзены момант — шлях у нікуды. Нарошчваць колы актывістаў і ствараць «станоўчы імідж» апазіцыі лягчэй за ўсё без усялякіх выбараў, займаючыся «сацыялкай», вырашаючы мясцовыя праблемы грамадзянаў, чым з поспехам займаецца зараз амаль уся апазіцыя.

Адзіную дзейсную альтэрнатыву чаканню «народнай падтрымкі» зараз выявіў толькі «Малады фронт»: не асабліва разлічваючы на поспех, яны плануюць перамагаць на мясцовых выбарах у асобна ўзятым горадзе, — Салігорску. Не разлічваючы на тое, што да іх «далучыцца большасць», збярэцца «крытычная маса» альбо «зменяцца правілы гульні». У іх стратэгія простая, як у Партоса: «Я б'юся, таму што я б'юся».

Маладзёны не чакаюць народ — яны самі ствараюць падставы для таго, каб яго абудзіць. Паміж выслоўямі «ў нас няма выбараў», і «твой голас скралі», існуе вялікая розніца. Нават калі «МФ» не правядзе ніводнага дэпутата ў Салігорскі савет, у іх будзе падстава казаць: «Мы зрабілі ўсё, што маглі», а не «Мы нічога не рабілі, бо выбараў няма». Каб нічога не рабіць і чакаць народнай падтрымкі, шмат розуму не трэба. А вось каб змагацца і перамагаць у дзеючых умовах — вось гэта праблема.

З НАГОДЫ

# ПАЛІТВЯЗНЮ ІГАРУ АЛІНЕВІЧУ СПОЎНІЛАСЯ 30 ГАДОЎ

Таццяна ШАПУЦЬКА

**24 верасня зняволены анархіст Ігар Аліневіч адзначыў юбілей. Напярэдадні святочнай даты маці палітвязня распавяла апошнія навіны з турэмнага жыцця сына. У падарунак сыну Валянціна Аліневіч рукамі вышыла ільняную сурвэтку. Падарунак ад бацькоў Ігар Аліневіч атрымаў на тыдзень раней.**



Ігар з бабуляй на сямейным святце



Валянціна Аліневіч

— Не папярэджвала яго. Часам напішаш, дык «яны» спецыяльна зробяць нейкую гадасць, пасля засмучваешся толькі. Падарунак, на дзіва, вельмі хутка дайшоў. Гэтая сурвэтка асаблівая: лён не з крамы — яго мне аддала сяброўка, тканіну ўручную некалі даўно ткалі яе сваякі. Арнамент таксама з адмысловым сэнсам, а не проста ўзор, — кажа Валянціна Міхайлаўна.

Паводле яе словаў, Ігар Аліневіч хоць сюрпрызы не любіць, але падарунак ацаніў — падзякаваў у лісце і караценькім званку дадому.

— Ігар тэлефанаваў у тую суботу. Гэта заўсёды так нечакана і так радасна, што ты не сышоў з дому менавіта на гэтую секунду, а мог пачуць яго голас. Ад таго, што нашы сыночкі дарослеюць і становяцца злоснымі парушальнікамі рэжыму, здольнымі да нападу і ўцёкаў, любоў да іх не змяншаецца, — чулліва гаворыць Валянціна Аліневіч.

Пра што палітвязень піша ў лістах да бацькоў?

— Распавядае, з кім перапісваецца, якія кнігі прачытаў. Ён бярэ літаратуру ў турэмнай бібліятэцы, мы таксама высылаем кнігі і часопісы, што ён просіць. Цяпер перачытвае Дзюма, нядаўна адолеў апошні раман Барыса Акуніна «Арыстаномія» — быў пад уражаннем. Прачытаў усё, што змог знайсці, звязанае з гісторыяй ГУЛАГу. Кажа: як падумаў, што мне яшчэ трэба прачытаць, дык турэмнага тэрміну майго не хопіць. Турма нічога добрага сабою не ўяўляе, гэта адназначна. Але калі ён нічога не можа змяніць, дык займаецца самаадукацыяй, каб час не прайшоў дарма, — гаворыць Валянціна Аліневіч.

Цяпер, праўда, для чытання застанецца менш часу — па вечарах пасля працы Ігар Аліневіч будзе сядзець за партай. Пачаліся заняткі ў тэхнічнай вучэльні, куды нарэшце, праз тры гады адмоваў, прынялі хлопца. Палітвязень пісаў заявы на розныя спецыяльнасці, але прынялі яго толькі на краўца.

Апошні раз Валянціна Аліневіч бачыла сына ў чэрвені. Нягледзячы на тое, што доўгатэрміновае спатканне прадугледжвае трохдзённую сустрэчу, бацькам Ігара дазволілі пабыць з сынам толькі суткі. А Валянціне Міхайлаўне і таго меней — на дзень спаткання жанчыне, якая да звальнення выкладала ў БДЭУ, паставілі іспыт.

— Муж паехаў на машыне а 6 ранку, а я а 8-й гадзіне прыняла іспыт і на маршрутцы паехала ў Наваполацк. Гэта была субота, транспарт да калоніі — яна знаходзіцца за горадам між «Нафтанам» і «Палімірам» — у выходныя амаль не ходзіць. Чакала цэлую гадзіну, а кожная хвіліна ж дарагая… Пасля з адчаю выйшла на праезную частку, падняла руку — і тады мяне падвезлі.

Дарэчы, на днях Валянціна Аліневіч забрала з універсітэта працоўную кніжку — кажа, што адчула вялікую радасць, што эпапея з яе звальненнем нарэшце скончылася. Нагадаем, пасля выхаду кнігі палітвязня «Еду ў Магадан» жанчыне паставілі ўмову — ці сын, ці праца. Відавочна, што маці не кінула зняволенага сына.

— Не магу сказаць, што гэта было вельмі прыемна, аднак і не смяротна. Хутчэй, брыдка. Як можна руку падняць на маці? Тым болей, у іх не было ніякіх нараканняў на мяне — ніхто і не хаваў, што гэта палітычная замова. Сучасныя студэнты — таксама сумнае відовішча. Калі раней яны былі вельмі актыўныя, дык цяпер літаральна адзінкі словам падтрымалі. Большасць, як хамелеоны, падстройваюцца пад сітуацыю, — дзеліцца ўражаннямі Валянціна Аліневіч.

Жанчына кажа, што прапановы па працы ўжо ёсць, але ў бліжэйшы час яна збіраецца трохі адпачнуць і паправіць здароўе.

АДЗІНОТА

# СТАРАСЦЬ У ШПІТАЛІ

Таццяна ШАПУЦЬКА

**«Сацыяльны ложак» замест уласнай хаты, рэдкія візіты сваякоў, асноўная забава — тэлевізар. Карэспандэнт «Новага Часу» пабачыла, як гэта — дажыць да старасці і застацца патрэбным толькі лекарам.**








Шпіталь у вёсцы Доўгае. Тут жывуць пенсіянеры, якіх называюць «сацыяльнымі хворымі»



Я стаю на парозе невялікага ўчастковага шпіталя на сорак чалавек вёскі Доўгае ў Салігорскім раёне. Тут пад наглядам медсёстраў жывуць пенсіянеры, якіх называюць «сацыяльнымі хворымі». Прызнацца, я таксама верыла ў стэрэатыпы-страшылкі пра дзяржаўныя сацыяльныя ўстановы. Аднак прынамсі звонку не ўсё так страшна: перад мною дагледжаны двухпавярховы будынак са светлымі калідорамі і разнастайнымі пакаёвымі кветкамі, на вуліцы стаяць лавачкі для адпачынку. Унутры няма звыклага для палат з ляжачымі людзьмі паху. Як гаворыцца, бедненька, але чысценька.

«Сацыяльныя ложкі», дзе ляжаць адзінокія пенсіянеры, знаходзяцца на другім паверсе. На канапе ў калідоры сядзіць стары няголены мужчына ў спартовых штанах і заношанай кашулі ў клетачку. Ён чытае газету, якую сам і выпісаў. Трапіў сюды тры гады таму, бо няма каму даглядаць — сын жыве ў Бураціі (Расія). Неахвотна распавядае, чым звычайна займаецца днём: чытае, глядзіць тэлевізар, шпацыруе на двары, гуляе ў карты з суседзямі па палаце. Адказаць, чаму сын не забірае да сябе, не можа — душаць слёзы. Пытаюся пра сям'ю ў старэнькага інваліда, якому ампутавалі нагу, — таксама плача.

Старшая медсястра Ала Бычэня распавядае, што шпіталь абслугоўвае 13 навакольных вёсак. Збольшага старыя сюды трапляюць праз сацыяльныя службы. Упрошваць нікога не даводзіцца — калі нямоглыя людзі бачаць прыстойныя шпітальныя ўмовы, ахвотна застаюцца. Можна пажыць у шпіталі часова, а пасля вырашыць, ці вяртацца дадому. Некаторых старых прывозяць дзеці. Ала Бычэня прыгадвае выпадкі, калі сваякі забіралі старых дадому.

Некаторыя пенсіянеры, калі могуць самастойна хадзіць, выпісваюцца са шпіталя на лета. А ёсць і тыя, хто жыве тут ужо болей за дзесяць гадоў — практычна ад заснавання шпіталя сястрынскага нагляду. Пражыванне платнае — пацыенты аддаюць 80% пенсіі. Рэшта (400–500 тысяч) застаецца старым на садавіну, прысмакі, памперсы. Адных пенсій шпіталю не хапае — часткова фінансуе дзяржава. Таксама рэгулярна дапамагаюць розныя арганізацыі, напрыклад, «Чырвоны крыж», прадпрыемствы «Калінка», «Купалінка», аднак некаторых рэчаў, тых жа памперсаў, заўсёды мала.

Медсёстры хваляцца, што пенсіянерам, якія ходзяць самастойна, прапаноўвалі пераехаць у дом-інтэрнат, аднак усе адмовіліся — маўляў, тут і кампанія, і ўмовы. Палаты і сапраўды мала ў чым саступаюць сталічным: у пакоі тры ложкі, ля кожнага — тумбачка для асабістых рэчаў. Праўда, прыбіральні і душа ў палаце няма, яны размяшчаюцца ў адмысловых пакоях. Пенсіянеры абавязкова мыюцца раз на тыдзень, хто хоча — часцей. Вопратка і рэчы, што не патрэбныя кожны дзень, захоўваюцца ў агульным для ўсіх пакоі. Сталовая ўяўляе сабой невялікі пакой са сталамі і зэдлікамі — сюды прыходзяць толькі пяць чалавек, іншым прыносяць ежу ў палаты. На калідорах стаяць лядоўні, дзе можна захоўваць свае прадукты ці прысмакі, прывезеныя сваякамі. Пакой для медсёстраў сціплы: стаяць тры невялікія канапы, над імі — ікона.

У ванным пакоі — рукамыйнік, кушэтка і чыгунная ванна, вада награваецца бойлерам. Пакой не пустуе — 81-гадовая Ніна Пятроўна старанна мые цёмныя штаны. «Яны ў мяне чыстыя, я ў іх сплю, але ж скатваюцца чорныя галушачкі, а прасцінка-то белая, дык застаюцца на ёй. Дык думаю, дай пайду выпалашчу галушачкі. Ну шоб культура была!» — ахвотна тлумачыць бабулька і запрашае да сябе ў палату.

«Я адна, у мяне нікога жывога няма, пяць братоў на тым свеце. Я плачу, хату пакінула на замку, а ў вёсцы адной, без мужыка, вы ведаеце… Я пад Каляды сюды прыехала, перапісала хату на чужога чалавека з Салігорска. Перад Калядамі перанасіла машыну дроваў, спаліла ў грубцы. Дровы сама і секла, і пілачкаю «Дружба» пііліла… Пасля гэтага мяне ў шпіталь і забралі. Сказалі — як упадзеш зімою, дык не будзе каму цябе і падняць», — гаворыць Ніна Пятроўна.

Сям'і ў бабулькі няма. «Я была на двух працах: калгас апрацоўвала і ў школе тэхнічкаю была. Вы ведаеце, наглядзелася на мужыкоў… Школа, а цераз вуліцу — магазін. Нап'ецца мужык, прыйдзе жанчына па яго, а ён што — як ухопіць яе! Адной разбілі галаву, яна памерла. Як наглядзелася я, як стала мне страшна, і кажу: замуж не пайду! А колькі да мяне сваталася! Я замуж не выходзіла, і на сённяшні дзень я жыву дзяўчынаю», — распавядае сваю гісторыю Ніна Пятроўна. Пенсіянерка не прызнаецца, ці шкадуе пра самотнае дзявоцтва: «Колькі не кайся — назад не павернеш. А ўжо ж не сямнаццаць гадоў, каб замуж ісці».

«Дзве казы было, дзесяць курэй і дзесяць індыкоў было», — пералічвае бабулька сваю жыўнасць. «Усё пабраў мужчына, якому хату перапісала. Усё парэзалі… А індыкі ж у мяне такія здаровыя былі! Давала і пшаніцу, і хлеб з малаком, а яны толькі крапіву елі! Сама лягчэй — гэта трымаць індыкоў. Качкі — пражырайлы, іх трэба карміць і карміць з рук, а індыкі самі шукаюць ежу», — дзеліцца досведам бабулька.

Ніне Пятроўне ў шпіталі падабаецца, але засмучае, што даводзіцца мыцца ў ваннай: «І ногі баляць, і рукі аднялiся, галава не сціхае, а мяне цягнуць і саджаюць у тую балею. А мне казалі раней, каб я ног у гарачую ванную не сувала, каб грэла ваду ў тазіку на сонцы і гэтаю вадою ногі абмывала — яна лячэбная. Таму і гараю».

Дарэчы, у штаце шпіталя сястрынскай дапамогі мужчынаў няма, таму выконваць усю фізічную працу вымушаныя жанчыны. Быў выпадак, калі ляжачая бабуля ўпала з ложка — падняць яе здолелі разам тры медсястры. Штат шпіталя невялікі: чатыры палатныя медсястры, восем санітарак, раздатачная медсястра, медсястра па гаспадарскай частцы, два повары і загадчыца. Псіхолага, які, думаецца, неабходны для самотных старых, няма.

Суседка Ніны Пятроўны не ходзіць. Жанчына хворая на цукровы дыябет, яе гаворку цяжка зразумець. Аднак з хрыплага шэпту ўдаецца разабраць, што жанчына тут жыве ўжо болей за год. Прывезла дачка, бо мала месца ў кватэры. Ад Салігорска да вёскі Доўгае каля 20 кіламетраў, але дачка з унукамі наведвае маці рэдка — недзе раз на два месяцы.

У палату прыносяць абед — боршч з хлебам, грэчку, курацiну, — таму развітваюся з бабулькамі і выходжу.

Медсёстры неадназначна ацэньваюць сваякоў, якія прывозяць старых у шпіталь: «Канешне, старыя крыўдзяцца. Але што дзецям рабіць — кідаць працу дзеля іх? Мне падаецца, тут ім лепей. Як іх пакінуць дома адных? Ніяк. Мала ці што — упадзе, будзе ляжаць… Пакарміць трэба, лекі даць, уколы калоць, ціск мераць. Я лічу: гэта добра, што ёсць такія ўстановы». Другая медсястра лаканічна адказвае: «Нікому не пажадаю такой старасці. І такіх дзяцей».

**Матэрыял быў падрыхтаваны ў межах прэс-тура ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»**

## Лічбы і факты:

- Усяго ў Беларусі 79 дамоў састарэлых, у якіх стала пражываюць каля 19 тысяч чалавек. У Мінску чарга ў дамы састарэлых налічвае больш за 300 чалавек.
- У арганізацыях аховы здароўя працуюць 182 герыятрычных кабінеты, 7 герыятрычных цэнтраў (ва ўсіх рэгіёнах). Для стацыянарнага лячэнне выдзелена 1420 палат для ветэранаў ВАВ.
- У Беларусі кожны чацвёрты жыхар краіны — пенсіянер. 20% жыхароў нашай краіны — людзі, старэйшыя за 60 гадоў. Трэцяя частка візітаў у паліклінікі прыпадае на людзей сталага ўзросту. Прычым медыкі мяркуюць, што людзей 70–75 гадоў па іх стане здароўя можна аднесці да інвалідаў трэцяй групы, а тых, каму больш за 80, — да другой. Не ўсе людзі сталага ўзросту маюць штодзённую патрэбу ў медыцынскай дапамозе, але многія практычна жывуць у шпіталях, бо дома родныя не могуць забяспечыць ім неабходны догляд.
- Паводле міжнародных звестак, старэнне насельніцтва — з'ява, аднолькавая для ўсіх развітых краін. Дэмографы прагназуюць, што да 2030 года ў большасці з іх доля людзей ва ўзросце 60 і больш гадоў будзе складаць 20–30% ад усяго насельніцтва Зямлі. Цяпер такая сітуацыя ўжо ёсць у Вялікабрытаніі, Швецыі, Швейцарыі, Даніі і іншых еўрапейскіх краінах
- У Беларусі створаны і дзейнічаюць больш за сотню дамоў сястрынскага догляду. Каб туды патрапіць, трэба падаць адпаведную заяву і мець выпіску з амбулаторнай карты. Згодна з інструкцыяй Міністэрства аховы здароўя, кожны тыдзень галоўны ўрач павінен агледаць пацыентаў, а персанал — круглыя суткі назіраць за іх здароўем.
- У Аўстрыі колькасць медыцынскіх паслуг на даму вырасла на 30%. Там чалавеку, якому патрэбны догляд, даецца дзяржаўная датацыя, якая пакрывае выдаткі на сядзелку, медсястру і таму падобнае. 80% насельніцтва, якое мае патрэбу ў доглядзе, жыве дома.
- У Германіі большасць такіх паслуг аказваюць прыватныя фірмы. Чалавек можа выбіраць тую, якая яму больш падабаецца. У ЗША паслугі на даму прапануюць сертыфікаваныя агенцтвы, якія фінансуюцца праз федэральныя праграмы. Амаль два мільёны чалавек карыстаюцца гэтым. Ёсць такія, якія фінансуюцца рэлігійнымі, этнічнымі і дабрачыннымі арганізацыямі.
- У Нідэрландах старым і хворым на даму дапамагаюць 150 тысяч супрацоўнікаў. 2 мільёны пацыентаў атрымліваюць сястрынскую і сацыяльную дапамогу. Дзеля гэтага кожны грамадзянін краіны адлічае 4% ад свайго даходу. Там працуе прынцып аднаго акна: чалавек звяртаецца да свайго ўчастковага ўрача, той накіроўвае запыт у муніцыпалітэт, а там ужо вызначаць, колькі гадзін, на якім узроўні і ў якім месцы будуць даглядаць пацыента.

ALBA ROCIKA

# ВАЛАДАРСТВА КНЯЗЁЎ КОРСАКАЎ

Віталь СЯМАШКА

**Днямі, як гэта ўжо не раз бывала за 7 гадоў знаёмства, зноў патэлефанаваў на Маладзечаншчыну, у Вайтэлі. Гэтым разам званок у фермерскае сямейства Корсакаў быў трывожны — гаспадару ды заснавальніку, 53-гадоваму спадару Кастусю, зрабілі аперацыю на сэрцы.**





Кастусь Корсак


Андрэй Корсак

Разумеў, што давялі праца па 25 гадзінаў на суткі, бясконцыя вертыкальныя рагаткі ды забароны. Хоць і любіў казаць, што «сена скасілі, хімпраполку зрабілі, можна і на курорт рвануць». Праўда, калі там быў апошнім разам?! Але — дайце веры — пачуў у слухаўцы ягоны бадзёры голас. Маўляў, аперацыя прайшла паспяхова.

І тут жа — пра крэўнае, пра гаспадарку. Найперш, мала таго, што са сваіх 351 гектара сёлета дзяржзаказ на 200 тон зерне выканалі, сябе забяспечылі, дык яшчэ людзям, каму трэба, па кідкіх цэнах прадаюць лішкі. А яшчэ спраўдзілася даўняя мара пра будаўніцтва сховішча, бо ў пазамінулым годзе з-за яго адсутнасці на зямлі ляжала 100 тон пшаніцы. Вось з кароўнікам з-за хваробы пакуль нявыкрутка. Але ў сыноў — Андрэя з Алесем — на тое ўжо ёсць планы…

## Пачатак валадарства

У фермерстве былы калгасны інжынер-механік Кастусь Корсак ужо паўтара дзесяцігоддзі. Пачынаў з 43 гектараў зямлі з правам перадачы ў спадчыну. З жонкай, былым педагогам Наталляй, якая з-за гэтага недапрацавала да пенсіі. Цяпер тэхніка, да сотні свіней, статак кароў. Збірае багацейшы ўраджай збожжа.

Як спецыяліст, і ў калгасе цаніўся па вышэйшай шкале. Быў старшыня райвыканкаму, каб прадухіліць ягоны сыход з гаспадаркі, нават прапанаваў налічыць яму заробак па тагачасных коштах у тысячу (!) долараў. Але Кастусь ужо тады быў свядомым у сваім выбары — не мог жыць пад «дурным» начальніцкім прымусам. Калі проста нецікава. Ён сказаў мне пра гэта напачатку знаёмства:

— Калгасы — штучнае ўтварэнне пры камуністах. Як дагэтуль кажуць — усё вакол калгаснае, усё вакол нічыё. Сітуацыя. Прыходзіць трактарыст на мехдвор. Хто тут гаспадар? Старшыня калгаса — такі ж наёмнік. Сёння ён ёсць, заўтра яго з трэскам вымелі. Садзіцца на трактар — зноў жа нічый! На чыё поле едзе? Нічыё! Нічыё ж насенне без імпэту засявае. Аднак на сотку у тых самых механізатараў што ёсць — паглядзіце! Во дзе ўраджай сапраўдны. А дзяржаўныя мільярды — бухаюць як у чорную дзіру. У фермерстве праслаўтая калгасная халява не праходзіць. З зямлёй тут кожны сам-насам. Дый добры дзядзька зверху не тое што не дапаможа — будзе чыніць перашкоды. Таму выжываюць толькі мацнейшыя.

Патлумачу. Гадамі Корсакі прасілі дазволу падвоіць, а то і патроіць колькасць арэндаванай зямлі. Балазе, побач ляжачы СВК імя Янкі Купалы. Дый 58-ы прэзідэнцкі ўказ «Аб фермерскай гаспадарцы» не тое што дазваляў — прымушаў мясцовыя ўлады спрыяць вызваленню надзелаў у вольнае карыстанне з так званых «зямель запасу».

Але тагачасны старшыня Маладзечанскага райвыканкама Касабуцкі адкрыта казаў: «У сваім калгасе зямлі такім, як вы, не даваў, не дамо і тут». Зрэшты, неяк улады згубілі пільнасць. Аддалі Кастусю калгасны палетак, на якім з-за бур'яну і трактара не было відаць. Тады Корсак, кіроўца з 30-гадовым стажам, кульнуўся на бок на трактары з плугам, калі перад ім раптам з-за зарасніку ўзнікла насыпаная мяжа ў чалавечы рост. Але ў той жа год упартае сямейства Корсакаў сабрала па 40 цэнтнераў з гектара. Бадай, пасля гэтага нарадзіўся яго фермерскі маніфест, якога трымаецца і па сёння:

— Фермерам калгасныя начальнічкі зайздросцяць і баяцца. Не толькі з-за канкурэнцыі. Прафесіяналізму і свабоды болей у нас. Можна пачытаць кніжкі, цяпер internet, але як няма знутры прызвання, не будзе толку. Зверху паступае каманда дуралома якога-небудзь — тут сей авёс, тут кукурузу. А я ведаю, што там бульбу, а там кукурузу, а не наадварот! Так і раблю. І ніхто не прыляціць у 6 раніцы і на планёрку ці селектарную нараду не пагоніць.Таму нас не любяць вертыкальшчыкі. Бо што такое аддаць зямлю? Я ж яе не вывезу, яна нідзе не дзенецца. І ў мяне карані пушчаныя, што не выкарчаваць. Але я буду гаспадаром! Я не буду сядзець і думаць, з чаго плаціць заробак. З выручкі! А яна з рынкаў збыту, якія шукаю, дзе хачу і магу. Яны ж не могуць разабрацца з «указіўкамі», а райсельгасупраўленне, фінансавыя службы — з размеркаваннем датацый. Зрэшты, боязь выпусціць уладу — вось што гэта!

## Нашчадкі

Нашчадкі жывуць ды фермерствуюць з бацькам ужо 6 гадоў — 30-гадовы, каржакаваты ды разважлівы Алесь ды 28-гадовы, хударлявы, лірычны Андрэй.

Кастусь расказаў мне гісторыю. 20 гадоў таму калгасная брыгадзірка ехала па дарозе ў часе жніва. І… раптам знепрытомнела. На яе поўнай хадой рухаўся трактар з прычэпам, набітым зернем. Кіроўцы не было! Ва ўсякім выпадку, бачна. Бацька на яе расповед пасмяяўся, сказаўшы, што трактар з аўтаматычным кіраваннем. Брыгадзірка хутчэй паверыла ў гэта, чым у тое, што за рулём, нябачны, сядзеў 10-гадовы тады Алесь.

У апошні прыезд, пакуль браты завіхаліся на двары, я завёў гаману з жонкай Андрэя, 27-гадовай Настай, якая адначасова ладзіла іх любімае сняданне — бульбу з мясам на «пекнай» скварцы. Спытваю, ці цяжка былой гарадской жыхарцы стаць жонкай фермера?

«Ды не, як і ўсім жонкам, трэба ўбіраць, гатаваць — расказвае маладая гаспадыня. — Замужам я трэці год, дзіцяці 2 гады і 2 месяцы. Добра, што ў іх вольны графік — мужа можна ўзяць з сабой куды паехаць. Ну і маральнае задавальненне, бо працуеш на сябе — што заробіш, тое тваё. Будзе на што, дзе і як Кірушу вырасціць…»

Прыходзяць і радком сядаюць за стол Алесь і Андрэй. За гарбатай заводзімся на жыццё-быццё, якое, кажуць, ужо без фермерства не ўяўляюць. Цікаўлюся, як дапамагае фінансавая адукацыя. Браты адказваюць разам:

— Умеем пісьменна шукаць інфармацыю, на электронны адрас рахунак аплаціць. У бацькі кліент-банк на ноўтбуку стаіць з электронным подпісам — аплачвае тавары, запчасткі, паліва, хімію. Эканомія часу! А 10 гадоў таму выпісаў тавар у Віцебску, забіраеш плацёжку ў Маладзечна — і зноў у Віцебск. Дый на расійскіх форумах з калегамі можна пагутарыць: ты ім пра сваё, у іх нешта ўзяць можна…

***— 6 гадоў таму ваша мара, пра якую казалі, была — зрабіць уласны мехдвор. Ажыццявілася?***

— Ну яшчэ б пару трактаркоў неблагіх, — смяюцца браты. — А так ужо паўнавартасная гаспадарка — 2 трактары 1221, 952-і ўзялі, два 82-х, 2 маленькіх 320-х трактароў, 2 добрых камбайны зернеўборачных, сеялкі, апырсквальнікі, акучнікі новыя, касілка. Складоў бракуе, пад зернеачыстку дах трэба, каб вялікія машыны маглі заходзіць. Будзем развіваць мяса і малако. Раней праз хату ў людзей карова была. Зараз у 30 хатах — тры, дзве ў нас. І з бацькам рашылі — паставім бліжэйшым часам статак на 20–25 кароў, будзем даглядаць за імі…

***— Колькі падсобных рабочых бераце?***

— Калі і 10 хапае, калі і 50 замала — у сярэднім 20, у залежнасці ад ураджаю. Сёння сонца, заўтра буран…

Раней ураджайнасць на новых землях была 40 цэнтнераў з гектара… Цяпер на асобных участках і 65 не мяжа, некаторыя і 15 гектараў не далі. 100 гектараў сенакосу далі, дзе не касілася апошнія 8 гадоў. А гаспадара прыдбала зямля, глядзіць заўсёды іншымі вачыма, ды і яна інакш на цябе глядзіць. Увогуле, ёсць сярод нас прышлыя людзі, якія не зямлю апрацоўваюць, а імкнуцца бабло грэбці — думаюць, пасадзіў, убраў — і о-па, па кішэню грошай. А не, зямля потым 5–6 год пустая стаіць…

Не ўтрымліваюся, каб не запытацца пра стаўленне да палітыкі і розных выбараў. Хлопцы зноў усміхаюцца:

— Нашага кандыдата няма! Нібы, у парламенце законы ды ўказы прымаюцца. Адведзены 10-дзённы тэрмін на папяровую валакіту. А што на самай справе? Тое, што напісана, не зрушваецца гадамі. Ісці кожны раз скардзіцца ў пракуратуру? Парадак прадстаўлення зямлі для фермерскай гаспадаркі прапісаны акуратна. Калі прыходзіш у кабінеты — во пастановы Саўміна за нумарам такім-та, толькі веямі хлопаюць, бо самі не ведаюць. Дык чаго за іх ісці галасаваць?!

## Суседзі ды аднадумцы

Вайтэлям, нягледзячы на старажытную гісторыю, што ідзе ад часоў ВКЛ, на росквіт ды дабрабыт не шанцавала. Не толькі за польскім часам, калі вёска была на самай мяжы з СССР, а з часоў аж царскай Расіі. Кінуўся са мной ва ўспаміны ў першы прыезд старэйшына і старэйшы па веку сярод вяскоўцаў, былы бухгалтар, тады 84-гадовы Міхаіл Кісель.

— Паны не далі вяскоўцам зямлі, і мала людзей засталося. Во ў Валодзьках па валацэ (21 гектар) на сямейства пры сталыпінскай рэформе давалі. І людзі паехалі ў Амерыку, Францыю на заробкі. А пры Польшчы ніякіх вытворчых аб'ектаў не было, бо былі «крэсы ўсходні». Я скончыў 7 класаў — і далей нікуды, бо беларус і праваслаўны…

На сямейства Корсакаў не можа нахваліцца:

— Я і сам у іх падпрацоўваў. Кастусь дапамагаў бульбу пасадзіць, палеткі ўзараць. Каней не было з лесу дроў прывезці, зерне памалоціць — усё ён! Захварэлі кабаны. Ён і ўкольчык зробіць, і параіць. Папросіш — ніколі не адмовіць. На зямлі гэтыя людзі вельмі неабходныя...

Маладыя Корсакі праводзяць мяне да суседзяў і сяброў, чыя фамільная сядзіба ў сотні метраў. Пад 100-гадовай грушай на ўваходзе слупок з надпісам «Галубоўшчына». А на дварэ — маляўнічы гарадок з дрэва. Тут і кахлёвы самаробны калодзеж, сухое дрэва са шпакоўнямі, лаўка з коламі ад гарматаў часоў першай сусветнай. А яшчэ — прыбіральня з кнігамі на паліцах! Між іншым, гаспадары гандлююць па вёсках з кніжнымі аўталаўкамі.

Каб не Корсакі, кажуць гаспадары, не толькі за гаспадаркай не было б каму прыглядзець, але і ўтрымаць чатыры соткі гарода дзве з кветнікамі.

53-гадовага прадпрымальніка Ігара Ігнаценку, жонка, хатняя гаспадыня Галіна, называе фантазёрам. Яна карэнная, ведае свой радавод у трох каленах. З задавальненнем расказвае:

— Гэта зямля прадзеда майго — Рабушкі Сцяпана, які купіў тут зямлю. І раздаваў яе сынам — засценак з трох хат, называўся Галубоўшчына. У бабулі і дзядулі 10 гектараў было зямлі. Забралі пашу камуністы, лес, лугі. Бабулі прыйшлося з малымі дзецьмі працаваць на двух гектарах. Але конь быў, авечкі, свінні. У 53-м калгас прыйшоў — і ўсё туды сышло… Тым не менш, 100 год дому — уяўляеце, якая моц сыходзіць ад яго?! У падвале хавалі прадукты ад партызан — яны маглі ўсіх расстраляць, немцы хоць цукерку пакідалі дзіцяці, як цешча расказвала. Але сказаць пры бацьку, што Сталін дрэнны, нельга было, бо за яго падымаўся ў атаку. Аднак Лукашэнку не любіў, — падморгвае суразмоўніца.

***

У той дзень спадар Кастусь з'явіўся толькі пры канцы дня — ездзіў на «Лідсельмаш» за запчасткамі. Разам з сынамі імкліва гартаў прывезеныя мной у падарунак кнігі з «Бібліятэкі «Свабоды» — у сям'і гавораць па-беларуску, нашу літаратуру любяць.

Корсакі не без годнасці расказваюць, як знаёмы краязнаўца паведаміў, што іх род княжы з часоў ВКЛ. На Полаччыне дагэтуль існуе вёска Корсакі. Марацы дабрацца да архіваў, каб пераканацца ў сваіх славутых каранях дакументальна. Пры канцы з маладым напорам ды весялосцю цвердзілі: «У нас фермерская рэспубліка, а на сваёй зямлі і сёння будзем княжыць давеку!»

7

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 30 ВЕРАСНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

### Беларусь 1

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.45** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Камедыйная меладрама «Шукайце маму» (Расія).
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.25** Клуб рэдактараў.
**14.15** Вакол планеты.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Журналісцкае расследаванне.
**15.55** Заўтра - гэта мы!
**16.25** Усё як мае быць!
**16.50** Меладрама «Час шчасця-2».
**19.20** Адмысловы рэпартаж АТН.
**19.40, 23.25** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.45** Прэм'ера! Фантастычны серыял «Каўчэг» (Іспанія). 1-я серыя.
**00.00** Дзень спорту.
**00.15** Камедыйная меладрама «Ашуканцы» (ЗША).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здарова!».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** Прэм'ера. «Самы лепшы муж».
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** Прэм'ера. «Ясмін». Шматсер. фільм.
**16.15** Прэм'ера. «Хатняя прыслужніца». Шматсерыйны фільм.
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.05** Прэм'ера. Ток-шоў «Пазіцыя».
**22.05** «Цюдоры». Шматсерыйны фільм.
**00.20** Камедыя «Вялікі белы зман».
**02.05** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Тыдзень».
**09.40** «Вялікі сняданак».
**10.20** «Жыць будзеце».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Жанчыны ХХ стагоддзя».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.30** «Зорны рынг». Дайджэст.
**15.30** «Чыстая праца».
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Сакрэты старажытных прыгажунь».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**20.25** Фільм «Самотныя сэрцы». Германія - ЗША, 2005г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».
**00.50** «Прафесійны бокс».

### Беларусь 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Жураў-2».
**10.15** Навіны надвор'я.
**10.50** Эксцэнтрычная камедыя «Дзелавыя людзі» (СССР).
**12.30** Баявік «Забароненае царства» (ЗША-Кітай).
**14.35** Тэніс. Турнір ВТА. Пекін. Жанчыны.
**16.45** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**23.05** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**00.05** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».

### Беларусь 3

**07.30** «Дабраранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Одной звезды я повторяю имя..» Дакументальны фільм Пятра Клімука.
**08.40** «Лёгка сказаць». Жонка рэжысёра Міхаіла Пташука - Лілія Пташук.
**09.05** «Тэатр. Выбранае». Народны артыст Беларусі Аўгусцін Мілаванаў.
**09.35** «Доктар Жывага». Экранізацыя рамана Барыса Пастэрнака. 6-я серыя.
**10.20** «Дыя@блог». «Пра мову».
**10.45** «Мілаш Форман: тое, што цябе не забівае..» Дак. біяграфічная драма.
**12.25** «Святло далёкай зоркі». Заслужаная артыстка Алена Васільеўна Рынковіч.
**12.55** «Кінарэжысёр Віктар Тураў». Дакументальны фільм.
**13.20** «Палескі пачастунак». Дранікі..
**13.40** «Каманда». Дакументальны фільм.
**14.10** «Адступнік». Рэжысёр, заслужаны артыст Расіі Валерый Рубінчык.
**14.30** «Скарбніца Гарадзеншчыны». Гарадзенская жамчужына.
**14.55** «Міфалагемы Родзіна». Дакументальны фільм пра мастака Алеся Родзіна.
**15.15** «Крушэнне імперыі». Гісторыка-рэвалюцыйны фільм.
**16.50** «Наперад у мінулае».
**17.15** «Запаведнай сцежкай». Заказнік «Галубіцкая пушча».
**17.40** «Дзве цвярдыні». Цэрквы-крэпасці Белай Русі. Дакументальны фільм.
**17.55** «Малады дубок». Кароткаметражны фільм паводле твора Якуба Коласа.
**18.25** «Музычны майстар». Дак. фільм.
**18.40** «Калейдаскоп».
**18.50** «Волга-Волга». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.45** «Цераз могілкі». Мастацкі фільм.
**22.05** «Дыя@блог». «Пра мову».
**22.35** «Доктар Жывага». Экранізацыя рамана Барыса Пастэрнака. 7-я серыя.
**23.20** «Адступнік». Рэжысёр, заслужаны артыст Расіі Валерый Рубінчык.
**23.40** «Святло далёкай зоркі». Заслужаная артыстка Алена Васільеўна Рынковіч.
**00.05** «Калейдаскоп».

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весці.
**11.30** «Ранішняя@пошта».
**12.00** «Прамы эфір».
**13.00** «Адмысловы выпадак».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Пуцявікі-2».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.10** «Пуцявікі-2».
**18.05** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**18.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.40** «Простае жыццё».
**22.35** «Права на праўду».
**23.35** Навіны - Беларусь.
**23.45** «Наша войска. Раптоўная праверка».

### Мир

**05.00** Т/с «Пяць хвілін да метро».
**06.40** Мультфільмы.
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.15** Пяцьдзесят на пяцьдзесят.
**10.50** Выніковая праграма «Разам».
**11.45** «Агульны рынак».
**12.25, 03.05** Т/с «Клон».
**15.25, 22.30** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.20** Т/с «Чорны крумкач - 2».
**18.25** «Беларусь сёння».
**19.00** Т/с «Закон і парадак. Злачынны намер».
**21.25** «Акцэнты».
**21.40** Д/ф «Эпоха. Падзеі і людзі».
**23.25** Т/с «Чыста англiйскiя забойства».
**01.05** М/ф «Усмешка лёсу».

### Белсат

**07.00** ПраСвет.
**07.25** Зона «Свабоды».
**07.55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**08.20** Два на два (тэледыскусія).
**08.45, 13.25** Дак. гадзіна: «Лёс адной сям'і – гісторыя трох народаў», дак. фільм, Літва.
**10.10** Euromaxx.
**10.35** Невядомая Беларусь: «Праклятыя і забытыя», дак. фільм, 2013 г., Беларусь: ч. 1.
**11.15** «Час гонару», серыял: 53 серыя.
**12.00** ПраСвет.
**12.25** Зона «Свабоды».
**13.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**14.50** Праект «Будучыня».
**15.20** «Другі шанц», псіхалагічны трылер, 2010 г., Канада.
**16.50** «Палітыканы», серыял: 5 серыя.
**17.40** Відзьмо-невідзьмо: выд. 37.
**18.05** Еўропа сёння.
**18.35** Назад у будучыню.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00, 19.30, 20.00** Навіны.
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20, 20.10** Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Дэвайс.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** Не прапусці! (парадннік гледача).
**20.15** Дэвайс.
**20.35** Асабісты капітал.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Фільматэка майстроў: «Кафэ «Раздарожжа», крымінальная драма, 2005 г.
**23.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.55** Асабісты капітал.
**01.15** Аб'ектыў.
**01.40** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 1 КАСТРЫЧНІКА, АЎТОРАК

### Беларусь 1

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Дыхай са мной. Шчасце ў пазыку» (Расія).
**10.05** Біяграфічная драма «Ганна Герман».
**11.05** Дакументальны цыкл «Невырагодныя гісторыі кахання» (Украіна).
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.20** Серыял «Каўчэг» (Іспанія). 1-я серыя.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Адмысловы рэпартаж АТН.
**15.45** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія).
**16.50** «Здароўе». Ток-шоў.
**17.40** Меладраматычны серыял «Дыхай са мной. Шчасце ў пазыку» (Расія).
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.30** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Біяграфічная драма «Ганна Герман».
**21.00** Панарама.
**22.00** Серыял «Каўчэг» (Іспанія). 2-я серыя.
**00.05** Дзень спорту.
**00.20** Сфера інтарэсаў.
**00.35** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** Прэм'ера. «Самы лепшы муж».
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** Прэм'ера. «Ясмін». Шматсер. фільм.
**16.15** Прэм'ера. «Хатняя прыслужніца». Шматсерыйны фільм.
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Наша Беларашa».
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05** «Масгаз». Шматсерыйны фільм.
**22.55** «Вячэрні Ургант».
**23.30** Вострасюжэтны фільм «Хофа».
**02.00** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**09.10** «Сакрэты старажытных прыгажунь».
**10.05** «100 адсоткаў».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**14.00** СТБ прадстаўляе: Фінал Міжнароднага музычнага праекта «ХОРаШОЎ».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не сніласся».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Навагрудак.
**20.25** Фільм «Школа злодзеяў. Частка другая». Італія, 1987г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Жывая тэма».
**00.00** «Аўтапанарама».
**00.25** «Тэрыторыя памылак».

### Беларусь 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Жураў-2».
**10.50** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**11.45** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**13.25** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**14.30** Тэніс. Турнір ВТА. Пекін. Жанчыны.
**16.45** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Арсенал-Напалі. Прамая трансляцыя.
**23.40** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**00.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд.
**01.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Сэлцік - Барселона.

### Беларусь 3

**07.30** «Дабраранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Сакрэт фірмы». Сацыяльная абарона пажылых людзей.
**08.20** «Салаўіная рака». Навукова-папулярны фільм.
**08.40** «І смех, і бяда». Кароткаметражны фільм па апавяданнях Якуба Коласа.
**09.20** «Маем рэчы». Слуцкія паясы.
**09.35** «Доктар Жывага». Экранізацыя рамана Барыса Пастэрнака. 7-я серыя.
**10.20** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**10.45** «Волга-Волга». Мастацкі фільм.
**12.30** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Эраста Карповіча.
**12.55** «Дзень беларускага пісьменства ў Быхаве». Дакументальны фільм.
**13.25** «Лабірынты». Сеча пад Нікадзімава. Гісторыя вёскі Нікадзімава.
**13.50** «Танец, даўжынёй у жыццё». Дакументальны фільм пра сям'ю Яфрэмавых.
**14.20** «Сінематэка». Творчасць А.Аўдзеева.
**15.05** «Мір - нацыянальная жамчужына Беларусі». Дакументальны фільм.
**15.15** «Цераз могілкі». Мастацкі фільм.
**16.45** «Карані». Канстанцін Грамыка - беларус, які жыве ў Санкт-Пецярбурзе.
**17.10** «Музеум». Калекцыя керамікі з вёскі Гародная Столінскага раёна.
**17.30** «Беларускі космас». Дак. фільм.
**18.00** «Палітра памяці». Ваенная тэма ў творчасці беларускіх мастакоў. Дак. фільм.
**18.40** «Камертон». Хор Турэцкага.
**19.10** «Калейдаскоп».
**19.15** «Машачка». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.45** «Вайна пад стрэхамі». Маст. фільм.
**22.20** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**22.45** «Доктар Жывага». Экранізацыя рамана Барыса Пастэрнака. 8-я серыя.
**23.30** «Дзень беларускага пісьменства ў Быхаве». Дакументальны фільм.
**00.00** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Эраста Карповіча.
**00.25** «Калейдаскоп».

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Адмысловы выпадак».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весці.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** «Той, хто бачыў скрозь час».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Пуцявікі-2».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.10** «Пуцявікі-2».
**18.05** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**18.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.40** «Простае жыццё».
**22.35** «Права на праўду».
**23.35** Навіны - Беларусь.
**23.45** «Адмысловы карэспандэнт».

### Мир

**05.00** Т/с «Пяць хвілін да метро».
**06.40** Мультфільмы.
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.15** М/ф «Чаканне палкоўніка Шалыгіна».
**10.45** «Навіны Садружнасці. Культура».
**12.25, 03.05** Т/с «Клон».
**15.25, 22.30** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.20** Т/с «Чорны крумкач - 2».
**18.25** «Саюзнікі».
**19.00** Т/с «Закон і парадак. Злачынны намер».
**21.25** «Акцэнты».
**21.40** Д/ф «У свеце каменных джунгляў».
**23.25** Т/с «Чыста англiйскiя забойства».
**01.05** Т/с «Атракцыён».

### Белсат

**07.00, 11.50, 19.00, 00.10** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.35** Асабісты капітал.
**08.55, 13.50** Аб'ектыў.
**09.25, 14.15** Еўропа сёння.
**09.50, 14.45** Назад у будучыню.
**10.05** «Дом», серыял: 3 серыя.
**11.25** «Ад голаду і мору», дак. фільм, 2008 г.
**13.25** Асабісты капітал.
**15.00** «Дом», серыял: 3 серыя.
**16.20** «Эльдарада – паляванне на легенду», дак. фільм, 2005 г., Польшча.
**17.20** Эксперт (сатырычная праграма).
**17.55** На колах.
**18.25** Без межаў.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20** Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Сальда.
**19.30, 20.00** Навіны.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** Не прапусці! (парадннік гледача).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Сальда.
**20.30** Чорным па белым.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Дэкалог-89+», цыкл кароткаметражных фільмаў: фільм 5: «Справа Януша В.».
**21.55** Спазнай свет: «Размовы з коньмі», дак. фільм, Канада.
**22.20** Невядомая Беларусь: «Праклятыя і забытыя», дак. фільм, 2013 г., Беларусь: ч. 1.
**00.25** Чорным па белым.
**00.50** Аб'ектыў.
**01.15** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 2 КАСТРЫЧНІКА, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Дыхай са мной. Шчасце ў пазыку» (Расія).
**10.00** Біяграфічная драма «Ганна Герман».
**11.00** Дакументальны цыкл «Неверагодныя гісторыі кахання» (Украіна).
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.25** Фантастычны серыял «Каўчэг» (Іспанія). 2-я серыя.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія).
**16.30** Зямельнае пытанне.
**17.00** Медычныя таямніцы.
**17.35** Меладраматычны серыял «Дыхай са мной. Шчасце ў пазыку» (Расія).
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.35** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Біяграфічная драма «Ганна Герман».
**21.00** Панарама.
**22.00** Фантастычны серыял «Каўчэг» (Іспанія). 3-я серыя.
**00.10** Дзень спорту.
**00.25** Сфера інтарэсаў.
**00.40** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** Прэм'ера. «Самы лепшы муж».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** Прэм'ера. «Ясмін». Шматсер. фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Прэм'ера. «Хатняя прыслужніца». Шматсерыйны фільм.
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Наша Белараша».
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Выведніцы».
**23.25** «Вячэрні Ургант».
**00.00** Фільм «Забароненае каханне».
**01.55** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Наваградак.
**09.10** «Нам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Наваградак.
**14.00** Фільм «Школа злодзеяў. Частка другая». Італія, 1987 г.
**15.45** «Жывая тэма».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Слонім.
**20.25** Фільм «Герой яе рамана». Аўстралія.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**00.00** «Дабро пажалаваць».
**00.25** «Дакументальны спецпраект».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Жураў-2».
**10.25** Цудоўная сямёрка. Вяртанне. Кастынг.
**11.05** Цела чалавека.
**11.40** «Пад грыфам «Вядомыя».
**12.20** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**13.25** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**14.30** Тэніс. Турнір ВТА. Пекін. Жанчыны.
**16.45** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Манчэстар Сіці - Баварыя. Прамая трансляцыя.
**23.40** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**00.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд.
**01.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Шахцёр - Манчэстар Юнайтэд.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Дабраранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Галасы з мінулага».
**08.15** «Скарбніца Віцебшчыны». Гісторыя і архітэктура Віцебскай ратушы.
**08.45** «Пад аблокамі». Дак. фільм.
**09.15** «Лаўрышава». Дак.фільм.
**09.35** «Доктар Жывага». Экранізацыя рамана Барыса Пастэрнака. 3-я серыя.
**10.25** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**10.50** «..А світанні тут ціхія». Экранізацыя твора Барыса Васільева. 1-я і 2-я серыі.
**13.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці опернай спявачкі Святланы Данілюк.
**14.15** «Родный песні ваявода». Дак. фільм.
**14.50** «Пад крылом анёла». Дак. фільм.
**15.10** «Маё каханне». Мастацкі фільм.
**16.30** «Экслібрыс». Дак. фільм.
**16.40** «Тэлевёрсты». Тэатр плюс ТВ.
**17.10** «Элегія». Лёс маёнтка Іллі Рэпіна.
**17.30** «Карані». Драўляныя пабудовы.
**18.00** «Мара пра космас». Дак. фільм.
**18.30** «Маем рэчы». Гарбата.
**18.45** «Калейдаскоп».
**18.50** «Галасы з мінулага».
**19.00** «Вясёлыя рабяты». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.45** «Шукальнікі шчасця». Мастацкі фільм.
**22.05** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**22.35** «Доктар Жывага». Экранізацыя рамана Барыса Пастэрнака. 4-я серыя.
**23.20** «Родны песні ваявода». Дак. фільм.
**23.50** «Святло далёкай зоркі». Памяці опернай спявачкі Святланы Данілюк.
**00.15** «Калейдаскоп».
**00.20** «Галасы з мінулага».

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Адмысловы выпадак».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весці.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** «Той, хто бачыў скрозь час».
**13.50, 16.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Пуцявікі-2».
**17.10** «Пуцявікі-2».
**18.05** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**18.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.40** «Простае жыццё».
**22.35** «Права на праўду».
**23.35** Навіны - Беларусь.
**23.45** «Вада. Новае вымярэнне».

### МИР

**05.00** Т/с «Пяць хвілін да метро».
**06.40** Мультфільмы.
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.15** М/ф «Адплата».
**10.45** «Агульны інтарэс».
**11.15, 21.40** Д/ф «У свеце каменных джунгляў».
**12.25, 02.30** Т/с «Клон».
**15.25, 22.30** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.20** Т/с «Чорны крумкач-2».
**18.25** «Сакрэтныя матэрыялы».
**19.00** Т/с «Закон і парадак. Злачынны намер».
**21.25** «Акцэнты».
**23.25** Т/с «Камісар Навара».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00, 11.55, 19.00, 23.05** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Чорным па белым.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.25** На колах.
**09.55** «Прыгоды пана Міхала», тэлесерыял.
**10.25** Спазнай свет: «Размовы з коньмі», дак. фільм, Канада.
**10.45** Эксперт (сатырычная праграма).
**11.20, 16.15** Невядомая Беларусь: «Праклятыя і забытыя», дак. фільм, 2013 г.: ч. 1.
**13.25** Чорным па белым.
**13.55** Аб'ектыў.
**14.20** На колах.
**14.50** «Прыгоды пана Міхала», тэлесерыял.
**15.20** Спазнай свет: «Размовы з коньмі», дак. фільм, Канада.
**15.45** Эксперт (сатырычная праграма).
**16.50** «Ранча», серыял: 13 серыя.
**17.40** Асабісты капітал.
**18.00** Праект «Будучыня».
**18.30** Беларусы ў Польшчы.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх:.
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20** Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Сальда.
**19.30** Навіны.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** Не прапусці! (параднік гледача).
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Сальда.
**20.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Глыбокая вада–2», серыял: 4 серыя.
**22.15** Два на два (тэледыскусія).
**22.45** Відзьмо-невідзьмо: выд. 37.
**00.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**01.05** Аб'ектыў.
**01.30** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 3 КАСТРЫЧНІКА, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Дыхай са мной. Шчасце ў пазыку» (Расія).
**10.05** Біяграфічная драма «Ганна Герман».
**11.05** Дакументальны цыкл «Неверагодныя гісторыі кахання» (Украіна).
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.20** Фантастычны серыял «Каўчэг» (Іспанія). 3-я серыя.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія).
**16.30** Каробка перадач.
**17.10** Таямніцы следства.
**17.40** Меладраматычны серыял «Дыхай са мной. Шчасце ў пазыку « (Расія).
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.30** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Біяграфічная драма «Ганна Герман».
**21.00** Панарама.
**22.00** Фантастычны серыял «Каўчэг» (Іспанія). 4-я серыя.
**00.05** Дзень спорту.
**00.20** Сфера інтарэсаў.
**00.35** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** Прэм'ера. «Самы лепшы муж».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** Прэм'ера. «Ясмін». Шматсер. фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Прэм'ера. «Хатняя прыслужніца». Шматсерыйны фільм.
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Наша Белараша».
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Выведніцы».
**23.25** Фільм «Дорз».
**01.55** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Слонім.
**09.10** «Нам і не снілася».
**10.05** «Дабро пажаліцца».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Слонім.
**14.00** Фільм «Герой яе рамана». Аўстралія.
**15.50** «Якія людзі!».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Ваўкавыск.
**20.25** Фільм «Не скажу». Расія, 2010г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**00.00** «Аўтапанарама».
**00.25** «Дакументальны спецпраект».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Жураў-2».
**10.25** Вышэй за дах.
**11.05** Цела чалавека.
**11.40** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**12.50** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Бананавы рай» (Расія).
**13.20** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**14.30** Тэніс. Турнір ВТА. Пекін. Жанчыны.
**16.45** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Прамая трансляцыя.
**20.55, 21.30** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Бананавы рай» (Расія).
**21.25** КЕНО.
**22.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Прамая трансляцыя.
**00.00** Час футболу.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Дабраранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Імгненне вечнасці». Надзеі з надзеяй. Пра рамантычныя адносіны паміж паэтам Сяргеем Ясенінам і Надзеяй Вольпін.
**08.30** «Прыгоды за шырмай, або Звязаныя адной ніткай». Дакументальны фільм.
**09.00** «Палескі пачастунак». Суп з бульбы.
**09.15** «Пад крылом анёла». Дак. фільм.
**09.35** «Доктар Жывага». Экранізацыя рамана Барыса Пастэрнака. 9-я серыя.
**10.20** «Дыя@блог «. «Пра вечнае».
**10.50** «Печкі-лавачкі». Мастацкі фільм.
**12.25** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Аляксандра Ісачова.
**12.55** «Смяюся... плачу... люблю... Народная артыстка Беларусі Валянціна Гаявая». Дакументальны фільм.
**13.35** «Музеум». Партрэты сям'і Вясялоўскіх з калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.
**13.55** «Карані». Беларуска Валянціна Іванова, якая жыве ў Літве.
**14.20** «Запаведны сцежкай». Заказнік «Лебядзіны Мох-Патокі».
**14.50** «Лабірынты». Маёнтак Талстых у Беларусі.
**15.15** «Сыны ідуць у бой». Мастацкі фільм.
**16.50** «Партрэт на фоне эпохі». Дакументальны фільм пра Надзею Лежэ.
**17.30** «Маем рэчы». Хлеб.
**17.45** «Камертон». Народная артыстка Расіі Святлана Кручкова.
**18.15** «Імгненне вечнасці». Надзеі з надзеяй. Пра рамантычныя адносіны паміж паэтам Сяргеем Ясенінам і Надзеяй Вольпін.
**18.35** «Калейдаскоп».
**18.45** «Мінін і Пажарскі». Гістарычная драма. Часткі 1-я і 2-я.
**20.30** Калыханка.
**20.45** «Жыццё і смерць двараніна Чартапханава». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
**23.00** «Дыя@блог «. «Пра вечнае».
**23.25** «Доктар Жывага». Экранізацыя рамана Барыса Пастэрнака. 10-я серыя.
**00.15** «Смяюся... плачу... люблю... Народная артыстка Беларусі Валянціна Гаявая». Дакументальны фільм.
**00.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Аляксандра Ісачова.
**01.20** «Калейдаскоп».

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Адмысловы выпадак».
**11.00** Весці.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** «Той, хто бачыў скрозь час».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весці.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Пуцявікі-2».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весці.
**17.10** «Пуцявікі-2».
**18.05** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**18.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весці.
**20.40** «Простае жыццё».
**22.35** «Права на праўду».
**23.35** Навіны - Беларусь.
**23.45** «Паядынак». Праграма Ўладзіміра Салаўёва.

### МИР

**05.00** Т/с «Пяць хвілін да метро».
**06.40** Мультфільмы.
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.15** Лятаючая дзяўчына.
**11.15** «Дыяспары».
**11.45** «Кыргызстан у асобах».
**12.25, 02.30** Т/с «Клон».
**15.25, 22.30** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.20** Т/с «Чорны крумкач - 2».
**18.25** «Злачынства і пакаранне».
**19.00** Т/с «Закон і парадак. Злачынны намер».
**21.25** «Акцэнты».
**21.40** У свеце каменных джунгляў. фільм.
**23.25** Т/с «Камісар Навара».
**00.55** М/ф «Чаканне палкоўніка Шалыгіна».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00, 11.50, 19.00, 22.55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.55, 13.50** Аб'ектыў.
**09.25** Праект «Будучыня».
**09.50** Беларусы ў Польшчы.
**10.10** «Глыбокая вада–2», серыял: 4 серыя.
**10.55** Два на два (тэледыскусія).
**11.20** Відзьмо-невідзьмо: выд. 37.
**13.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**14.15** Праект «Будучыня».
**14.40** Беларусы ў Польшчы.
**15.00** «Глыбокая вада–2», серыял: 4 серыя.
**15.50** Два на два (тэледыскусія).
**16.15** Відзьмо-невідзьмо: выд. 37.
**16.45** «Ранча», серыял: 14 серыя.
**17.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**18.05** Euromaxx.
**18.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20** Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Сальда.
**19.30** Навіны.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** Не прапусці! (параднік гледача).
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Сальда.
**20.30** Рэпартэр.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Бландзінка», серыял: 9 серыя.
**22.10** «Чукотка. Забытая армія», дак. фільм,1997 г., Польшча–Германія.
**00.30** Рэпартэр.
**00.55** Аб'ектыў.
**01.20** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

# ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

Выпуск №9 (85) (верасень)

www.lit-bel.org www. novychas. info

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»


Анонс



ПОГЛЯД

# РАСІЯ ЯК МІФАТВОРЦА

Міхась БУЛАВАЦКІ

**У апошні час мяне не пакідаюць думы пра Расію — нашага вечнага спадарожніка і неадчэпнага сябра.**




Неадчэпнага, бо мы нібыта катаржнік і канваір — скаваныя наручнікамі. І нельга разняць іх, бо заржавеў ключ ад доўгага некарыстання ці ўвогуле згубіўся. І брыдуць цяпер двое небаракаў у часе і прасторы, і ўсё вымушаны рабіць разам, нават да ветру схадзіць. І ўсё адзін пра аднаго ведаюць наскрозь. Усё прадказальна без слоў і без доўгага роздуму. І гэта ўжо выклікае раздражненне, што другі пра цябе ўсё ведае, да дна душы, куды й самому зазіраць не вельмі хочацца...

З боку дык і не разбярэш, хто там катаржнік, а хто канваір. Мае рацыю той, хто мацнейшы, як заўжды ў прыродзе. Але ў чым моц?..

Дзіўная краіна Расія. Яна падаравала свету шмат людзей высокага духу. І многа зла, крыві і войнаў. Цяжкое мінулае ціспе, гняце, не дае спакою. А спакою хочацца. Век такі, не маладзенькая ўжо. І Расія ставарае міфы пра сваю дабрыню.

Дзе-небудзь распачынаецца вайна ці якія хваляванні — Расія абавязкова «суне свой нос». І называе гэта міратворчасцю. То яна мірыла палякаў у часы «Салідарнасці», то немцаў, падзяляючы іх Берлінскай сцяной, то чэхаў ды славакаў. Ці вось яшчэ адзін міф: Расія як міратворца ў Югаславіі. Колькі ляманту пра міратворчую місію! Колькі паказальных мерапрыемстваў!..

А калі проста задумацца над пытаннем: што было б у Югаславіі, калі б Расія не ўмешвалася? Адказ тут доўга шукаць не трэба, ён навідавоку: вайна скончылася б тым жа — капітуляцыяй Мілошавіча, толькі нашмат раней. Бо Мілошавіч, разлічваючы на больш істотную падтрымку Масквы, адцягваў гэткі канец, колькі можна было. Без Расіі вайна скончылася б нашмат раней, а таму нашмат менш было б ахвяраў, нашмат менш было б разбурэнняў. І калі гэта ўсвядоміць, то выказванні пра міратворчую ролю Расіі набываюць адценне нейкага цынічнага блюзнерства.

Расія не можа быць міратворцам. Гэтая намогласць абумоўленая не толькі яе сучасным матэрыяльным станам, але больш — прычынамі гісторыка-генетычнымі. Краіна-заваёўнік, якая ўнесла ў гісторыю цывілізацыі ці не найбольшую колькасць войнаў, наўрад ці можа ўсведамляць сабе сутнасць і ступень маральнасці міратворчай місіі. Хаця я мог бы назваць шмат расійскіх славутасцяў, якія і па духу сваім, і па норме паводзінаў міратворцы ў самым высокім сэнсе гэтага слова, але такія людзі (як, напрыклад, А. Сахараў) ніколі не стаялі, не стаяць сёння і, мне здаецца, не будуць стаяць ля стырна расійскай палітыкі.

Новастворaная пасля распаду СССР Расія паспрабавала быць дэмакратычнай. Атрымалася кепска. І не зможа Расія існаваць у дэмакратычным стане, пакуль з галоў яе насельнікаў не выветрыцца дух імперскасці. Гаворка тут не ідзе пра Пуцінных-Зюганавых ці іншых стырнавых. Гаворка пра расійца звычайнага, шэраговага.

Людзі Расіі самі па сабе ўжо й не здольныя заўважаць ступень гэтай сваёй хваробы. А чалавеку збоку яна кідаецца ў вочы амаль ці не пры кожным кантакце з расійцам.

Вось багатая газета «Новые известия» некалі падаравала малым дзецям чачэнскіх уцекачоў месячны адпачынак на Чорным моры. Рассаджваюць па аўтобусах і абураюцца: «Гэта ж трэба! Ніводзін з дзяцей не ведае расійскай мовы!» На думку прадстаўнікоў даволі прагрэсіўнай газеты, шасцігадовае чачэнскае дзіця абавязана ведаць расійскую мову. А якую мову павінен ведаць шасцігадовы татарын ці карэл? Таксама расійскую? А куды ж дзяваць мову родную, на якой размаўляюць іх бацькі? Ну ніяк не лезе ў галаву расійскага абывателя думка аб тым, што гэта нармальная з'ява, калі маленькі чалавек ведае толькі родную мову. А расійская мова, як ні круці, не родная. Цікава, колькімі мовамі валодае звычайны шасцігадовы расійскі хлопчык ці дзяўчынка? Няўжо ж дзвюма ці трыма?!

Вось вядомы пісьменнік-гуманіст М. Задорнаў, гастралюючы ў Мінску, завітаў у «Макдональдс» падсілкавацца і ўбачыў там на цэнніку слова «чызбургер», натуральна напісанае па-беларуску з літарай «ы». Але чалавеку не прыйшло (і, мабыць, не магло прыйсці) да галавы, што слова напісана не па-расійску. На яго думку, у Мінску і не могуць пісаць не па-расійску. Ён палічыў, што гэта такая дзіўная памылка ў расійскай мове і дапоўніў ёю сваю калекцыю падгледжаных недарэчнасцяў. Цяпер ці не на кожным са сваіх выступленняў ён распавядае пра мінскі «чЫзбургер». Вось так бывае, што беларуская мова і ўласная абмежаванасць дапамагае расійскім майстрам слова зарабляць грошы. Сумнае «ха-ха!».

А некалі вядомы расійскі пісьменнік, нобелеўскі лаўрэат, выказаўся наконт таго, як «обустроить» Расію. І, «абустройваючы» яе, ён заадно «абустройвае» і Беларусь з Украінай як дзве часткі Расіі.

А раней расійскі радыёжурналіст распавядаў пра тое, як Зюганаў адзначаў дзень смерці Леніна. Перадаючы словы лідара камуністаў, журналіст хацеў выказаць сваю нязгоду з імі. І ён нагадваў слухачам пра тое, як Ленін гандляваў «исконно русскими землями», падпісваючы «Брестский мир». Журналісту няўцям, што ён тым самым квапіцца на тэрытарыяльную цэласнасць суседняй дзяржавы. Для яго Беларусь як асобная краіна не існуе. Ён мысліць катэгорыямі і маштабамі Расіі вялікай, і яму няма справы да пачуццяў нейкіх там беларусаў, чачэнцаў, удмуртаў.

Больш за тое, нават гэтыя пачуцці расіец трактуе на прыемны для сябе лад, яму хочацца (а таму ён так і бачыць), каб усе гэтыя «малыя народы», на чыіх землях ён гаспадарыць і пануе, былі ўдзячныя яму. І ствараецца чарговы міф — пра дабрачыннасць заваёўніцкай дзейнасці Расіі, пра тое, што народы толькі й чакалі «выратавальнага» прышэсця расійскіх войскаў і сустракалі Ермака, Суворава і г.д. хлебам-соллю з мокрымі ад удзячнасці вачыма і з паклонамі да зямлі. «А хіба не так?!» — чую я здзіўленае пытанне аднаго з маіх расійскіх сяброў.

Гэты міф найбольш выразна адлюстраваны ў гістарычным трактаце («опыте исторической публицистики») нейкага Ф. Несцерава, выдадзеным у 80-х гадах аж трыма буйнымі выдавецтвамі і ўзнагароджаным прэміяй ці не раней, чым той нарыс паступіў у кнігарні. Нягледзячы на адыёзнасць гэтай кнігі, адзін сказ адтуль заслугоўвае, каб яго працытаваць: «В целом для России XIII–XVIII веков состояние мира было скорее исключением, а война — жестоким правилом». Шэсць стагоддзяў амаль бесперапынных войнаў!!! А ці нашмат лепшыя наступныя два? Толькі для Ф. Несцерава гэта правільныя войны, з карысцю і для Расіі, і для заваяваных ёю народаў.

Але ж як была Расія пры царызме «жандармам Еўропы», такой яна засталася і пры саветах. Праўда, не для ўсёй Еўропы, а для «сацыялістычнага лагера». Настваpаўшы лагераў на сваёй тэрыторыі, расійскія старшыні стварылі лагер і ў Еўропе. Ім здавалася, што ў іх лагеры жыць будзе добра. І яны абураліся няўдзячнасцю вугорцаў, чэхаў, палякаў, якія раз-пораз спрабавалі вызваліцца з гэтага лагера. Абураліся настолькі, што заціскалі гэтую няўдзячнасць узброенымі войскамі і танкамі.

Міф аб дабрачыннасці расійскіх войнаў развіваецца ў іншым міфе — аб тым, як народы, абласканыя Расіяй, хутка развіваюць сваю культуру, сваю прамысловасць, народную гаспадарку, мастацтва. Маўляў, без Расіі нічога гэтага не было б (проста дзіву даешся, як гэта незаваяваная Расіяй Японія яшчэ неяк развіваецца).

Але было б ці не было б, — не будзем спрачацца. Важней тое, што дабрачыннасцю тут і не пахне. Плата за такую дапамогу звыш меры! Якуцкае золата і алмазы, чачэнская нафта, крымскія ўзбярэжжы, карэльскія лясы, чукоцкія цюлені і каляровыя металы, мардоўскі мёд, эвенкійская пушніна — усё гэта папаўняе чэрава Расіі, даволі часта не на карысць ні ёй, ні абрабаваным народам. Варта тут успомніць, што культурныя каштоўнасці, вывезеныя пры эвакуацыі на пачатку вайны з Беларусі, дагэтуль не вернуты нашай краіне. Яскравы прыклад рабаўніцтва дзяржавы дзяржавай.

Расія скарыстоўвае нават душы прысвоеных народаў. «Вялікі рускі пісьменнік Чынгіз Айтматаў»!

Працяг на стар. 15 (7) ▸

САЮЗ

# ШКОЛА МАЛАДОГА ЛІТАРАТАРА

**Пачаўся другі набор навучэнцаў у Школу маладога літаратара пры ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» на 2013–2014 навучальны год.**

Заняткі будуць праходзіць у Мінску з сярэдзіны кастрычніка па травень два разы на месяц: у суботу (практычныя заняткі) і сераду (лекцыі і майстар-класы). Наведнікам з рэгіёнаў — спрыянне з даездам. Навучанне ў Школе — бясплатнае, група — 15-20 чалавек, выкладанне будзе весціся па-беларуску.

Школа дзейнічае як нефармальны адукацыйны праект, сертыфікат аб яе заканчэнні не замяняе дыплома афіцыйных навучальных устаноў.

**Умовы для кандыдатаў:**

Узрост — да 25 гадоў.

Для падачы заяўкі кандыдату на залічэнне ў Школу неабходна даслаць свой уласны празаічны мастацкі тэкст любога жанру аб'ёмам 2–5 старонак, а таксама матывацыйны ліст з адказам на пытанне: «Чаму вы хочаце вучыцца ў пісьменніцкай школе?».

**Афармленне заяўкі:**

Заяўкі прымаюцца па электроннай пошце да 1 кастрычніка па адрасе sbp@lit-bel.org.

Тэму ліста пазначце «Школа».

Прозу і матывацыйны ліст дасылайце разам у адным файле Word фармата.doc. На першай старонцы пазначце сваё імя і прозвішча, поўны паштовы адрас, дату нараджэння, e-mail і кантактны нумар тэлефона.

Пры паспяховым залічэнні ў Школу Вам будзе паведамлена пра гэта да пачатку заняткаў па кантактах, якія Вы пакінулі. Заяўкі не рэцэнзуюцца.



Фота Алены Казловай

# ПЕРАМОЖЦЫ КОНКУРСА «ЭКСЛІБРЫС» ІМЯ ЯНКІ МАЎРА

**10 верасня былі падведзены вынікі конкурса «Экслібрыс» імя Янкі Маўра, запачаткаванага Саюзам беларускіх пісьменнікаў. Сябрам журы было вельмі няпроста вызначыцца з пераможцамі — сярод твораў, пададзеных на конкурс, былі і коміксы, і пераклады, і цэлыя праекты кніг.**

Сярод 117 удзельнікаў было шмат таленавітых і вартых увагі аўтараў, адзначылі ўсе пісьменнікі, якія ацэньвалі іх. У выніку абмеркаванняў нарэшце назвалі 12 фіналістаў: тры пераможцы і дзевяць дыпламантаў.

Першае месца прысуджана Вользе Гапеевай — за казачныя гісторыі «Сумны суп», а разам з дыпломам пераможца атрымае планшэт ад кампаніі «Prestigio» і правa выдаць сваю кнігу.

Другім месцам уганаравана Дар'я Вашкевіч за казку «Бабаўняная дзяўчынка» (твор быў ілюстраваны мастачкай Аленай Медзяковай). Пераможца атрымае чытарбукрыдэр ад нашых партнёраў і магчымасць выдаць кнігу.

Трэцяе месца заняў пераклад «Чараўніка краіны Оз» Фрэнка Баўма, пераствораны на беларускую мову Сержуком Мядзведзевым, якому таксама дастаецца чытар-букрыдэр.

У дзявятку дыпламантаў увайшлі (у алфавітным парадку):

Праект кнігі Сяргея Календы, Дашы Заічанка і Ліды Налюка «Дзе жывуць беларускія пачваркі»;

Надзея Кандрусевіч з перакладам твора Сары Лундберг «Віта Белая Крэска»;

Павал Касцюкевіч з перакладам «Аўтаспынам па Галактыцы» Дугласа Адамса;

Алесь Квіткевіч з перакладам першай кнігі «Хронікі Нарніі» Клайва Стэплза Льюіса (кніга мае назву «Нябож Чарадзея»);

Глеб Лабадзенка з кнігай дзіцячых моўных малюнкаў «дзіцячая заМова» і з працягам гэтага праекта;

Элеанора Ляхновіч з казкай «Турба-Элік і яго сябры» (твор быў ілюстраваны аўтарам);

Мілана Пасанен з дзённікавымі гісторыямі «Королева рулета», якая сталася сапраўдным адкрыццём конкурса. Аўтарцы ўсяго толькі 13 гадоў, але яе літаратурныя здольнасці, адчуванне стылю і пачуццё гумару прыемна ўразілі сябраў журы;

Наталля Рудак з перакладам «Маленькай вядзьмаркі» Отфрыда Пройслера;

Ксенія Шталянкова з працягам прыгодніцкага рамана для падлеткаў «Адваротны бок люстра».

Усе фіналісты атрымаюць дыпломы і спецыяльныя прызы ад ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».

Урачыстае ўзнагароджанне лаўрэатаў конкурса «Экслібрыс» адбудзецца 12 кастрычніка ў галерэі сучаснага мастацтва «Ў». Пачатак у 18.00.

**Прэс-служба СБП**

ЮБІЛЕЙ

# «А РАПТАМ ПРАЧЫТАЕ КУПАЛА?!»

## ДА 100-ГОДДЗЯ СЯРГЕЯ ГРАХОЎСКАГА

**У канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя мне пашчасціла пазнаёміцца з цудоўным чалавекам (светлая ёй памяць) — Марыяй Міхайлаўнай Мікуліч, сястрой Барыса Мікуліча, цудоўнага беларускага празаіка з няпростым і надзвычай трагічным лёсам.**



Арганізатарка і нястомная захавальніца школьнага музея «Літаратурная Лагойшчына» Вера Рыгораўна Саўрыцкая неаднойчы запрашала яе на сустрэчы, паколькі пачэснае месца было адведзена на музейным стэндзе Барысу Мікулічу, жыццё якога і многія выдатныя творы былі цесна звязаны з лагойскай зямлёй.

Я невыпадкова ўзгадаў пра гэтае знаёмства, бо менавіта Марыя Міхайлаўна прапанавала мне ласку праз яе паказаць свае вершы Сяргею Грахоўскаму, з якім Барыс Мікуліч доўга і прыязна таварышаваў у гады творчай маладосці, пакуль ліхое і бесчалавечнае жыццё не разлучыла іх навечна.

Ці то па неабачлівасці, ці то спяшаючыся, але я аддаў на ўгледзіны Сяргею Грахоўскаму не лепшыя свае вершы, а дакладней сказаць — апошнія напісаныя, сыраватыя, неабкатаныя, неадляжаныя...

На ўсё жыццё запомніў я тую навуку слыннага майстра беларускай паэзіі, але не толькі навуку, а нешта большае...

Летась, калі зачынялі Беларуцкую школу імя Янкі Купалы, я з бібліятэкаркай нашай школы паехалі па «спадчыну» — забіраць кнігі ў сваю школьную бібліятэку. Паколькі мне выпала папрацаваць у славутай школе колькі часу, я папрасіў падараваць мне сёе-тое са спісаных кніг. На прапанову выбраць самому, пакваліўся на збор твораў Уладзіміра Караткевіча і некалькі кніг знаёмых са школы аўтараў. Пагартаў «Так і было. Артыкулы. Успаміны. Эсэ» Сяргея Грахоўскага і... не мог адарвацца. З якой дакладнасцю, любоўю, пяшчотай і замілаванасцю аўтар узгадае далёкія даваенныя сустрэчы, знаёмствы, сяброўствы з многімі вялікімі творчымі людзьмі нашай Беларусі. Не магу ўстрымацца, каб не працытаваць хоць трошкі аўтара:

«...купляю ў кіёску некалькі экзэмпляраў часопіса «Беларусь калгасная». У другім нумары нова часопіса — мой верш «Гідрастанцыя»... Разгарнуў і любуюся лесвічкамі і прыступкамі сваіх радкоў. У гэтым жа нумары надрукаваны «Ударніку» і «Заўсёды наперад» Янкі Купалы. Пакуль гартаў часопіс, да кіёска падышоў Іван Дамінікавіч, павітаўся з кіяскёрам і са мною.

«Калі нацешыўся сваім творам, дык хадзем са мною». Ішлі, маўчалі. Так карцела пачуць Купалаву пахвалу. Ён, відаць, адчуў маю скаванасць і загаварыў сам: «Пакуль чытаў твой верш, ну ж і накульгаўся, не раўнуючы, па шпалах сігаў і ўсё з нагі збіваўся. Навошта так ламаць радок?..». Я вінавата апусціў галаву. Дядзька Янка зірнуў і суцешыў: «Не журыся. Я так, на будучае, каб меней трэску было. Як на цяперашні час, дык вершык ніштаваты. Чытаў». Пасля гэтага я баяўся абы-што друкаваць. А раптам прачытае Купала? Мы развіталіся на рагу Ленінскай. Я пайшоў бязмэтна блукаць з вуліцы ў вуліцу. Не хацелася ні з кім сустракацца. Было брыдка за «драбіны», за трэск, за несапраўднае, напісанае абы надрукавалі. З купленых часопісаў пакінуў адзін, астатнія цішком сунуў у нейкую сметніцу. Купалавы ўрокі і цяпер для мяне — перасцярога ад пустаты, фальшу, самаўпэўненасці. Словы яго чую і сёння».

Перачытаў яшчэ раз гэтыя радкі і ўспомніў, што мне напісаў у адказ Сяргей Іванавіч Грахоўскі. Дарэчы, у сваё 75-годдзе, бо даслаўны канверт пазначаны 26 верасня. Для мяне гэта яшчэ таксама было вялікім уражаннем, што вядомы паэт так уважліва аднёсся да пачаткоўца, не ведаючы яго ні ў твар, ні прачытаўшы ніводнага ягонага твора ў друку. Я і тады, і цяпер не раз сабе думаў аб тым, як гэта важна сустрэцца ў жыцці з сапраўдным настаўнікам, колькі б я мог навучыцца, каб выпала пазнаёміцца з ім асабіста і хоць трошкі пасябраваць. Зноў і зноў перачытваю ўспаміны Сяргея Грахоўскага і шчыра зайздрошчу ды захапляюся тым, як яны ўмелі сябраваць!..

Вось адкуль тая ўвага і цікавасць да пачынаючых аўтараў, вось адкуль тыя парасткі выхавання характару і душы! Вось над чым варта задумацца сённяшнім творцам: думаць аб тых, хто будзе ствараць літаратуру пасля нас.

А напісаў Сяргей Іванавіч Грахоўскі, папрасіўшы загадзя прабачэння, што так «скрэмзаў» мае творы, наступнае: «Паважаны Мікалай Міхайлавіч! М. М. Мікуліч папрасіла пачытаць Вашы вершы. Прабачце, што так іх скрэмзаў. Добра, што Вам хочацца пісаць, але аднаго жадання мала. У Вас пакуль што ўсё другаснае, вядомае, знаёмае і напісана нязграбна, без валодання тэхнікай верша, нават без адчування рытму. Вучыцца і працаваць Вам трэба настойліва і ўпарта. А настаўнікі — на кніжных паліцах. Поспехаў Вам. С. Грахоўскі».

Я не памятаю, ці блукаў я самотны па вуліцах, як у свой час Сяргей Грахоўскі пасля Купалавага «хрышчэння», аднак навуку тую засвоіў да скону. І цяпер, калі зрэдчасу даводзіцца чытаць творы пачаткоўцаў, я думаю аб тым, што шмат каму не хапае такіх творчых урокаў. Адно я памятаю вельмі добра: пасля завочнай сустрэчы з адметным майстрам беларускага паэтычнага слова Сяргеем Грахоўскім я не кінуў пісаць вершы, не стаў дасылаць у рэдакцыі пустыя, фальшывыя радкі, а ўпарта і настойліва, як параіў старэйшы сябар, стаў працаваць над словам, формай і зместам — і толькі праз некалькі гадоў асмеліўся даслаць вершы ў «ЛіМ». І цяпер, дасылаючы нізку вершаў у які-небудзь літаратурны часопіс, я сто разоў іх перагледжу, параюся нават з маладзейшымі аўтарамі, бо ніколі не забываю словы Сяргея Грахоўскага: «А раптам прачытае Купала?!»

**Мікола Ляшчун**

## КАСТРЫЧНІЦКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**



04.10.1978 — Ірына Іванаўна Дашына
06.10.1963 — Іван Мікалаевіч Афанасьеў
12.10.1948 — Любоў Аляксандраўна Філімонава
13.10.1953 — Вячаслаў Антонавіч Ракіцкі
18.10.1943 — Генадзь Рыгоравіч Дзмітрыеў
18.10.1938 — Ала Васільеўна Кажэра
18.10.1963 — Віктар Паўлавіч Сазонаў
21.10.1958 — Максім Аляксандравіч Клімковіч
23.10.1948 — Віктар Уладзіміравіч Ярац
30.10.1938 — Уладзімір Ануфрыевіч Лебедзеў

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

АБРЫС

# ЧАС ВЯРТАННЯ, або МОЙ ШЛЯХ ДА НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ

Выйшла ў свет першая ў айчынным літаратуразнаўстве кніга «Наталля Арсеннева: Шлях да Беларусі», прысвечаная творчасці беларускай паэтэсы-эмігранткі. Аўтар даследавання — кандыдат філалагічных навук Ала Петрушкевіч — разглядзела творчасць Наталлі Арсенневай і ў кантэксце часу, і ў кантэксце айчыннай літаратуры. Наклад выдання — 100 асобнікаў.

У юбілейны месяц (20 верасня — 110-годдзе з дня нараджэння знакамітай паэтэсы) «Літаратурная Беларусь» змяшчае эсэ-ўступ з названай кнігі.

Ала ПЕТРУШКЕВІЧ

Лета, 1989 год. Курсы настаўнікаў у Інстытуце ўдасканалення ў Гародні. Слухаю лекцыю Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча пра творчасць беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў. Між іншым размова ідзе і пра паэзію Наталлі Арсенневай. Да таго гэтае імя сустракала ў друку. Але ніколі ў часе вучобы на філалагічным факультэце. Аляксей Міхайлавіч раіць набыць кнігу «Туга па Радзіме», якая нядаўна выйшла. Не думала тады, што гэта будзе першая кніга ў маім неблагім на сёння зборы твораў беларускіх эмігрантаў. Як не марыла нават, што праз нейкі час менавіта мне давядзецца прапанаваць у Гродзенскім дзяржуніверсітэце для студэнтаў беларускага аддзялення курс «Творчасць пісьменнікаў беларускага замежжа».

Напачатку 90-х, калі працавала над дысертацыяй па творчасці Дануты Бічэль, пачула ад кіраўніка, акадэміка Івана Якаўлевіча Навуменкі:

— Што гэта ваша Данута адна, як Піліп з канапель, выскачыла? Каго яшчэ побач паставіце?

— Ларысу Геніюш.

— Пастаўце і Наталлю Арсенневу. Але ж і кампанія!

І калі я пабедавала, што болып няма дзе прачытаць яе вершаў, апрач як у анталогіі «Туга па Радзіме», падказаў, што ў аддзеле рэдкай кнігі акадэмічнай бібліятэкі ёсць першы зборнік паэткі «Пад сінім небам». Лішне казаць, што ў той жа дзень я ўжо трымала ў руках тую кнігу.

Падборка вершаў у анталогіі, як мне здавалася, зусім не благая, сама паэтка, праўда, была не надта задаволена («падбор твораў нейкі дзіўны»). Але чамусьці тыя вершы і блізка не зрабілі на мяне такога ўражання, як тая незвычайная кніга. Яна і сапраўды незвычайная. У руках яе трымала сама Наталля Арсеннева. І бацька Максіма Багдановіча Адам Ягоравіч, якому кніга і была падараваная. «Бацьку майго ўлюбёнага паэты...» — аўтограф паэткі сведчыў пра тое. Не магла адвесці вачэй ні ад гэтага надпісу, ні ад фотаздымка, ні ад сціплай, але такой далікатна-прыгожай зжаўцела-белага колеру вокладкі. І вершы ўспрымаліся зусім па-іншаму. Ад іх веяла такой пяшчотай, такой выкшталцона-жаноцкай тугой па высокім сінім небе, па золаце восені. І чымсьці, што нельга вытлумачыць проста словам, а толькі вершам, тымі яе вершамі. Увесь час, чытаючы паэтычныя радкі, бачыла яе, уяўляла нават, як яна выглядае, як апранута. Мо смешна, але здавалася, што адчуваю водар яе парфумы... Не заўважыла, як закончыўся дзень, бібліятэкарка ветліва папрасіла вяртаць кнігу. Назаўтра зранку я ізноў трымала гэтую кнігу ў руках.

Напэўна, гэта праўда: чалавек прыцягвае да сябе тое, што жадае мець. Наступная сустрэча з паэзіяй Наталлі Арсенневай адбылася ўжо ў часе маёй працы ва ўніверсітэце. Здавалася б, зусім выпадкова атрымала ў якасці падарунка ад калегі з суседняй кафедры кнігу. Выпадкова зайшла да іх, ён таксама выпадкова з'явіўся там, нешта патрэбна было яму ў сейфе, дзе, апроч усяго іншага, ляжалі кнігі, якія ён атрымліваў з Амерыкі. Узяў адну і працягнуў мне. «Дару. Напэўна, табе гэта спатрэбіцца», — было сказана як пра нейкае звычайнае выданне, якое лёгка можна было набыць у кожнай кнігарні. А была гэта кніга, што стане адной з самых дарагіх для мяне ў маёй бібліятэцы, — Наталля Арсеннева. Між берагамі. Адзіная, якую нікому ніколі не пазычаю, бо не магу дазволіць сабе страціць яе, як тое ўжо здарылася з многімі. Заўсёды прыношу на лекцыі і паказваю студэнтам, але папярэджваю, што кніга не выдаецца. Менавіта тады, калі займела гэтае выданне, вырашыла, што распрацую для студэнтаў курс пра тую нашу міжбераговую літаратуру.

«Між берагамі» — гэта кніга, атрымаўшы якую, Наталля Арсеннева (як яна пра тое сведчыла пазней) адчула сябе паэткай. Вокладка колеру марской хвалі, ярка-бірузовая, у цэнтры залатым цісненнем профіль аўтаркі. Прадмова самага знакамітага эмігранцкага крытыка Антона Адамовіча, якая і сёння ўспрымаецца як вельмі цікавае, цэласнае, грунтоўнае даследаванне і жыццёвага шляху, і творчасці паэткі. Змешчаны партрэт работы Пётры Мірановіча. Прыгожая жанчына прыгожа-восеньскага веку, часу залатой, жоўтай восені. Размытыя абрысы. Толькі выразна вылучаюцца вочы, яркія, цёмныя. І столькі ў іх болю, столькі стратаў адбілася. А погляд — удалечыню, напоўнены мудрасцю і тым унутраным спакоем, якога здольны дасягнуць натуры моцныя, нескароныя. Не ведаю, у якіх колерах выкананы партрэт, але ўяўляю, што ў блякла-жоўта-залатых. Пра паперу адмыслоўцы, напэўна, могуць сказаць: няякасная. А як па мне, то цудоўная, моцная і пажоўклая, як тая згадка ў эпіграфе Максіма Багдановіча да ягонага



«Вянка». «Між старонак старых, пажоўклых» заўсёды знаходжу для сябе тое, што дапамагае выжыць і ў пару вясновую, калі неба такое сіняе-сіняе, а ў душы халадна-халадна, і асабліва ў пару залатой восені, калі так адчувальны подых сцюжы...

Зімой 1998 года ў нашы школы паступіў указ, у выглядзе тэлефоннага званка, пра забарону вывучэння творчасці Наталлі Арсенневай, Ларысы Геніюш, Масея Сяднёва. Прамаўчаць было нельга. Напісала артыкул, які так і называўся: «Ці можна сёння прамаўчаць?». Ён быў апублікаваны ў «ЛіМе» 25 мая 1998 года пад назвай «Ці дажывём?..» Зразумела, нічога змяніць не здолеў. Сёння такое ў «ЛіМе» не публікуюць. Газета творчай інтэлігенцыі не згадала нават пра 100-гадовы юбілей паэткі. Затое палічыла магчымым пакінуць абразлівыя выказванні на яе адрас з даклада літаратурнага генерала на з'ездзе СПБ...

Да практычных заняткаў па творчасці Наталлі Арсенневай прапаноўваю студэнтам згадаць, што ведалі раней пра паэтку, ці вывучалі ў школе. Дзесьці да 2000 года большасць адказаў былі амаль аднолькавымі: ведалі гэтае імя, вывучалі ў школе паэзію. Пазней многія студэнты гаварылі пра тое, што або ніколі не чулі нават імя, або калі і чулі, то нічога не ведалі пра яе творчасць. Самая недарэчная сітуацыя сёння: ніхто са студэнтаў-першакурснікаў ніколі не чуў імя паэткі. Як і імя Ларысы Геніюш.

А раней былі вельмі цікавыя выключэнні. Аднойчы пачула такі аповед. Студэнтка працавала летам у дзіцячым садку ў заходнебеларускім мястэчку. У адным з пакояў, на ўсю сцяну, па-мастацку напісаныя словы «Малітвы». Спытала ў дзяцей: «Што гэта такое?». Малыя адказалі: «А хіба вы не ведаеце? Гэта ж наш гімн «Магутны Божа»!». Якім жа было маё здзіўленне, калі на пытанне, хто тая патрыётка-выхавацелька, пачула: «Ваша аднакурсніца». І назвала імя вельмі мілай, прыгожай дзяўчынкі, якая ў студэнцкія часы не вельмі ўлягала за навукай, здавалася, была зусім абыякавай да нейкіх нацыянальных праяваў жыцця. «Яна і ёсць тая дзіўная, бо зрабіла тое, чаго ад яе не чакалі», — гэтак ахарактарызаваў яе наш калега прафесар Ігар Васільевіч Жук, калі пасля заняткаў расказала на кафедры пра вельмі прыемны для мяне выпадак.

Параўнальна нядаўна пачула аповед, як дырэктар школы ў адным з гарадоў, што на Гарадзеншчыне, падкрэсліваў у размовах з вучнямі, што сапраўдным гімнам Беларусі з'яўляецца «Магутны Божа». І гэта ў наш час! Ёсць жа яшчэ і дырэктары!.. Дзяўчынка запомніла гэта. Як ім, вучням, важным бывае слова настаўніка. Як часта яно падае на вельмі ўрадлівую глебу. Менавіта пра гэта не раз чула ад аднаго з самых лепшых нашых беларускіх настаўнікаў з Гудзевічаў Алеся Мікалаевіча Белакоза.

Адна са студэнтак вучылася ў музычнай школе, спявала ў хоры. Песня, якую выконвалі амаль заўсёды, — «Магутны Божа». З тых часоў памятала яе, але імя паэткі не ведала. Наогул, часта студэнты памятаюць малітву, якую яны чулі ці спявалі ў касцёле. Але вельмі рэдка ведаюць імя аўтаркі верша.

Апошнім часам усё меней аповедаў пра Наталлю Арсенневу. Варыяцыі на адну і тую ж тэму: нічога не ведала са школы, вельмі шкада, што паэзія не вывучаецца. Дабавілася яшчэ адно нечаканае ўспрыняцце: калі ў школе ў аглядзе сучаснай паэзіі пачула гэтае імя, падумала, што гэта маладая сучасная паэтка. Студэнтка-выдатніца, у тым часе вучаніца-выдатніца, у якасці прызу на алімпіядзе па роднай мове атрымала кнігу Лідзіі Савік «Пакліканыя» (Які цуд! Як бы ні глядзелі ўсе іх ідэалагічна-звертыкальныя цэнзары, усё ж і нашы кнігі даходзяць нават да школьнікаў і такім чынам). Тады і прачытала ўпершыню гэтае імя. Але тэкст падаўся занадта складаным, чытаць не стала, а вось ужо ва ўніверсітэце!..

Гэтая кніга стваралася на працягу амаль пятнаццаці гадоў. Многае з напісанага было прэзентавана на навуковых канферэнцыях. Праўда, далёка не ўсё можна было надрукаваць у нашых зборніках. Таму артыкулы ў большасці сваёй выходзілі ў навуковых і перыядычных выданнях Польшчы, па-за межамі Беларусі.

Да гэтага часу не выдадзена ні адна кніга пра Наталлю Арсенневу. Даследчыцай творчасці беларускіх паэтаў-эмігрантаў Лідзіяй Савік напісаны грунтоўны раздзел пра паэтку ў манаграфіі «Пакліканыя. Літаратура беларускага замежжа». Літаратуразнаўцу з Беласточчыны Яну Чыквіну належыць артыкул «Між Вільняй і Рочэстэрам (Творчасць Наталлі Арсенневай)», змешчаны ў кнізе «Далёкія і блізкія. Беларускія пісьменнікі замежжа». Ён з'яўляецца аўтарам і манаграфічнага артыкула пра паэтку ў «Гісторыі беларускай літаратуры XX ст.». Мікола Мішчанчук — аўтар артыкула «Між берагамі (Лёс і творчасць Наталлі Арсенневай)». Гэта самыя грунтоўныя працы пра творчасць паэткі.

20 верасня 2013 года спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэння Наталлі Арсенневай, чыя творчасць усё яшчэ не можа вольна вярнуцца ў Беларусь, так, як ніколі не вярнулася сюды аўтарка. У лісце да яе літаратара Антона Адамовіча чытаем: «Вы зусім правільна пісалі, што Вас будуць чытаць і разумець па сьмерці. Гэта ж з паэтамі часта бывае, а з запраўднымі — бадай заўсёды». Час — чытаць і разумець творы паэткі — хіба ж не прыйшоў?

Наталля Арсеннева, бясспрэчна, вартая таго, каб кнігі пра яе з'явіліся...

БЫЛІЦА

# ШОЎ ПАВІННА ПРАЦЯГВАЦЦА

Юры НЕСЦЯРЭНКА

**Фрэдэрык Булсара памалу пераставаў быць парсам і ўсё больш ператвараўся ў суперзорку, адпаведна ўзяўшы сабе псеўданім касмічнага маштабу — у гонар планеты Меркурый. Ужо былі выпушчаны тры першыя альбомы і хутка павінна была з'явіцца «Ноч у оперы».**



На той жа самай выспе і па тых жа самых начах не губляў час дарэмна Парсанс, чалавек, які да парсаў, можа, і не меў дачынення, але старажытныя аланы напэўна маглі б пачуць нешта няўлоўна знаёмае ў гучанні яго імя — Алан. Сваёй гукарэжысёрскай працай у «Зваротным баку месяца» Парсанс паставіў адну цікавую кампанію ў шэраг супергруп. Кампанія сяброў, узначальваў якую спадар Гілмар (з біблейскім імем Давыд), ужо рыхтавала альбом «Вам бы тут пабываць», высакародна і, амаль што, шчыра, прысвечаны Сіду Баррэту, які так жа шчыра ўсё больш станавіўся амаль што парсам.

За «Вам бы тут пабываць» хутка з'явіцца альбом «Звяры». Ідэя якога была ўзята з оруэлаўскай «Зверафермы».

Магілёўскі аэрапорт меў самае прамое дачыненне да навакольных звераферм, як у прамым значэнні — геаграфічна, так і ў пераносным — гістарычна, і яшчэ паўнавартасна працаваў, як і належала любому савецкаму аэрапорту ў першай палове 70-х. Самалёт «Як-40» па раскладзе падняўся ў паветра. Не выключаецца, што гэта адбывалася ў той самы час, калі Фрэдзі, Алан, Давыд і Сід вызначыліся, у якім накірунку сваёй дзейнасці будуць рабіць пераможны рывок (відавочна, рывок быў накіраваны не ў бок сацыялістычнай культуры і не на карысць чужой для вышэйпералічаных асобаў ідэалогіі). Наўрад ці яны ведалі, што канчатковым пунктам прызямлення ў «Як-40» быў Сімферопаль, ад якога да Чорнага мора заставалася кіламетраў пяцьдзясят.

Мае бацькі спланавалі свой адпачынак у Еўпаторыі, адным з самых папулярных месцаў чарнаморскага ўзбярэжжа. Туды мы выправіліся ўсёй нашай сям'ёй: мама, тата, пяцігадовая сястрычка і дзевяцігадовы я. Тысячы такіх самых сем'яў ляцелі ў Сімферопальскі аэрапорт у гэты ж самы час з усіх канцоў Савецкага Саюза: з Сібіры, з Казахстана, а мо нават і з Далёкага Усходу, узбярэжжа Ледавітага акіяна ці з кітайскай мяжы.

Адпачынак праходзіў традыцыйна: з раніцы пляж, невялікі перапынак з ратаваннем ад паўдзённага сонца ў любым ценістым месцы і лянівы абед, зноў пляж, увечары атракцыёны ці кафэ, марозіва і ліманад альбо кіно на адкрытай пляцоўцы, потым цяжкі сон на здымнай кватэры ў начной спякоце паўднёвага клімату. У перадапошні і апошні дзень адпачынку самая адказная місія — закупка прадуктаў: мясцовыя вінаград, персікі, алыча, абрыкосы, кавуны. З Еўпаторыі — накірунак на сімферопальскі аэрапорт, дзе адпаведна раскладу рыхтуецца да вылету самалёт на Беларусь. Дарэчы, як крыху раней, ці пазней за наш рэйс, рыхтуюцца ўзляцець авіялайнеры на Казахстан, у Сібір, на Далёкі Усход, да ўзбярэжжа Ледавітага акіяна ды кітайскай мяжы…

Як толькі мы трапілі ў аэрапорт, стала зразумела, што нікто нікуды не ляціць. І казахі, і сібіракі, і жыхары Далёкага Усходу разам з кітайцамі, а таксама шмат хто яшчэ, сядзелі на сваіх чамаданах у невялікім памяшканні аэравакзала. Па гучнай сувязі кожныя пяць-дзесяць хвілінаў металічны жаночы голас паведамляў аб адмене чарговага авіярэйсу. Адпаведна людзей збіралася ўсё больш і больш. Аэравакзал акружылі міліцыянты. Адзіны раз у жыцці я бачыў такую аграмадную колькасць супрацоўнікаў міліцыі, апранутых у старую парадную форму: белыя фуражкі, белыя кіцелі, цёмна-сіняе, амаль што чорнае галіфэ, хромавыя боты. У хуткім часе гэтая форма змяніцца на знакамітую шэрую, якая праіснуе да самых апошніх дзён Савецкага Саюза.

Як усё адносна ў свеце: толькі што мы ўсхваляванa імкнуліся не спазніцца на пасадку ў свой самалёт, а літаральна праз нейкіх пятнаццаць-дваццаць хвілінаў мы ўжо былі заражаны ўсеагульным страхам. Што здарылася? Вайна? Нейкая буйная катастрофа? Усіх нас падазраюць у глабальным злачынстве, здрадзе Радзіме, спробе захопу самалёта ці аэрапорта, ці Сімферопаля ўвогуле (забруджванні Чорнага мора, пагрозе Турцыі)? Зараз міліцыянты роўнымі шэрагамі пойдуць правяраць дакументы? Абшукваць багаж, пратыкаць шомпаламі кавуны і персікі?

Адказаць, што на самой справе адбывалася, не мог ніхто. Людзі маўкліва займалі свае месцы на лаўках, сядзелі на праходах, спрабавалі ўладкавацца на вялізных падваконніках. Дзеці не бегалі і не шумелі, разумеючы, што адбываецца нешта занадта сур'ёзнае. Нейкае дзіцё не вытрымала і заплакала. Дыхаць станавілася ўсё цяжэй і цяжэй, на вуліцу нікога не выпускалі. Урэшце незнаёмая жанчына страціла прытомнасць. Медсупрацоўнікі вельмі хутка апынуліся побач. У зале плакала ўжо не адно дзіцё. Спробы выйсці на вуліцу заканчваліся нічым. Спытацца што-небудзь было нельга. Любыя размовы перарываліся загадамі заняць сваё месца. Мы адчувалі сябе закладнікамі.

У нейкі момант было загадана пакінуць рэчы на сваіх месцах і ўсім арганізавана выйсці на вуліцу. Па жывым калідоры, паміж міліцыянтаў, мы трапілі на пляцоўку, з якой было бачна лётнае поле. Людзі недаўменна пераглядваліся, перагаворваліся шэптам. Толькі адзін чалавек, здавалася, нічога не баяўся. Гэта быў аграмадны, паголены налыса каўказец, які ўвесь час уголас выказваў прэтэнзіі: «Шьто хацят, то тварят! Я ужэ давно дольжэн улетаць атсюд!..».

Раптам, быццам бы ніадкуль, па руках пайшлі папяровыя кветкі, надзьмуўныя шарыкі, невялікія сцяжкі з чырвонай матэрыі, на якіх было напісана нешта кшталту «Мір» і «Дружба». Адразу натоўп павесялеў, і тут жа «сарафаннае радыё» пачало перадаваць — зноў жа шэптам, ці вельмі нягучна і загадкава, адзін аднаму «на вушка» — кавалачкі інфармацыі, якія, быццам бы ў калейдаскопе, можна было складаць у розных камбінацыях: «…урадавыя «Чайкі…», «…Брэжнеў тут…», «…палітбюро ў поўным складзе…».

Толькі каўказскі чалавек працягваў сваю тэму: «О, шайтан, какіе чайкі! Какой палітбюро! Да пошлі ані падальшь! Мне літаць нада! Я ужі давно должін быць нэ здэсь!..».

Раптам і сапраўды: тры аўтамабілі «Чайка» не вельмі хутка праехалі ў накірунку да лётнага поля. За імі каля дзесяці навюткіх «Ікарусаў» павольна, як на паказе мод, прадэманстравалі натоўпу шчыльна закрытыя белымі фіранкамі салоны. Дружны савецкі калектыў патэнцыяльных авіяпасажыраў сімферопальскага аэрапорта няндружна прагудзеў нешта кшталту ці то прывітання, ці то здзіўлення. Нехта лянівa памахаў кветкамі. Я, спрабуючы таксама далучыцца да шматпакутнага свята, выпадкова лопнуў шарык. Тут жа перад шэраговымі міліцыянтамі, якія ўтваралі жывую заслону, з'явіўся афіцэр і пачаў пільна ўглядацца ў тое месца, адкуль пачуўся хлапок. Твары маіх бацькоў выцягнуліся і збялелі. Але абышлося. Афіцэр не стаў расцэньваць інцыдэнт як спробу пакушэння ці дыверсію…

**Мы — «масоўка», машыны ды самалёт — «дэкарацыі», а прэзідэнт выходзіў дзе-небудзь зусім у іншым месцы, і здымалі яго зусім іншыя камеры**

На ўзлётна-пасадачную паласу, вельмі далёка ад сваіх гледачоў, выехаў незвычайны, брудната неакрэсленага колеру, з нязвыклай сімволікай на бартах замежны самалёт. «Боінг…» — нягучна пракаментаваў нехта з натоўпу. «Какой «боін-шмоін»?! Когда закончіся этат безабразій? Мне давно нэ здэсь нада быць…» — паляцела ў адказ гнеўная тырада. Тыя дарослыя, хто стаяў вакол, сурова пазіралі на падазронага бунтаўшчыка, але нічога яму не гаварылі. Ад яго свабоды выказванняў мне зрабілася не па сабе. Нават у дзевяцігадовым узросце я ўжо ўсведамляў, што савецкаму чалавеку так гаварыць «нельга».

Калона «Ікарусаў», якую ўзначальвалі тры «Чайкі» — бліскучых, чорнага колеру, легендарных «крамлёўскіх кабінетаў на колах», праехала ў зваротным накірунку.

Вельмі хутка гучнымі камандамі міліцыянтаў натоўп быў развернуты, і зноў, па «жывому калідору», накіраваны да будынка аэравакзала. Нашыя рэчы былі на сваіх месцах. Праз кожныя пяць-дзесяць хвілінаў па гучнай сувязі пачалі аб'яўляцца вылеты рэйсаў, і ў хуткім часе зала чакання лётнай установы Сімферопаля апусцела і ўвайшла ў звыклы рэжым сваёй працы.

У магілёўскім аэрапорце нас сустрэў нехта з татавых знаёмых з машынай. Калі дома мы распакоўвалі свае чамаданы, торбы і пакункі, вынімаючы з іх сакавітыя экзатычныя прадукты і сувеніры, па тэлевізары якраз пачалася «перадача №1» для ўсяго Савецкага Саюза — легендарная «Программа «Время»» пад незабыўнае музычнае суправаджэнне аўтарства Георгія Свірыдава.

Першым блокам навінаў ішла ашаламляльная інфармацыя аб тым, што ў нашую краіну прыляцеў прэзідэнт ЗША (па сенсацыйным узроўні падзея для тагачасных савецкіх абывацеляў прыраўнівалася да прылёту на нашу планету кіраўніка суседняй Галактыкі). Па словах дыктараў, прыляцеў прэзідэнт не абы-куды, а ў Сімферопальскі аэрапорт. І там ужо, як аказалася, «весьсоветскийнародсвоодушевлениемибезотчётнойрадостью» сустракаў лідара Злучаных Штатаў. Прычым народ няблага падрыхтаваўся: нарабіў папяровых кветак, надзьмуў шарыкі (хаця — «…Отставить шарики! Товарищ полковник, в следующий раз вместе со своими шариками пойдёте в отставку!..»), нагатаваў чырвоных сцяжкоў з надпісамі «Мір» і «Дружба», сабраў прадстаўнікоў неабсяжнай Радзімы з самых розных бакоў: з Казахстана! «Ура-а-а!»; З Дальняга Усходу! «Да здравствует…!»; З берагоў Паўночнага Ледавітага акіяна! «Вечно живой…!»; З кітайска-савецкай мяжы! «Даёшь автоматы Калашникова китайского производства! Ура-а-а!!!»; З савецкай Беларусі! «Жыве-е-е Белару-у-усь!!!»

(Паўза.)

«…Товарищ полковник, промотайте-ка чуть-чуть назад… Чё-то мне тут показалось…». Вывы людзей на відэазапісе хуценька пабеглі назад, паднімаючы па трапе амерыканскую дэлегацыю спінай да выйсця з самалёта. Кадр змяніўся. «Стоп!» Аграмадны, паголены лысы чэрап нахіліўся вельмі блізка да камеры і спытаўся з пагрозай: «Шьто такой! Я когда-нибудь улечу адсюд?..»

«А-а, так это ж майор Абдулганиев! От уже, бл…дь, изголяется как может, провокатор хренов, твою мать…»

Усе тэленавіны былі прысвечаны падзеі з'яўлення Рычарда Ніксана на савецкай зямлі. Я глядзеў у экран і не мог паверыць сваім вачам: я памятаў амаль што ўсіх гэтых людзей з аэрапорта стомленымі, раздражнёнымі і хаваючымі сваю раздражнёнасць. Але на тэлеэкране ўсё было па-іншаму. Зусім па-іншаму! Голас дыктара чароўным чынам рабіў сітуацыю прынцыпова інакшай: людзі па-сапраўднаму радаваліся, усміхаліся, махалі кветкамі, сцяжкамі. Праўда, бязгучна. Хуткая нарэзка патрэбных кадраў рабіла сапраўдны цуд.

Я нават пачаў думаць, што была яшчэ нейкая іншая група людзей, якая сапраўды так радавалася і крычала — у адрозненне ад нашай, дзе людзі ледзь перасоўвалі ногі ад стомы і спякоты. А на тое, што ў кадрах траплялся знаёмыя твары, я падумаў: гэта проста некаторыя нашы, «сумныя», нейкім чынам патрапілі ў групу тых, «вясёлых», і заразіліся іхным настроем. Але, калі камера рухалася ўздоўж натоўпу, я раптам разглядзеў кавалачак мамінай яркай спадніцы, татаў капялюш ад сонца, а таксама свой локаць і шорты.

Я павольна пераве́ў позірк спачатку на ўласны локаць, потым на шорты — і зразумеў, што гэта ўжо не проста запыленая вопратка, якая боўтаецца на нагах. Перад маімі апушчанымі долу вачыма пералівалася колерамі і зіхацела частка сусветнай гісторыі.

Магчыма, у той момант у маёй свядомасці і адбыўся падзел. З аднаго боку, я яшчэ заставаўся чалавекам, а з іншага — ужо стаў «саўком». У тым сэнсе, што пачаў успрымаць рэчаіснасць дваяка: «тут» — тое, што адбываецца на самой справе, а «там» — тое, што патрэбна «камуністычнай партыі і ўсяму савецкаму народу» (гл. тэлевізар).

Калі б можна было рабіць назвы апавяданняў вельмі доўгімі, то ў нашым выпадку гэта выглядала б наступным чынам: «Шоў павінна працягвацца, а звераферма застаецца звераферма́й…». Цяпер я ўпэўнены, што ў «Чайках» ды «Ікарусах», якія праехалі тады перад намі, акрамя кіроўцаў, нікога не было. Так, для праграмы «Время» здымаліся патрэбныя сцэны. Мы — «масоўка», машыны ды самалёт — «дэкарацыі», а прэзідэнт выходзіў дзе-небудзь зусім у іншым месцы, і здымалі яго зусім іншыя камеры.

Шмат чаго мяняецца ў свеце, шмат чаго застаецца ў нязменным выглядзе. Некаторых ужо няма ў жывых. Няма Фрэдзі, няма Сіда. Выходзяць парсы, і персы таксама выходзяць. Сыйшлі Ленід Брэжнеў і Рычард Ніксан. А Давыд па-ранейшаму працягвае рабіць шоў. Гэта азначае, што і шоў працягваецца, як завяшчаў вялікі Фрэдзі, а дзе-ніздзе (нават да сённяшніх часоў?) і звераферэмы застаюцца звераферэмамі, не горш, чым у Оруэла…

ВЕРШЫ

# РАЗГАДКА ПІРАМІДАЎ

**Міхась СКОБЛА**

## Брат

*Паўтараецца дзіўны абрад,*
*Што ў фальклёры не мае назову, —*
*Кажа прыхадзень мне: — Я твой брат.*
*Як прагнаць, як адвадзіць назолу?*

*Я сваяцтву сапраўднаму рад,*
*Клічу крэўнікаў на пагасціны.*
*Ды прыходзіць чужак: — Я твой брат,*
*І мы жыць у братэрстве павінны.*

*Мы частуемся, хто чым багат, —*
*Сваякі па крыві і па духу.*
*А над вухам ізноў: — Я твой брат...*
*І той голас, пачуты стократ,*
*Не прагнаць, як асеннюю муху.*

*Дзе б ні быў — на гульбе, ці сяўбе,*
*Я губляюся, прыхадня стрэўшы.*
*Ён расказвае мне пра сябе,*
*Ён адзіны ўжо стаў і старэйшы.*

*І выкрыквае ўжо як загад,*
*Ужо зáгрудкі ўзяўшы ў зацішку,*
*Раз, маўляў, ты малодшы мой брат,*
*То і слухаць павінен брацішку!*

*З азіяцкай хітрынкай пагляд,*
*Пра братэрства сваё не змаўкае…*
*І спытацца мне хочацца: брат,*
*А імя тваё часам — не Каін?*

## Званар

*Уладзіміру Барташу*

*Ёсць узыходжанне да звону,*
*Як свой уласны эверэст.*
*Без падрыхтоўкі, без дазволу —*
*Душы прыземленай пратэст.*

*Душа заўсёды неба прагне,*
*Душы няпроста дагадзіць.*
*Душа не хоча жыць у багне,*
*Што вокам чортавым глядзіць.*

*Угору дзвесце дваццаць сходак.*
*Вятры з вакон бяруць разгон.*
*І думаеш — а як жа продак*
*Сюды узняў дзвюхтонны звон?*

*А ўзнагародай за знямогу —*
*На вежы ўстаць у поўны рост*
*І пазваніць знянацку Богу*
*Без пасярэднікаў, наўпрост.*

*Хай потым гром і навальніца,*
*Няхай сняжыць, няхай імжыць…*
*Хоць раз да Бога дазваніцца —*
*Дзеля такога варта жыць.*

## Вечар

*Божая кароўка заблыталася ў павуціну,*
*Што на пожні расой вечаровай набракла.*
*Жабы ў сажалцы зноў вывучаюць*
*лаціну —*
*Паўтараць не стамляюцца: аква, аква.*

*Там — на дыбачкі прыўстае касцёл,*
*Каб данесці воблакам свой малебен.*
*Тут — у лозах азваўся быў пасвіцёл,*
*Ды замоўк, адчуўшы, што не патрэбен.*

*З-пад страхі гумна выглядае багор.*
*Вёска на галасы людзей паскупела.*
*І гучыць, не змаўкаючы, жабін хор —*
*Пераможна,*
*на ўвесь бел свет,*
*а cappella!*

## Пасля дажджу

*А лівень схлынуў і збег за рэчку.*
*І стала дыхацца лёгка-лёгка.*



Фота Джона Кунстадтэра

*Раз-пораз вогненную вуздэчку*
*Пярун прымяраў камусьці далёка.*

*Сланечнік чуб абтрасаў каля рова*
*І назіраў, як у дзікай злосці*
*З вуздэчкі тае і дугі каляровай*
*Імкліва ўцякае грывасты хтосьці.*

*Не ведаючы, хто на небе ахвяра,*
*Звінеў на зямлі сырадой у даёнцы.*
*І светлым воблакам стала хмара,*
*Паспавядаўшыся сонцу.*

***

*Дружылі — не разлі вада.*
*Хоць за крысо нячысцік тузаў,*
*Іх не сварылі ні бяда,*
*Ні трубы медныя, ні муза.*

*Ці спеў з карчомкі даляцеў,*
*Ці чорная прабегла котка —*
*Ён зрокся сябра. Так хацеў.*
*Сышло. А на душы пякотка.*

*І што яна — мо Божы знак?*
*А мо нячысцікавы кукіш?*
*Прадаў сяброўства за пятак —*
*Пасля і за мільён не купіш.*

## Ода шлагбаўму

*Мне збрыдзеў дух бульбяна-агародны,*
*Ад сагаў пра рахманасць — Божа збаў.*
*Вось сімвал твой, забыты краю родны, —*
*Пярэсты, у палосачку, шлагбаўм.*

*Яму заўжды я невыказна рады.*
*Ён стаў пейзажам нашым не чужы —*
*Спыняе рух імклівай аўтастрады*
*І чэргі рэгулюе на мяжы.*

*Пільнуе раздарожжы, найхарошы,*
*Нястомны, незгінальны працаўнік.*
*Ён для краіны зарабляе грошы —*
*На пенсіі, на школы, на пікнік.*

*Пад колы фурам кідаецца, смелы,*
*Тармозіць джыпы з піцерскай братвой…*
*Шлагбаўм мой родны, бел-чырвона-белы,*
*Як можна не заўважыць подзвіг твой?*

*А я заўважыў, і ў якімсь нясцерпе*
*Мяне няўпынна подумка дзяўбе:*
*Ты варты быць на гістарычным гербе —*
*Пагоня скача хай — цераз цябе!*

*Зямляча, беражы шлагбаўм, як вока,*
*На дровы не сячы яго, не руш.*
*І перад ім, як едзеш дзе далёка,*
*Спыніся і здымі свой капялюш.*

***

*Падлічыўшы ўсе гузы,*
*Самы час агойтацца.*
*Толькі ляж пад абразы —*
*Адпявалы знойдуцца.*

*Прагнусавяць некралог*
*І ўзмахнуць кадзілам.*
*А я проста так прылёг.*
*Вам якое дзіва?*

*Ах, далі ўжо знаць радні?*
*Ах, заняў вам покуць,*
*Дзе вы звыклі дзень пры дні*
*Гойсаць і галёкаць?*

*Хто галёкаў, той прыціх,*
*Да дзвярэй падаўся —*
*Міхаіл Архістраціг*
*З цёзкам прывітаўся.*

*Мне падаў святы Пятро*
*Ключ ад райскай брамы.*
*Скінуў райскі птах пяро*
*На падушку прама.*

*Столь — дзівосны парасон,*
*Квецень між пазамі…*
*Незвычайны гэта сон —*
*Сон пад абразамі.*

***

*Насалелая выдма лысее.*
*За прычаламі ясніцца даль.*
*Піша мора сваю адысею,*
*Развінуўшы гекзаметры хваль.*

*Там свае адплываюць героі*
*Па сваё залатое руно.*
*Там свае ахілесы і троі,*
*Для рысталішчаў — тупкае дно.*

*Штó зямныя імперыі ў славе,*
*Дзе дачаснікі селі на трон?*
*Сто вякоў акіяннай дзяржаве,*
*Дзе нязменны ўладар — Пасейдон.*

*Барадаты, суровы з аблічча,*
*Ходзіць ён па зыбучым пяску,*
*Галіёнамі золата лічыць*
*І русалкам дае на луску.*

*Сее жменяй, ніяк не дасее,*
*Дзе плытчэй, трапяткую кефаль…*
*Піша мора сваю адысею,*
*Развінуўшы гекзаметры хваль.*

## Залатыя Пяскі

*Намывала стагоддзямі мора*
*Залаты свой запас —*
*Пытляваны сонцам і ветрам,*
*Шліфаваны жорнамі хваляў*
*Жоўты пясочак.*
*Кожнай пясчынцы хацелася*
*Стаць жамчужынай у чарупіне*
*Ці адмерваць імгненні*
*У пясочным гадзінніку —*
*Падзяляць на каштоўныя унцыі час.*
*Сонца, мора й пясок як пылок —*
*Райскі куток.*
*Але тысячы змеяў*
*Зладзілі тут свае лежні,*
*З вінаграднікаў спелых*
*Сыкала гадаўё…*
*І тады баязлівыя людзі*
*Прывезлі на Залатыя Пяскі*
*Усяго пяць кошыкаў вожыкаў —*
*Маленькіх, калючых вожыкаў,*
*Вялікіх адвагай вожыкаў,*
*І — паўцякалі ўсе змеі,*
*І знікла зусім гадаўё.*

*Шчаслівыя людзі —*
*Сябры-другары балгары,*
*Зруйнуйце вы помнікі*
*Макдональдсам і піратам,*
*Жрыцам кахання, кухмістрам*
*І залатому цяльцу,*
*А пастаўце помнік Вожыку —*
*Вызваліцелю Залатога Пяску!*

*Вожыкі мілыя,*
*Хочаце — я дам вам бусі*
*І куплю вам купэ ў цягніку*
*Да самой Беларусі?*
*Бо не магу ужо я*
*Трываць там гадаўя…*

## Разгадка пірамідаў

*У сонечнай Варне*
*На плошчы ля ратушы —*
*Груда камення.*
*Як маеш прэтэнзіі*
*Да гарадское ўлады*
*Ідзеш і кладзеш туды*
*Свой камень пратэсту.*
*Расце піраміда на плошчы,*
*І варненцам лёгка жывецца —*
*Ніхто з іх не носіць*
*За пазухай камень.*

*Усе егіптолагі свету,*
*Няўжо і цяпер вам няясна,*
*Хто і навошта*
*Узвёў піраміды над Нілам?*

*Ды проста падступны Хеопс*
*Забраў у фелахаў аазіс.*
*Нягоднік Рамзес*
*У засушлівы год*
*Закапаў у гаршку на беразе Ніла*
*Апошняе зерне.*
*А гіцаль Тутанхамон*
*Прымусіў падданых*
*Сабраць колькі сціртаў*
*Вярблюджых калючак*
*Для сваіх драмадэраў*
*І ў тэрмін не разлічыўся.*

*Цярплівы народ*
*Клаў камень на камень.*
*А фараоны жылі гэтак доўга —*
*Як цячэ Ніл лянівы…*
*Вось і ўся пірамідаў разгадка.*
*А таму не лічыце мяне экстрэмістам,*
*Калі выйду на плошчу*
*З каменем у руцэ.*

***

*Посцім ці аладкі ў мёд мачаем,*
*Ці ратуем песняю душу,*
*Божа, не карай мяне маўчаннем —*
*Аб адным заўжды Цябе прашу.*

*Даў ты мне дыханне, даў каханне*
*І ў чмяліным лузе сенажаць,*
*Веча вечароў і мроі ранне —*
*Як пра ўсё пра гэта прамаўчаць?*

*Прамаўчаць над срэбным вадаграем,*
*Поўным весялосці і журбы?*
*Прамаўчаць, як прагучаць над Краем*
*Зыкі арханёльскае трубы?*

*Кім названа золатам маўчанне?*
*Хто ён быў — філосаф, адвакат?*
*Ёсць маўчанне — як нямка мычанне,*
*Ёсць маўчанне — безуважны кат.*

*Ці дамоў вярнуся з падарожжа,*
*Ці ўдыхну ізноў чужыны дым,*
*Не карай маўчаннем мяне, Божа, —*
*Я маліцца буду аб адным.*

АПАВЯДАННЕ

# АХВЯРА КАМПАНЭЛЫ

## Люстра душы

Чэхаў сцвярджаў: вочы — люстра душы чалавека. Калі зірнуць у вочы Алеся Анцікяна, то ўбачыш у іх боль, жаль, надзею, непакору. Жар душы ягонага няскоранага за стагоддзі, шматпакутнага народа. Алесь — мой малодшы паплечнік у слугаванні слову, якое неўспадзеў, сціпла і шчыра западзе ў сэрца чытача пры азнаямленні з ягоным творчым набыткам. У ягоных жылах зліліся гордая, горская армянская бацькава гарачая кроў з памяркоўна-павольнай, беларускай матчынай крывёю — і спарадзілі ў сыне, які нарадзіўся, дарэчы, у Ленінградзе, людскую дабрыню, спагаду і прыязнь у аблямаванні іскрыстага, чулага, чалавечнага гумару.

Творчасць празаіка, а апошнім часам і паэта, грунтуецца на багатым жыццёвым вопыце. Манера стылю Анцікяна нагадвае почырк нашага заўчасна пагаслага земляка Уладзіміра Іванавіча Стэльмашука. Гэта — не абрыдлая сённяшняя модная прыгодніцкая пісаніна, а адлюстраванне складаных чалавечых пачуццяў у жорсткай жыццёвай плыні. Пісьменніцкія вартасці Анцікяна ацэнены як пераможцы конкурса «Залатое пяро» ў намінацыі «Драматургія» дыпломам усебеларускага альманаха «Гоман». І ёсць за што.

Напрыканцы жніўня Аляксандра Францавіча Берасцейскае аддзяленне Саюза беларускіх пісьменнікаў павіншавала з грунтоўным — шасцідзесяцігадовым юбілеем. Да пажадання арыгінальнаму творцу грунтоўных поспехаў у жыцці і працы далучаецца і «Літаратурная Беларусь».

**Аляксей Філатаў**



**Аляксандр АНЦІКЯН**

**Гісторыя, якую свярбіць расказаць, адбылася нядаўна. На той час я служыў у крымінальным сыску транспартнай міліцыі. Успамінаецца, як у халёпны лістападаўскі вечар зазірнуў да нас у кабінет малады ўстрывожаны мужчына. Назваў сябе ды распавёў пра свае прыгоды ў пагранічным горадзе Брэсце.**

То быў вясковы цяльпук, якому напрамілы Бог карцела прыдбаць зімовыя чобаты. А ў той час абсалютнага дэфіцыту як у харчовых, так і ў прамысловых магазінах было — хоць у футбол гуляй; прыстойныя рэчы набываліся ці па вялікім блаце, ці ў спекулянтаў, ці нацыянькі — у польскіх чыгуначнікаў. Пагэтаму, атрымаўшы ад дасціпных людзей адпаведную кансультацыю, малады чалавек накіраваўся на месца адстою цеплавозаў, «польскай колеі пачакаць на вакзале»... Тут яму неўспадзеў сустрэўся быстравокі грамадзянін, які спачатку пацікавіўся, што робіць таварышшыцелю ў такім небяспечным месцы, дзе без дай прычыны могуць набіць пысу, абкрасці, а потым паспачуваў і прапанаваў небараку свае паслугі ў набыцці патрэбнага яму абутку. Узяў у разявы грошы, залез у цеплавоз — і-і-і шукай голку ў стозе ці ветру ў полі. Дарэмна чакаў вясковец сэрдабольнага мужычка: бы ў недалёкі Буг ён пурнуў...

Вось тады і вырашыў чалавек звярнуцца па дапамогу ў міліцыю. А ў міліцыі, як усім вядома, працуюць таксама людзі, і нікому з іх не хочацца ў такую непагадзь, калі руплівы гаспадар і сабаку пашкадуе, цягчыся на месца злачынства.

Кінулі на пальцах, і лёс усміхнуўся мне: перабор. Ды, дзякуй Богу, далі ў памагатыя талковага сяржанта — вынюхаў ён патрэбнага нам машыніста. Але той сцвярджае: ніц не вемем і ніц не відзел, пшэпрашам, панове міліцыянты. Скажу шчыра, нічога іншага мы ад яго і не чакалі: паляка на мякіне не правядзеш і без пенёнзы не возьмеш.

Але думай, кепала, бо акрамя дакляравання пацярпелага і такіх-сякіх прыкметаў злачынцы з ягоных слоў — нічагуські не было. Але машынерыя вышуку загула і пачала набіраць абароты.

Зарыентаваны ўсе службы. Ля цеплавоза засела варта. Ахвяра наша прагледзела ўсе фотаальбомы са злачынцамі магчымых фарбаў і колераў. Так, не здарма гаворыцца: хто шукае, той знойдзе. Праз паўтыдня каля цеплавоза паляка вушлы сяржант затрымаў асобу, прыкметы якой супадалі з апісаннем пацярпелага. Прыводзім афіцыйнае апазнанне — і наш злыбяда-пакупнік зімовых чабоцяў адразу пазнае гіцля.

Перад намі сядзеў тыпус гадкоў з паўсотню, які ўсенька адмаўляў, адно далдоніў, што хлопец, якога ён бачыць першы раз у жыцці, шчыра памыляецца. Не, такога «моцнага арэшка» можна было «раскалоць» толькі грунтоўнымі доказамі… І, наўздзіў, дапамогу гэтым паляк-машыніст, якому было абяцана не дасылаць кіраўніцтву непрыемную вестку пра ягоную адмову органам праваахоўнага парадку «Звёнздску Радзецкога».

Затрыманы нутром унюхаў, што яму, сем разоў судзімаму за махлярства, надта небяспечнаму рэцэдывісту хавацца няма куды, прызнаўся ды дабавіў, што дурняў трэба вучыць, як жыць на белым свеце. У душы я быў з ім шчыра згодны.

Замкнуў затрыманага ў ізалятар часовага ўтрымання, пачаў рыхтаваць матэрыялы следства. І раптам бы гром з яснага неба! Вызывае раба божага Анцікяна начальнік аддзела і паведамляе, што на мяне ў транспартную пракуратуру прыйшла скарга ад затрыманага Л, і на заўтра прызначана аператыўная нарада, на якой будзе прысутнічаць пракурор.

Нарада пачалася з зачытвання начальнікам той скаргі прыблізна такога зместу:

«У такім та годзе, месяцы, дня я быў затрыманы міліцыяй каля польскага цеплавоза і мяне заставілі прызнацца ў злачынстве, якога я не рабіў. Асабліва націскаў опер па прозвішчы А., які папрасіў выйсці ўсіх супрацоўнікаў з кабінета і пачаў выкарыстоўваць меры фізічнага і медыцынскага ўздзеяння па сістэме Кампанэлы. І пасля гэтых пякельных здзекаў, калі мой арганізм неяк міжволі пачаў вылазіць са скуры і я ўжо развітваўся з жыццём, мне давялося прызнацца ў тым, чаго на самай справе я не рабіў.

У сувязі з гэтым прашу ласкава абараніць мяне ад гэтай лютае пачвары, бо ён мяне скалечыць ці заб'е. І калі такое здарыцца, то ляжа на сумленне пракурора. Подпіс і яшчэ раз дата».

Пракурор дадаў, што ўчора ён апытваў затрыманага, і той усё напісанае пацвердзіў, а пры ўпамінанні операўпаўнаважанага А. пачаў выкручваць сабе рукі, рваць на галаве валасы і біцца ёю аб сцяну.

У кабінеце запанавала напятая ціша, братва круціла галовы ці ў бок начальніка, ці пракурора, ці мяне. Нарэшце нехта нясмела спытаў:

— А хто гэта такі — Кампанэла?

Начальнік лісліва, з надзеяй зірнуў на пракурора, і той запэўніў вобчаства, што Кампанэла — правая рука Беніта Мусаліні і ў Італіі ужываў у адносінах да ворагаў нацыі драпежныя катаванні, якія не пакідалі слядоў на целе ахвяры. Далей ён падаўся ў гісторыю фашызму, адкрыў нам вочы на ягоныя зверствы і давёў, што Мусаліні павесілі італійскія партызаны, а Кампанэлу асудзілі на Нюрнбергскім працэсе. Метады ягоных катаванняў да сяго дня патрабуюць вывучэння, ды ў пракуратуры мяркуюць, што супрацоўнік А. сёння падзеліцца з намі сваімі «дасягненнямі».

Добры тузін вачэй глядзеў толькі на мяне. Канечне, у гэтай сітуацыі, калі да зарэзу трэба было дакляраваць, што ты — «не вярблюд», я з цяжкасцю ўспомніў, хто такі Кампанэла. Думкі верталётным вінтом закруціліся ў галаве, шукаючы хоць нейкі праменьчык святла. І нарэшце:

— Я не ўпэўнены, але ўспамінаецца, што Кампанэла — гэта манах, які жыў у сярэднявеччы, і ніякім саталітам Мусаліні практычна не мог быць, калі, безумоўна, не зрабіў яго Творца бессмяротным.

Шмат хто ўсміхнуўся, узрадаваўся, успомніў школьныя і інстытуцкія праграмы, пра манаскія ордэны, служкам якіх быў менавіта Кампанэла. Тады начальнік аддзела транспартнай міліцыі прамовіў «залатое» слова: катэгарычна ні табе, А., ні другім не належыць павучаць пракурора, талкаваць яму пра Кампанэлу, што манахі ў свой час былі інквізітарамі, якія не толькі адмыслова катавалі, але і палілі людзей.

І калі гэта не той самы Кампанэла, то, напэўна, які-небудзь ягоны нашчадак, і сакрэты катавання перадаваліся ад дзеда да ўнука. Пасля такое высновы на мяне ўзвалілі ўсе вядомыя і невядомыя грахі лінейнага аддзела. Забіла асінавы кол у дол заключнае слова палкоўніка: «Мы яшчэ даведаемся пра гэтыя кампанэлаўскія лялечкі-цацачкі, і ты за іх адкажаш па поўнай праграме, «вплоть до партийного билета». А пакуль я сваім загадам забараняю табе працягваць службу, накладаю хатні арышт… скардзіся хоць манаху, хоць самому Госпаду Богу. І не ўздумай суадносіцца з затрыманым і ціснуць на яго праз тваіх сэрдабольных ілжэтаварышаў».

Безумоўна, насталі чорныя дні, але я, кроў з носа, павінен быў выбіць з прашчалыгі глебу з-пад ног і апраўдаць сябе ў вачах сяброў, якія добра ведалі, што я чысты, як сокал у сінім небе.

Па-першае, я павінен быў адсачыць жыццё і дзейнасць гэтага манаха і выйсці на Нюрнбергскі працэс. А па-другое, я не адразу адчуў, што ў гэтага затрыманага нешта не тое з галавою, мо звіліна трэснула? — і ён даўмеў, як адвесці мяне ад следства, каб, крый Божа, не разблытаццa ягоныя праграмныя злачынствы. І, увогуле, хворыя на галаву людзі — майстры на ўсялякія цуда-фантазіі.

У абласной бібліятэцы мне ветліва і адразу знайшлі патрэбныя крыніцы. Чытаю, выпісваю: «Кампанэла Джавані Дамэніка нарадзіўся 05.09.1568 у горадзе Стыла (Калабрыя, Італія). Памёр 21.05.1639 г. Італійскі філосаф, адзін з прадстаўнікоў ранняга ўтапічнага камунізму, з сям'і дробнага рамесніка. Манаскае імя «Тамазо». У 1559 годзе за вальнадумства і падрыхтоўку змовы супраць іспанскага ўціску ў Неапалітанскім крулеўстве асуджаны пажыццёва. 27 гадоў адбыў у турме, дзе пісаў кнігі. У 1602 годзе стварыў адзін з першых трактатаў утапічнага камунізму «Горад Сонца»».

Разабраўся з Кампанэлам, прагледзеў матэрыялы Нюрнберга, і здалёк падобнага прозвішча не знайшоў. Зрабіў выпіскі, нават засведчыў пячаткаю бібліятэкі. На наступны дзень пачаў высвятляць псіхічны стан грамадзяніна Л.

Афіцыйны запыт не мог зрабіць, выручылі сяброўскія сувязі. У мужчыны было столькі псіхічнай паталогіі, што ён мог бы прэтэндаваць на ўнясенне ў кнігу рэкордаў Гінэса.

Надта доўга ў сяброўскіх колах сярод супрацоўнікаў успаміналася гэтая скарга псіхічнахворага, як анекдот.

А для мяне асабіста Кампанэла, гэты манах-утапіст, зрабіўся бы родны. Я поўніўся радасцю, што ён не вынаходзіў адмысловых катаванняў, а быў шчырым летуценнікам і любіў сваю Італію.

Зусім нядаўна давялося сустрэцца са старым знаёмым на, так бы мовіць, Брэсцкім Арбаце. Ён кінуўся ў абдымкі і папрасіў не крыўдаваць на старое — справу мінулую.

А я і не крыўдую, бо на пакрыўджаных, як вядома, ваду возяць, а ў мяне, прабачце, спіна баліць, панская хвароба — крыжовы радыкуліт, зараза, закатаваў.

*Пераклаў з расійскай*
**Аляксей Філатаў**



ПОГЛЯД

# РАСІЯ ЯК МІФАТВОРЦА

◄ **Працяг. Пачатак на стар. 9 (1).**

Так, гэты кыргыз пісаў на мове расійскай. Але для таго, каб прарычаць на ўвесь свет (найперш, на расійскамоўны свет) кыргызскае паданне пра манкуртаў (ці не расійскамоўным кыргызам адрасаванае?) і ўстурбаваць гэты свет лёсам каня Гульсары, у вобразе якога толькі глухі, сляпы і бяздушны не адчуе болю і енку Кыргызстана, які канаў у расійскім палоне.

Як добра жывецца народам пад расійскім крысом, якога росквіту яны дасягнулі, мы бачым на прыкладах з жыцця крымскіх татараў, карачаеўцаў, чаркесаў, паволжскіх немцаў, карэйцаў, туркаў-месхетынцаў, балкарцаў, курдаў, тых жа інгушоў і чачэнцаў. Гэта пра іх, вышэйпералічаных, гаворыцца ў справаздачы хельсінскай групы па правах чалавека (1991 г.): «Як правіла, дэпартацыі праходзілі без папярэджання. Перасяленню падлягалі ўсе прадстаўнікі вызначанай народнасці — мужчыны, жанчыны, старыя, хворыя, інваліды. Некаторым удавалася сабраць за выдзеленыя хвіліны сякія-такія пажыткі, іншым увогуле нічога не дазвалялася браць з сабой. Аўтаматчыкі заганялі іх спачатку ў грузавікі, а затым у таварныя вагоны, у якіх іх чакаў шлях працягласцю ад некалькіх дзён да некалькіх тыдняў у далёкія раёны Сярэдняй Азіі. Там іх выгружалі і пакідалі на волю лёсу з мізэрнымі запасамі. Многія тысячы паміралі ў дарозе. Яшчэ болей загінулі ад голаду, холаду і хваробаў у месцах высылкі...»

А што вы ведаеце пра чукчаў, акрамя зняважлівых анекдотаў? І, магчыма, мала хто ведае пра нацыянальна-вызвольнае, залітае крывёю, паўстанне тывінцаў у 30-х гадах. Але я не веру, што гэтага не ведае адданы служка Пуціна Сяргей Шойгу. Скарыліся тывінцы? Спытацца б у іх. Але адказ ужо вядомы. Бо сёння насельніцтва Тывы больш чым напалову складаюць чыстакроўныя арыі… прабачаюся, расійцы. Магчыма, удзячныя Расіі карэлафіны? Ці іжорцы? Ці нанайцы? Ці вепсы, якіх засталося не болей за сотню і якія так і не змаглі пад апякунствам Расіі стварыць сваёй пісьмовасці?

А вось — дадзеныя перапісаў: у 1929 годзе на абсягах расійскай федэратыўнай дзяржавы існавала 191 народнасць, у 1979 годзе іх было ўжо 132. Удзячныя Расіі народы зыходзяць у нябыт. Застаюцца няўдзячныя. Яны хочуць волі. І яны яе здабудуць.

**Міхась Булавацкі**

***P.S.*** *Сумны жарт з інтэрнэткаментароў да сёлетняга еўрабачання (там беларуская спявачка Алена Ланская атрымала ад Расіі нуль): «Беларусь расійцы лічаць сваёй тэрыторыяй і таму не галасавалі за Алену. За спявачку ж ад сваёй краіны галасаваць нельга». Я не збіраюся абараняць спявачку. Магчыма, яна і заслугоўвала такой адзнакі. Я — пра жарт. У кожным жарце, кажуць, ёсць доля праўды. Тут гэтая доля досыць вялікая. Паглядзіце расійскі «Словарь иностранных слов». Там знойдзеце словы, запазычаныя з розных моваў, у тым ліку моваў народаў СССР — казахаў, украінцаў ды іншых. Але не знойдзеце слоў, запазычаных з беларускай мовы, хаця такіх слоў насамрэч шмат. Гэта ж не «иностранные» словы. Паглядзіце расійскі «Мифологический словарь». Там знойдзеце артыкулы пра багоў ды іншых міфалагічных істотаў розных народаў, нават удмуртаў, эскімосаў і чамораў, але не знойдзеце багоў беларускай міфалогіі. Беларусі як асобнай краіны для расійцаў дагэтуль не існуе?..*

ВЕРШЫ

# СТАРАДАЎНІЯ ПРЫСЯГІ

ЮДЗІТА ВАЙЧУНАЙТЭ
(1937–2001)

## Архіў, 1863

*1. Зельня*
*Зноў старадаўняя зельня зімою. Бераг мора. Завея.*
*Запарушаны дзесьці ў дарозе рыдваны.*
*Гайдаецца ціха забытае крэсла.*
*Ламаюцца вялізныя і вечназялёныя стогадовыя сосны — мяне зноў калоціць.*
*Можа,*
*гэтае сухое сонца лекавых зёлак і рыбны смурод*
*з-пад аброслай пухоўкай страхі*
*(у рыбакоў на падушках*
*спіць паранены бунтаўнік) праб'ецца вонкі…*
*Не ўратавала б*
*нават смерць ад цябе —*
*ад першабытных пранізлівых чараў…*
*Ізноў галашу я ад дзіўнай, забойчай уцехі,*
*прыпаўшы*
*да святой скрываўленай кашулі….*
*І цвёрдая, нібы скалы,*
*заледзянелая на зломе хваля. Бераг мора. Завея.*

*2. Тэлеграма*
*НЕ РАССТРЭЛЬВАЙЦЕ МАЙГО КАХАНАГА*
*Снежны дзень. Замглёны дзедаўскі тэлеграф*
*зноў прачыняе цяжкія дзверы.*
*Я хаваю свой твар*
*у пахкую маміну муфту.*
*Я не хачу чуць, як на вуліцы смяюцца жандары…*
*Я сцярплю здзекі і гвалт,*
*але толькі не ноч,*
*калі мроіцца ў цёмным пакоі*
*яшчэ пустая труна без века.*

*Я ПРАШУ: НЕ РАССТРЭЛЬВАЙЦЕ КАХАНАГА*
*Ён прыходзіць у сне*
*(вартавыя хаваюцца ў нішах)*
*яшчэ хлапечыя голыя грудзі —*
*гэтую жывую мішэнь са стрэльбішчаў —*
*падставіўшы натоўпу…*
*………………………..*
*У тумане —*
*пад жалобным вэлюмам удавы —*
*нявесты заплаканыя вочы дзіцячыя.*
*Спісаную прыгожым почыркам паперу*
*падшывае пісьмавод*
*(ліст экзекуцыі).*

*3. Ключніца*
*Я — дачка збяднелае шляхты.*
*Бразгаю ключамі дваранiна.*
*(Усю ноч гігаталі коні —*



*бунтоўна, змрочна, шалёна.)*
*Усю ноч я гатавала вячэру*
*(яны бясконца ішлі і ішлі.)*
*Нібы вільготнае сонца*
*ўзняло непрыгожы змучаны твар.*
*І ўсміхалася светлабровым братам з лесу*
*(за камерай шамаціць*
*на золку, імкнучыся ўгору, жыта…)*
*Іду этапам у Самару.*

**1969**

## Паўстанец

***Пасля 1863 года ў Парыжы Адамас Бітэ вёў цяжкое эміграцкае жыццё: драбніў камяні, запальваў вулічныя ліхтары.***

*Глядзець праз вецце ў зеленаватае неба*
*на імшысты колер вулічных пліт*
*(калі ўсю ноч сніцца Кракяйскі лес,*
*пад дажджом і ў прыцемку,*
*калі паўстанцы дзесьці на невялікім*
*пляцы паміраюць*
*перад вялізным натоўпам),*
*каб ад ветра захінуцца*
*ў заношаны дзевятнаццацівечны*
*палітон.*
*І на вуліцах чужога гаманкога места*
*запаліць ліхтар за ліхтаром,*
*глядзець, як у адбітках барыкад*
*і сузор'яў цьмяна гарыць газ…*
*Цярпець праз малую на глобусе краіну,*
*занурыцца тварам у далёкі яе дым,*
*дзе мае прадзеды сякерай і паданнямі*
*выконваюць старадаўнія прысягі…*

**1965**

АЛЬБІНАС ЖУКАЎСКАС

## Вісельня — сабе

*Пыл па Лукішках ганяюць вятры.*
*Дрэмле за мурам Якуб і сапе…*
*Вільні найлепшыя цесляры*
*Вісельню ставяць не іншым — сабе.*

*Лупяць сякеры ліхія…*
*Хутка з жыццём развітацца*
*З зашмаргаю на шыі*
*Вызначыў лёс паўстанцу.*

*Добра Якубу — муры*
*Глушаць пакут адгалоскі:*
*Церпіць не ён, не цары,*
*А за яго — Каліноўскі.*

ЁНАС СТРАЛКУНАС

*Паранены паўстанец, 1864 г.*
*Вадохрышча, Новы Год прыйшоў…*
*Клубніцы, трускалкі з начное столі…*
*Кастрыца сыплецца на стол,*
*Вада пасохлыя вусны моліць.*

*Шэпт лесу, косаў звонкі спеў…*
*Марш войска… Крывавыя відзежы.*
*Што сёння піў ты? Што сёння еў?*
*Хаваеш што ў прабітай адзежы?*

*Вісельня ў Вільні… Ў вёсках пажар…*
*Слупом шугае агонь у айчыне,*
*Сажа спадае, спадае на твар,*
*Сыходзіць ноч, ды ранак не стыне…*

**29.VIII.1969**

**Пераклаў з летувіскай Лявон Баршчэўскі.**

# РАЗМОВА НА ДОСВІТКУ

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ**

**Рыхтуючыся да ўдзелу ў паэтычным свяце «Бабіна лета ў Белаазёрску з Нінай Мацяш», прымеркаваным сёлета да 70-годдзя паэтэсы, знайшоў раптам амаль паўзабыты, прысвечаны ёй верш, пад назовам «Размова на досвітку». З нейкай прычыны не зусім, здаецца, завершаны. І вось цяпер, пад уражаннем ад свята, рашыў апублікаваць яго з нязначнымі праўкамі.**

*Тры дні таму, за горадам, на дачы,*
*дакладней — на сваёй мансардзе дачнай,*
*у прадсвітальнай летняй цішыні*
*я абудзіўся з думкай пра цябе*
*(ці ні прыснілася мне перад гэтым?).*
*Звярнуўся ў думках да цябе з пытаннем:*
*«Ці ведаеш, ці ўяўляеш ты,*
*як многа для мяне ты значыш?*
*Як важны для мяне твой лёс?»*
*Прамовіў «для мяне» і спахапіўся,*
*і стаў вініцца ў той жа міг*
*за тое, што вось так эгаістычна*
*пачаў на досвітку з табой размову.*
*Крыху ўдакладніў сваё пытанне:*
*«Ці ведаеш, ці ўяўляеш ты,*
*як многа значыш ты для нас,*
*для сваіх блізкіх, па крыві і духу?*
*Для ўсёй свае шматлікае сябрыны?*
*Для ўсяе роднае краіны?*
*Ты — са сваёй усмешкай і слязой,*
*Ты — са сваёю доляй і нядоляй,*
*Ты — з сэрцам, сэрцайкам сваім,*
*такім вялікім і такім дрыготкім,*
*такім трывалым і такім пяшчотным,*
*ты — са сваімі праўдай і сумленнем,*
*ну і, вядома ж, са сваім «Агменем»…*
*Ці ведаеш, ці ўсведамляеш ты?»*
*І ў перадранішнім святле*
*мне уявілася твая усмешка —*
*усмешка незвычайная твая,*
*і мудрая, і крышку іранічная.*
*І ў перадсвітальнай цішыні*
*пачуўся ў адказ твой голас:*
*«Чаму пра гэта я павінна ведаць?*
*Чаму павінна гэта ўяўляць?*
*Усведамляць павінна гэта?*
*Мне што, няма чаго рабіць?*
*Займацца чым? Пра іншае што думаць?*
*Які мой лёс, якая сама ёсць —*
*такую і прымайце, ягамосць.*
*Вам лепей знаць, што значу я для вас.*
*А мне відней, што для мяне вы значыце,*
*вы — блізкія па духу і крыві,*
*мая сябрына і мая краіна.*
*Ямчэй прымошчваю я на плячах свой крыж*
*і вам усім кажу я: «Будзем!*
*Ды рушайма далей сваёй дарогай!»…*

ПАМЯТНАЕ

# АДЗІН З УСІХ

Аляксей ФІЛАТАЎ

## З хаосу да прасветленасці

Уладзімір Андрэевіч Калеснік… 17 верасня — ягоны дзень народзінаў. Яму было б 91…

Як толькі азорыць свядомасць гэтае імя, адкідаеш прэч пацяруху паўсядзёнасці, застываеш у захапленні і павазе да асілка беларускае думкі, якая ахапіла невымерную прастору часу ў літаратуразнаўстве і гуманітарнай навуцы ўвогуле.

Сорак гадоў я хадзіў з ім па адной зямлі, дыхаў адным паветрам, цешыў вока веліччу Лукаўскага возера на Маларытчыне і дубоў на кладах ягонае выспы, не мог надыхацца грыбным водарам Збунінскага лесу; не наслухаўся ягоным палымяным словам на лекцыях і паседжаннях літаратурнага абласнога аб'яднання — і Настаўнік нязменна выводзіў мяне «з хаосу асабістых пачуццяў да той прасветленасці духу, якая была сапраўдным натхненнем, напружаннем стваральных сіл душы».

Я верыў у Яго і веру па сёння, як далёкі мой продак верыў у Бога ўрадлівасці і кахання — прыгожага юнака Ярылу ў ільняных белых строях на белым кані. Я маю на гэта крышачку права, бо так і нераспазнаную, травіяльна гаворачы, літаратурнай грамадскасцю канцэпцыю ДАБРА на самым пачатку майго слугавання роднам слову і зямлі заўважыў менавіта Ён.

Што б ні было, што б ні думалі людцы добрыя, ні гаварылі, але, напэўна, і я быў патрэбны Яму. Можа, дзеля нават таго, каб адарвацца ад паўсядзённай, самазнішчальнай працы сваёй, адпачыць ад яе побач з наіўна-прымітыўнаю, але шчыраю, як Ён сам сказаў у водгуку на маю кніжку прозы «Дарога», «эксцэнтрычнаю» маёю натураю. Надае рашучасці выказаць некалькі радкоў падзякі «Плытагону» нашае берасцейскае паэтычнае флатыліі аўтограф Уладзіміра Андрэевіча на кніжцы «Тварэнне легенды»: «Лявоне, няхай не гасне агеньчык палескага гумару. 31.X.1990, Брэст».

Спачатку было завочнае знаёмства цераз прыёмнага дзядзьку майго настаўніка, Калеснікавага студэнта-завочніка, франтавіка Леаніда Мяфодзіевіча Крышпіновіча, які дужа шанаваў прафесара, а той адказваў яму ўзаемнасцю.

Потым закадычны мой дружбак, казацкага пошыбу дзяцюк — паляшук Мікола Крываблоцкі цягне мяне з чыгуначнага тэхнікума ад рэек, шпалаў, накладак, падкладак, кастылёў і шурупаў, астракоў і крыжавінаў у свой педагагічны інстытут на публічную лекцыю, якую будзе чытаць «свяціла, сам Калеснік» пра мастацтва ранняга Рэнесанса.

За кафедрай высокі, хударлявы мужчына працуе. Працуе натхнёна, азартна: свяжуткая кашуля расшпілена на два верхнія гузікі, вузел гальштука паслаблены, пад колер гальштука, цёмна-карычневы пінжак вісіць на спінцы крэсла, у адной руцэ ўказка, у другой — белая насоўка, якою раз-пораз аціраюцца кроплі поту з ілба.



Уладзімір Калеснік і Уладзімір Караткевіч (у лодцы ззаду)

Абсалютна нічога не цямячы ўвогуле ў мастацтве і асабліва эпохі Рэнесанса, я — «глух і нем», адно бачу Калеснікаў лоб, залысінкі над ім у павуцінні таненькіх сінявых пражылак. Словы вылунваюць з вуснаў, а лоб моршчыцца, пражылкі збіраюцца ў ладнаваты вузельчык: новая думка ўсплыла, падштурхоўвае папярэднюю, але ёй яшчэ рана волю даваць, змаганне ідзе. Нарэшце вузел выпростваецца, разыходзіцца. Чалавек усміхаецца і вядзе далей свой высока-інтэлектуальны рэй…

Першыя мае опусы паказаў Уладзіміру Андрэевічу дзядзька Лявон. То былі кароценькае апавяданне «Жаваранак» і старонак пад паўсотню дакументальная аповесць пра трагічны пачатак вайны. На вялікія нашы радасць і здзіўленне Калеснік не выкінуў іх, нават не паленаваўся занесці на абласное радыё і ў «Зарю».

## Маларыцкі Эміль Заля

Акрылёны такім поспехам, дзевятнаццацігадовы пуцейны брыгадзір набраўся нахабства прачытаць некалькі абразкоў на паседжанні абласнога літаратурнага аб'яднання, якое акрылёна вёў «сам Калеснік». Тут і ўчыніў ён мне і Ватэрлоо, і Сталінград. У адным з абразкоў з гневам распавядалася пра бамбізу-драпежніка, мурлатага пуцейца-фабзайца, які заспеў на гарышчы брыгаднае кладоўкі сямейку кажаноў. Палапаў іх, сляпых пры дзённым святле, і спаліў навідавоку рабочых паяльнаю лямпаю.

Узрушанасці, абурэнню старшыні «Берасцейскага вогнішча» не было межаў. Чыстай вады натуралізм! Што захачу, тое і варачу, звілін, думкі ў даўбешцы не маеш! Маларыцкі Эміль Заля вышукаўся! ДЗЕ АБАГУЛЬНЕННЕ, ДЗЕ ТЫПІЗАЦЫЯ? Пазітывізм з адмаўленнем законаў рэчаіснасці, адзін крок да абстракцыянізму, калі мазня аслiным хвастом прызнаецца шэдэўрам жывапісу!.. — на ўвесь рэдактарскі кабінет і напрыканцы сабе пад нос: — Цяля божае, апавядання скляпаць не можа, замалёўкі крэмзае.

Пасля такога прачуханца надоўга прапала ў мяне ахвота да прыгожага пісьменства, і нашы стасункі насілі толькі чыста навукова-гаспадарчы (ад слова вучыцца) характар.

## Не дапамог і Мяленцьеў

— Ты б зайшоў у інстытут. Справа ёсць, — подаўгу да сесіі пазваніў ён на мой чыгуначны «лінейны»тэлефон.

Ногі ў рукі. Подбегам. Чакае ў фае першага паверха ля саменькіх дзвярэй са скруткам ватману. Разгарнуў скрутак з адмысловымі, хоць і ад ягонай левай рукі, чарцяжамі.

То дзверы ў гараж. Нарэшце пляц адвялі, два гады качарыжылі. Хоць ты і спатыкнуўся на чарчэнні ў тваім чыгуначным інстытуце, ды бачыш, кумекаеш што-небудзь?

— Бачу. Завесы фасонныя, шпінгалеты, бы ў салдацкай трохлінейцы затворы, а што гэта за кавалак жалеза з дзіркамі па канцах?

— Стрэлачны замок. Гэта ж табе не Плюшкінаў свіран-свінінец.

— А-а, замок Мяленцьева.

— То-та, пакуль другі ключ не ўставіш, першы не вымеш і дзверы не адчыніш. Не дурань быў гэты ваш, як яго?

— Мяленцьеў.

— Знойдзеш такі? У вашай майстэрні зробяць такія завесы й затворы?

— З завесамі няма праблем. Нашы Ляўшы самому маршалку Пілсудскему сейф змайстравалі, а вось замок. Усе стрэлкі цэнтралізавалі, на аўтаматыку паставілі, а замкі на металалом здалі.

— Пашахонцы, пачакаць не маглі.

— Давайце чарцяжы, шукаць будзем.

— Шукай, заплачу. Толькі каб памеры вытрымалі…

Абзваніў усе дваццаць акалоткаў, абгледзелі ўсе купы лому — замка не было. Прашу помачы ў сувязістаў, на ўласныя страх і рызыку выдзерлі «мяленцьева».

Зося Міхайлаўна не шкадавала ні пітва, ні закускі: слесары не шкадавалі рук, выштукавалі ўсё дбайненька, камар і той не ўточыць нос.

Вось і малайчына. Прыходзь на талаку. Алёша Бакуменка абяцаў салдацікаў падкінуць — ты і пакіруеш, то ж дарожны, нават маставы, майстар і ў вайсковым будатрадзе крыху падубасіў, а то звычайны гараж…

## Палякі ў костку цэглу клалі

Акурат перад талакою параніў я сабе касою руку. Добра пацягнуў. Знаёмы хірург чыгуначнай бальніцы тры швы паклаў, пазямляцку без замарозкі: хутчэй зажыве. Уладзімір Андрэевіч на такую аказію:

— Дома сядзі, надта не гаруй ды і не радуйся, тваё ад цябе не ўцячэ, калі зацягне, наведаешся. А ваякамі я і сам пакамандую…

Нарэшце зацягнула.

Малінавага колеру «масквічыкам», як ахрысціў яго Караткевіч, «божай кароўкаю» з адным толькі сядзеннем кіроўцы (уласнымі рукамі рамантуе машыну ад рухавіка да бампера) за Трышынскія могілкі дапінаемся.

— Халера на яго, пакуль з таго горада выедзеш, у той Спакойны завулак уціснешся, усе нервы папаліш…

Уціснуліся, нервы не ўсе спалілі, удвух увіхаемся, па-пуцейску сказаўшы, паточна-звеннявым метадам. Ён — старшы, я — падсобны. Маўчыць. Толькі вокам павядзе — цэменту падбаўлю, галавою хітне — вады плясну, на жвір пальцам пакажа — пару шуфлёў падкіну, у ацынкаванай балеі ўсенька на зацірку раскалачу. Леваю на масцярок раствор пакладзе, адмысловенька цаглiну паставіць, разоў з пяць і адвесам, і «васэрвагаю» — ураўнем праверыць. Растуць і «яма», і пагрябок.

Пад вечар загаварыў:

— Я — да Зосі. Папалуднаваць час. А ты падлогу тут выкладзі. Да ночы заліем. Паціху даў «кароўцы» задні ход.

На каленях поўзаю, носам нюхаю, намагаюся, каб шчылюбінкі не было. Выклаў, жвіркам прыцерушыў, кірзачамі ўтаптаў, венічкам вымеў, даланёю прыгладзіў.

Вяртаецца. Прыгнуўся ў варотах, на калені абаперся, доўга то адным, то другім вокам глядзеў на мае патугі. Нарэшце:

— А палякі, Лявоне, цэглу ў костку клалі… Хадзем, чарвяка заморым.

— Не, цэглу ў костку пастаўлю!

## Еш, Лявоне, еш

Залілі падлогу, зацерлі, заглянцавалі, зажалязнілі, мосцімся ў самаходзік. Раскрывае гаспадар гаспадыніну торбу — авохці мне: салаты, грыбочкі, нейкі булёнчык у тэрмаску, кілбаска, вяндлінка, нават бульбачка з курыным сцягном. Вочы разбегліся, слінаю захлынаюся, пакую за абедзьве шчакі.

А Ён успароў нейкім багнэтам скрынку ялавічыны і гэтым жа «мечэтэ» сілкуецца, у слоікі, міскі, талеркі і вокам не вядзе. «Ну, думаю сабе, — Ён не зазірае, дай я Яму ў скрынку зазірну. — І цап відэльцам кавалак тлусцейшага, хоць не надта ялавічыну люблю. Калеснік скрынку на калені мне бац і корд свой у «бардачок» паклаў. «А, маць тваю, еш, Лявоне, еш, табе трэба пад'есці!..»

Перад тым як перайсці ад «навукова-гаспадарчых» нашых з Настаўнікам стасункаў толькі да «навуковых», дакладваю спадарству, што замок той Мяленцьева «браткі» рассакрэцілі. Дасканала падмялі «Божае кароўкі» прытулак. І Уладзімір Андрэевіч найболей убіваўся па тым паляўнічым багнэце, набытым у час вандроўкі з Янкам Брылём ля берагоў Ледавітага акіяна…

## Давай заліковую

Уладзімір Андрэевіч не мог назваць настаўнікам чалавека, які не авалодаў дасканала фальклёрам і не навучыўся выразна выказваць свае і чужыя думкі, таму з першага да апошняга дня працы ў нашым інстытуце сам выкладаў і фальклёр, і выразнае чытанне. Пра што ў нашай «Сінявокай» ходзіць шмат прыпавесцяў і пагудак. Першую я пачуў ад таго самага «казака» — Крываблоцкага.

— З грахом напалам аджаваў я два пытанні з білета, думаю сабе, трояк будзе. А прафесар дадаткова задае.

— А скажы мне, Мікола, з кім-чым народ наш дзеўку-красу параўноўвае?

— З калінаю краснаю, з лябёдкаю белаю.

— Праўда твая, а хлопца-малайца?

— З дубам! — стрэльнуў Мікола.

— Сам ты, хлопча, дуб-дубок, шызы галубок, сокале ясны, яварок кучаравы! Вучы як след!

Кудзеркаваты, бы эфіоп, Мікола заліковую кніжку — у бакавую кішэню майго лапсердачка (на экзамены пазычыў), і след яго прастыг, бы ветрам чалавека здзьмула.

Сесія да фінішу ідзе, спадае і Крываблоцкага казацкая пыха: «хвост» вісіць, у Маларыце жонка з дачушкаю чакаюць. Стыпендыя да зарэзу патрэбна… І раптам Уладзімір Андрэевіч на калідоры: «Чаго хваста падціснуў? Дзяцей майстраваць мастак, а іх жа карміць трэба. Давай, давай заліковую!..» І паставіў «добра» ў калідоры, на падваконні.

## На прастор

Нявесту майго малодшага брата фальклёр, як яна сама ўспамінала, Богу дзякаваць, абмінуў, бо яна вучылася на факультэце пачатковых класаў, а вось выразнае чытанне…

Ціхмянае дзяўчо ў рудзенькай дзятдомаўскай сукеначцы з белым акаруначкам па каўнерыку, але шыракаватае, і не толькі ў сялянскай костцы, нешта піскнула ўвобміг асіплым галаскам, а мэтр расправіў таксама ёмістыя свае грудзі:

— Ну, што ж ты, крыжаначка, із-за вострава на стрыжань? Адразу, адразу выграбай на прастор рачной валны!..

## І сёння няёмка

У тым, што я збег з трэцяга курса чыгуначнага інстытута і паступіў у педагагічны, паспрыяў і Уладзімір Андрэевіч:

— Хопіць табе ўжо тых рэек і шпалаў, рыхтуйся да нас. Мо без памылак пісаць будзеш ды розуму крыху ўхопіш.

Першай кантрольнай была работа па фальклёры. Таго запасу, што застаўся з дзяцінства (пераважна перапоўненыя вульгарызмам прыпеўкі ды парачка паданняў), на яе не хапала. Ды выручыла мая ж, ляхавецкая, настаўніца роднай мовы, з якой звёў лёс у адной групе завочнага аддзялення. Па маёй парадзе загадала яна сваім сённяшнім вучням запісаць ад бацькоў і ба-

буляў усенькае, на што яны былі здатны. Адабрала на яе думку лепшае сабе, а мне пакінула «пацяруху». І ў той «пацярусе» былі такія залацінкі, што пакінуў тую работу выкладчык сабе.

І вось экзамен. Рыхтаваўся дбайна. Цягну білет. У білеце пытанне: «Жыццё і дзейнасць беларускага этнографа Раманава». Адно толькі памятаю, што завецца Еўдакімам, бо гэткім рэдкім сёння імем цесця майго яшчэ за Мікалаем Другім ахрысцілі. Яшчэ ўсплыло, што адна з прац Раманава са словаў Калесніка завецца «Пёсэнькі з-над Нёмана і Дзвіны».

Сяджу, пакутую, пацею. «Усё, прапаў на векі вечныя, як ты Яму ў вочы зірнеш?» І тут зноў мая настаўніца, побач праходзячы, пуц шпаргалачку пад саменькі нос…

А Ён не заўважыў. Ён пахваліў, а мне і сёння няёмка…

## Трэнас

Не бяру ў двукоссе, бо гэта не Мялецiя Сматрыцкага, не царквы нашае праваслаўнае, а мой асабісты плач. З «Трэнасам» і ўсёй старажытнай літаратурай справіўся я нармалёва, бо так уелася ў душу гэтае слова, што нават Міхась Рудкоўскі падпісаў свае «Сінія Брады»: «…Такому, разгэтакаму, які цэлы месяц не піў гарэлкі і сніў «Трэнас…» А вось з літаратурай першай паловы XIX стагоддзя дык выйшла трагедыя.

Маці, жонка хворыя, двое дзяцей, на трох работах увіхаюся, дзе ты толкам падрыхтуешся. Таўкуся на калідоры перад дзвярыма, за якімі Уладзімір Андрэевіч не ў ласкавым гуморы нярвуецца. Нават выходзіць, пытаецца ў мяне: «Запалкі ёсць?»

Знайшоў, аддаў. Ніколі-ніколі не бачыў, каб Калеснік курыў. А самому так засмаліла зацягнуцца — хоць енкам енчы. Аббег усе тры паверхі, на вуліцу выскачыў — ні ў кога нямашака запалак, яшчэ больш свярбіць.

Адчыняю высокія дзверы, пераступаю парог:

— Уладзімір Андрэевіч, вы мае запалкі…

Эх, доля мая нешчаслівая, раны Езуса!..

— Ты што, сюды курыць прыйшоў?! Абібок, каб і нагі твае не бачыў!..

На апошнім курсе, перад дзяржэкзаменамі, Аляксею Антонавічу Майсейчыку здаў тое XIX стагоддзе. «Тры, Лявоне, стаўлю — Калеснікаў курс! — сціпла ўсміхнуўся мой малады тады сябар-прафесар».

## Пытанні ёсць?

Фініш. Заўтра першы дзяржаўны экзамен. Кансультацыю вядзе прафесар Калеснік. Лета. Задуха. А ў аўдыторыі акурат кран з вадою. Падыходзіць да яго, адкручвае, вяртаецца за кафедру і ў лагодным настроі праз усмешку пытае, ці ёсць пытанні. Дзве групы, чалавек пад паўсотню: пытанняў няма. Я вас сур'ёзна пытаю: пытанні ёсць?! Пытанняў няма.

— Дык якога ражна вы сюды прыперліся? Бачыш ты, адстаялі ў чарзе па дыплом інстытуцкі, а гэта ж вышэйшая гуманітарная адукацыя. Духоўнае жабрацтва, прымітыў! У капроны, нейлоны, джынсы паўлазілі, крыжыкі, кулончыкі, краваты на шыі панавешвалі, а за душою што?! У каго вачэй пазычыўшы, у клас зойдзеце?! Апошні раз пытаю: пытанні ёсць?!



С. Казак. Партрэт У.А. Калесніка

І раптам нейкая краля, як на грэх у джынсах на груvasткім азадку:

— Уладзімір Андрэевіч, — тоненька так пытаецца, — а што такое, што такое… анані-аніна, анані…

— А-на-нізм?! Не раю. А вось анімізм — гэта…

І пайшоў, і паехаў, аж пакуль званок не зазвінеў. На развітанне з крана запіў горыч апошняй сустрэчы ахалоненай за дзевяноста хвілін вадзіцаю…

## «Жызня»

Апошні дзяржаўны экзамен на завочным аддзяленні філфака — руская мова. Топіцца старшыня сельсавета з палескай глыбінкі, ціхмяны, абзэмкаваты былы франтавік і вязень фашысцкага канцлагера. (Нямецкую лексіку ведае куды лепш за рускую). Ужо і за саломінку не хапаецца…

— Вы не волнуйтесь ради Бога, пожалуйста. Вот вам последний вопрос… — нярвуюцца і экзаменатар, і чальцы камісіі. — Слово жизнь какого склонения?

Успацеў старшыня, кропелькі з вусоў злізаў, зжаваў: напэўно, напэўно… первава…

Усе цяжка ўздыхнулі. А Уладзімір Андрэевіч усміхаецца:

— А што вы думалі. Праўду чалавек гаворыць, бо цяпер у яго ўжо не жизнь, а жызня пачынаецца…

І паставілі людзі чалавеку «тры».

## Адзін з усіх

Чытаю на «літаратурнай серадзе» ўрывак з «Лясной аповесці». На палянцы, у альтанцы пад назваю «Муха» сышліся паляўнічыя і лясное начальства. Гарэлка ракою цячэ, закускі таксама не бракуе… Берасцейскія пісарчукі смяюцца пад вус. Свецяцца жарынкі ў Рудкоўскага вачах, які толькі што прачытаў: «У друга майго лесніка ідзе баль гарою. Чацвётага сына знайшоў друг пад сасною». Уладзімір Андрэевіч доўга не вытрымаў, але лагодна:

— Ну, што ты пішаш, Лявоне? Ляснічы ў цябе назбіраўся, бы чмель, у дырэктара школы адзін вус у капусце, а другі ў смятане, заяц акасеў ушчэнт, нават месяц у небе прычасціўся. Ды і ты сам як былы чыгуначнік упіўся ўдрызіну. Адзін конь «Пятлюра» цвярозы, бо да дрэва прывязаны…

## Па-Ясенінску

Наш «Гуртавы і Вадар» (Ніна Мацяш) — Калеснік трываць не мог празмернага зазірання нашай берасцейскай «брацiяй» у чарку. Ды ніколі доўгіх натацый не чытаў, выказваўся заўсёды змястоўна. На скалечанае ў застоллі Сцяпану Крывалю вока рэзюмаваў:

— Чаго і трэба было чакаць. Дажыліся да зялёных венікаў — писателю в пьяной драке выбили глаз, хорошо…

Сустракае неяк мяне.

— Ну, дзе ты цяперака, Лявоне, штаны ацірaеш?

— У спорце, Уладзімір Андрэевіч, у спорце.

— А-а-а, яно і відно, дзе спорт — там і спірт.

Трапляюцца на вочы Яму Рудкоўскі з Купрэевым — абодва кульбакі пагублялі.

— Малайцы, што хоць шырока, па-Ясенінску, а то чуў — пад коўдраю «чарніла» смокча-це…

І гэта, як бы мы ні «супрацiўляліся», крыху ўплывала на піякаў. Тым больш, што неяк заспеўшы Рудкоўскага, Купрэева, Філатава на лаўцы ў скверы на Міцкевіча, супраць выцвярэзніка, ледзь выціснуў, здавалася, са слязою са зрэнкі ў сонечных вачах:

— Хлопцы, пашкадуйце сябе: вы ж таленавітыя. Як звяры!

## Польская готыка

Папeрад сямідзесяцігоддзем разліўся ва Уладзіміра Андрэевіча апендыцыт. Зрабілі аперацыю. Ляжыць у гарадской, на Леніна, бальніцы. Прысесці няма дзе: паўсюль купы даведнікаў, энцыклапедый, малюнкаў і рэпрадукцый. Галава — на падушцы, акуляры — на носе, у руках — пяро і папера. Працуе.

— А-а-а, здарова, хлопцы, — скрывіўся, бо кальнула, адпусціла — заўсміхаўся.

Алесь Каско вымае з дыпламата слоік узгадаванага на чудзінскіх мурагах мёду. А я прынёс толькі самога сябе. Заводзім гамонку. Мы пра здароўе, а ён пра польскую готыку, крыху цяжкавата падцягнуўшы цела пад спінку рыпучага ложка:

— Прыйшла на змену Раманскаму стылю. Пучкі тонкіх калонаў пераходзяць у стрэльчатыя аркі нервюраў. Найбольш значныя помнікі ў Італіі, Францыі, Англіі і Нямеччыне. Вылучаюцца вялікай вышынёю, а вось саборы Кракава, Гнезна, Познані, Гданьска маюць не спічастую, а плаўную, паўцыркулярную, крыху закруглёную форму…

І тут мне чамусьсці скок на язык польская дражнілачка: «Окрэнгла, як талеж, прысядла на пул, А спева, а таньчыць, як вул…»

— Ну, скажам, не спева і таньчыць, а смердзе і пердзе, як вул. — Засмяяўся, ухапіўшыся аберуч за правы бок, і папрасіў Алеся:

— Звядзі ты гэтага чортавага Капшука з вачэй маіх, а то, чаго добрага, шво разыдзецца…

## Не на сметнік

З жонкай Зосяй Міхайлаўнай спускаюцца пад руку з прыступак паліклінікі. Высокія, сімпатычныя, у добрым настроі.

— А-а-а, Лявоне, чуў, чуў, нарэшце зборнічак скляпаў. Нясі, не лякайся. Зірну. Толькі не дакучай. Пачытаю, сам патэлефаную.

Пяцьдзясят шэсць дзён чакаў. Нарэшце Зося Міхайлаўна: «Казаў, каб зазірнулі».

Пасадзіў за рабочы свой стол.

— Была б дрэнь, сам на сметнік выкінуў бы. А так стукайся ў выдавецтва: ёсць кніжка. Што ж, у Мележа мазырская мова, у цябе — маларыцкая. Гэта добра. Не дазваляй пашахонцам ніводнага ляхавецкага слоўка выкрэсліць. Але літаратуршчыны, майстэрства часам больш, чым зместу, хоць матэрыял цікавы, твой… Перанясі-тка мне гэтую дошку на балкон (не толькі піша, малюе, але і рэжа па дрэве).

Дубовая сталешніца, бы воловам налітая, ледзь падняў.

Кліча зноў да стала, налівае чарку «Напалеону». П'ю і хвалю, бы зроду не каштаваў:

— Смачна, халера на яго.

— А ты думаў, — закаркаваў пляшку і ставіць на паліцу. — Ідзі. Ідзі. Няма мне, браце, калі цырымонію разводзіць…

## Перагналі

Крочыць бадзёра, сам сабе ўсміхаецца, спыняецца, дае патрымаць мне свой жоўты партфель:

— Хоць і восень наўкола, а неяк пасвятлела на душы. Трыццаць гадоў Амерыку даганялі, нарэшце перагналі.

— Не можа быць. А ў чым?

— У даўжыні дубінак. У іхніх паліцыянтаў яны да сракі, а ў нашых — да каленяў. — Рагоча, ацірае хустачкай слязу, забірае «тэчку» сваю…

## Пах пылу фаліянтаў

Неяк побач з Настаўнікам успамінаў маё дарагое, маладое, праведнае, пуцейскае. Як доўб кайлом і ржавай лапатаю ў чыгуначным насыпе гліну «прорези» глыбінёю і даўжынёю 2,7 метра. Пад цягнікамі, не вылазіў на свет белы нават у час паўгадзіннага перапынку на абед.

А Ён чамусьці з імпэтам і слухаў мяне, і распавёў сваё. Менавіта пра чароўны, незабыўны яму пах пылу фаліянтаў у сутарэннях архіваў і музеяў, дзе адразу пасля вайны, хворы на сухоты, корпаўся, шукаў ад Кірылы Тураўскага і Скарыны да Багдановіча «чужое слова» пра Беларусь. І Бог дараваў Яму напаткаць «Песню пра зубра» Гусоўскага — «пачынальніка многіх матываў у беларускай легендзе нацыянальнага адраджэння, спеў якой гучаў не на роднай мове, а на мове рэнесанснага Рыма».

Шукаў, знаходзіў, тварыў. А ў выніку амаль у кожным радку ягоных глыбінных тварэнняў адчуваецца пазіцыя змагара за праўду шляхам праўдзівага, тонка прыхаванага выяўлення зла ў піку нахабнае, крывадушнае, ханжаскае прапаганды «дабра» хлусамі і здраднікамі нашае нацыянальнае ідэі ў нашым нечалавечым, здаецца, з усёй зямное кулі толькі беларускім жыцці.

## А як яны думалі

Пазваніла Зося Міхайлаўна: прасіў, каб пільным вокам зірнулі на садок, да зімы дрэўцы падрыхтавалі.

Прыехаў з лецішча, пераступаю парог іхняга гасціннага жытла. Гаспадыня рыхтуе торбу прысмакаў на кухні, бо без торбы з гэтае хаты не выпускаюць. А я ў спальні Яму, крышку акрыяламу, апавядаю пра выпадкова сустрэтую ягоную аднакласніцу з Навагрудскай гімназіі, палячку Буландо Барбару.

— Мувіла пані, жэ памёнта вас. Надта здольны быў да навукі, маляваў пенькне, але, холера ясна, такі шчыры беларус!

— А як яны думалі? — так шчыра, па-маладому вымавіў Уладзімір Андрэевіч, што верылася: яшчэ не адно дрэва пасаджу побач з Ім…

▸ **БЫЛОЕ**

# РОДНАЯ, НЕЗАБЫЎНАЯ…

Я чакаў гэтай кнігі. І вось яна ляжыць перада мною — «Скрозь «Маладосць»» (да 60-годдзя вядомага нашага часопіса).

З увагай і хваляваннем чытаю старонку за старонкай: грунтоўны артыкул Генрыха Далідовіча, цікавыя згадкі Адама Мальдзіса, зацемкі Уладзіміра Дамашэвіча, Віктара Яраца, Васіля Ткачова, пратаколы даўніх паседжанняў рэдкалегіі… углядаюся ў знаёмыя, родныя твары на фотаздымках: Аляксей Кулакоўскі, Пімен Панчанка, Васіль Быкаў, Міхась Стральцоў, Вера Палтаран, Мікола Аўрамчык, Уладзімір Караткевіч, Іван Мележ, Іван Чыгрынаў, Алесь Жук, Васіль Зуёнак, Анатоль Грачанікаў, Янка Сіпакоў, Жэня Янішчыц, Раіса Баравікова, Валянцін Ждановіч… Шкадую, што няма фатаграфій славутых маладосцеўцаў Янкі Брыля, Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча, Уладзіслава Нядзведскага. З недаўменнем і прыкрасцю чытаю пад фота Паўла Дубашынскага «Кастусь Кірэенка», Івана Новікава — «Алесь Асіпенка», Міхася Вышынскага — «Мікола Вяршынін»… І — не знаходжу настойліва замоўленага ў свой час майго слоўца — прызнання ў любові да мілай, роднай маёй «Маладосці». Не разумею, у чым справа — усяго ж некалькі старонак машынапісу, ніякай, як мне здаецца, «крамолы». Вось я і вырашыў прапанаваць «Літаратурнай Беларусі» маё ненадрукаванае кароценькае эсэ. Не таму, што лічу яго літаратурнай з'явай, а проста хачу яшчэ раз узгадаць дарагіх майму сэрцу людзей і даўнія незабыўныя падзеі. Так бы мовіць, у дадатак да юбілейнай кніжкі.

**Генадзь БУРАЎКІН**

**У маёй бібліятэцы я беражліва захоўваю, як дарагую рэліквію, першы нумар «Маладосці» — тонкі, фармату славутага калісьці «Огонька», падпісаны да друку 16 красавіка 1953 года. Увесь ён практычна прысвечаны «вялікаму і мудраму» Сталіну, чыя нечаканая смерць, як тады здавалася, скаланула ўвесь свет. І ў самім гэтым факце сёння мне бачыцца своеасаблівы боскі знак, які падвёў рысу пад цэлай эпохай у жыцці вялікай дзяржавы і шматмільённага народа. Якраз «Маладосць» стала ў беларускім літаратурным друку найпершай трыбунай для разняволеных «пасляСталінскіх» настрояў і «пасляСталінскага» пакалення пісьменнікаў.**

Акуратнымі стосамі на паліцах у мяне складзены і часопісы пазнейшых гадоў, розныя сваім фарматам, сваім накладам, са знаёмымі і незнаёмымі аўтарамі. Але той, першы нумар для мяне асаблівы. Я добра памятаю, як старшакласнікам, які спрабаваў нешта рыфмаваць, у прыгарадным полацкім пасёлку чакаў яго, як радасна гартаў яго старонкі і шукаў нечага незвычайнага і прыгожага. І, вядома ж, нясмела марыў, што аднойчы і маё прозвішча трапіць пад яго вокладку.

Тая школьная мара шчасліва збылася, калі я стаў студэнтам Белдзяржуніверсітэта і з хваляваннем пераступіў парог рэдакцыі на вуліцы Карла Маркса ў Мінску, каб аддаць акуратна спісаныя старонкі з агульнага сшытка ў рукі заўсёды ўсмешлівага і добразычлівага Міколы Якаўлевіча Аўрамчыка. З таго, такога ўжо даўняга, часу на многія гады «Маладосць» стала маім родным часопісам, значную частку майго жыцця і лёсу. Як, урэшце, і для ўсіх маіх літаратурных равеснікаў.

Калі ў 1972 годзе я прыйшоў у маладосцеўскі калектыў, там яшчэ працавалі паважаныя ветэраны часопіса: мілая, інтэлігентная, трапяткая Вера Сямёнаўна Палтаран, сціплы і разважлівы Сцяпан Іванавіч Кухараў, мудры, шырока дасведчаны Уладзімір Міхайлавіч Юрэвіч, памянёны ўжо Мікола Якаўлевіч Аўрамчык. Ды і Вячаслаў Адамчык, Анатоль Кудравец, Уладзімір Дамашэвіч, Валянцін Ждановіч упаўне маглі лічыцца старажыламі. Пазней у рэдакцыйных кабінетах з'явіліся Мікола Гіль, Янка Сіпакоў, Алесь Жук, Леанід Дайнека, Уладзімір Крукоўскі. Усе таленавітыя, усе працавітыя і дружалюбныя, аб'яднаныя ўзаемаразуменнем і ўзаемапавагай і безаглядна адданыя беларушчыне. З імі працаваць было лёгка і прыемна. Радасці шчодра дзяліліся на ўсіх. На ўсіх дзяліліся і беды (а і іх таксама хапала).

Памятаю, як з пакоя ў пакой узрушана бегалі то Дамашэвіч, то Аўрамчык, калі новыя рукапісы прыносілі Васіль Быкаў і Янка Брыль, Іван Мележ і Іван Чыгрынаў, Уладзімір Караткевіч і Іван Пташнікаў. Як свяціліся вочы мілага Міколы Якаўлевіча, калі ён чытаў толькі што прысланыя вершы Уладзіміра Марука і Раісы Баравіковай! Ён паўтараў зноў і зноў удалыя радкі і ўсё пытаўся: «Праўда ж, добра?» Ну што яму можна было адказаць, калі вершы сапраўды былі яркія і таленавітыя…

А як мы ўсе перажывалі, калі, пераадольваючы зацяты скептыцызм, а то і адкрытае супраціўленне не толькі пільных цэнзараў, а і дастаткова ўплывовых чыноўнікаў з высокіх кабінетаў Цэнтральнага камітэта КПБ, друкавалі выдатную, балючую, унікальную кнігу Алеся Адамовіча, Янкі Брыля і Уладзіміра Калесніка «Я з вогненнай вёскі…» Якіх толькі закідаў у яе бок не гучала з вуснаў наглядчыкаў за ідэалагічнай чысцінёй паказу айчыннай ваеннай гісторыі: і празмерны трагізм, а не гераізм, і нібыта апраўданне залішняй пакоры вяскоўцаў перад акупантамі, і бясклясавы пацыфізм… Мы горача спрачаліся, даказвалі, урэшце хітравалі (асабліва даводзілася цяжка мне, як галоўнаму рэдактару), але — перамаглі. І калі на ўсесаюзнай пісьменніцкай нарадзе ў Мінску такія высокія аўтарытэты, як Канстанцін Сіманаў, Алесь Ганчар, Чынгіз Айтматаў назвалі кнігу выдатнай з'явай ва ўсёй сусветнай літаратуры, тадышні кіраўнік рэспублікі Пётр Міронавіч Машэраў падышоў да мяне ў кулуарах і падзякаваў за тое, што мы не далі партыйным функцыянерам загубіць яе. Дарэчы, рукапіс «Я з вогненнай вёскі…» спярша быў прапанаваны (і адвергнуты) зусім не нашаму часопісу. Мы гэта ведалі (аўтары сумленна нас папярэдзілі), але ўнікальнасць і непаўторнасць яго была настолькі відавочнай, а адчуванне неабходнасці такой кнігі менавіта ў партызанскай Беларусі дапамаглі нам спрычыніцца да з'яўлення гэтага балючага, жахлівага дакумента людской пакуты, трываласці і мужнасці ў смяротнай барацьбе з фашызмам.



Фота Budzma.org

Заўсёды бачу шматлюдныя і шумныя службовыя нашы кабінеты. Рэдакцыя была тады своеасаблівым дыскусійным клубам, сяброўскім асяродкам для творцаў розных узростаў і поглядаў




З радасцю ўспамінаю я і ініцыяваны намі конкурс на лепшы нарыс і публіцыстычны матэрыял, які праводзілі сумесна з літоўскімі, латышскімі і эстонскімі калегамі, і сяброўства з часопісамі «Дняпро» з Кіева і «Аўрора» з Ленінграда. Так званыя абменныя нумары, нефармальныя сустрэчы супрацоўнікаў, сумесныя творчыя паездкі не толькі дабаўлялі нам цікавых знаёмстваў, але і прыкметна ўзбагачалі змест часопіса. На жаль, многім конкурсным публікацыям відавочна не хапала вастрыні, праблемнасці, але што зробіш — такі быў час. Ды, скажам шчыра, і сёння ў гэтых слабасцях можна папракнуць маладосцеўскую публіцыстыку…

Колькі не прыгадваю свае даўнія «маладосцеўскія» гады, заўсёды бачу шматлюдныя і шумныя службовыя нашы кабінеты. Рэдакцыя была тады своеасаблівым дыскусійным клубам, сяброўскім асяродкам для творцаў розных узростаў і поглядаў. У нас гадзінамі мог сядзець і дзяліцца няпростымі думкамі і развагамі Іван Паўлавіч Мележ. Асляпляў і ўзрушваў фантанам самых нечаканых прапаноў і меркаванняў неўгамонны Алесь Адамовіч. Зачароўваў сваімі фантазіямі добразычлівы і гаваркі Уладзімір Караткевіч. Так і сыпаў дасціпамі і бліскучымі экспромтамі Рыгор Барадулін. І збіралі вакол сябе цэлыя купкі ўважлівых слухачоў мажны, мудры і іранічны Іван Антонавіч Брыль і яснавокі, сціплы, трохі зажураны Пімен Емяльянавіч Панчанка… А калі да мяне аднойчы забег мой сябра, першы беларускі касманаўт Пятро Клімук, дык дзверы ў пакой немагчыма было зачыніць — хоць здалёк зірнуць на жывую легенду, сапраўднага героя хацелі і супрацоўнікі суседскіх «Бярозкі» і «Вясёлкі», і камсамольскія функцыянеры. Яшчэ не спешчаны славай мілы Пётр Ільіч расказаў нам тады («па сакрэце»), якая гэта цяжкая і нават рызыкоўная праца — разведка космасу, і якая маленькая наша родная Зямля, калі глядзець на яе з-пад зор…

Маладосцеўскія ж «вячоркі», якія здараліся зусім нярэдка і дзе, зразумела, не абыходзілася без чаркі, былі па-добраму разняволеныя і хатнія. Хапала на іх і жартаў, і сяброўскіх «падколак», і нечаканых споведзяў. І заўсёды прысутнічаў упарты карпатлівы клопат, каб часопіс наш быў цікавы, каб у яго было шмат чытачоў (а тыраж тады перасягаў 20 тысяч экзэмпляраў), каб публікацыі заўважалі самыя строгія крытыкі, а найлепшыя нашы аўтары заставаліся вернымі нам.

Вядома, жыццё ішло, многае з часам мянялася. «Бранзавелі» першыя славутыя маладосцеўцы Іван Навуменка і Васіль Быкаў, Іван Пташнікаў і Іван Чыгрынаў, Ніл Гілевіч і Янка Сіпакоў, Рыгор Барадулін і Міхась Стральцоў… Але заставалася нязменнай іх любоў і ўдзячнасць «свайму» часопісу, іх святое адчуванне прыналежнасці да высокіх традыцый роднай літаратуры, іх сумленная вера ў сілу праўдзівага мастацкага слова. Прыходзілі новыя аўтары на старонкі «Маладосці». Прыходзілі новыя людзі ў яе калектыў. Рэдакцыя мяняла «месца жыхарства». Вокладкі прыхарошвалі сваё аблічча. Новы час дыктаваў свае, не заўсёды зразумелыя мне, законы і густы.

Большасці тых, з кім разам я здаў у друк болей сямі дзясяткаў нумароў «Маладосці», ужо няма на свеце. Але ёсць і — спадзяюся — заўсёды будзе любімая «Маладосць». Родная, незабыўная…

**Галоўны рэдактар «Маладосці» ў 1972–1978 гадах**

ВЕРШЫ

# БЕЛЫ МАРМУР

ЦЫПРЫЯН КАМІЛЬ НОРВІД

***

*I*
*Ці той птах брудзіць дом свой,*
*што так робіць,*
*Ці той, што і гаворкі не заводзіць?*

*II*
*Ці той жыў за мяне, хто не прызнаў віну,*
*Ці той, хто ведае, што маю й не адну?*

*III*
*Дзе розніца паміж абвінавачваннем,*
*Адменай, клятвай альбо перайначваннем? —*
*І як суддзя іх суадносіць разам,*
*Сумленна, прафесійна, у экстазе?*
*І ці сумленне існуе за так,*
*Безаргянічнае, бо межаў брак,*
*Ці, можа, нават цягне, як магніт?...*
*А чысціня — як? — плача зноў наўзрыд?...*
*А мне тады куды — пятля і суіцыд?...*
*Над столікам завіс адказ, як сталактыт!!*

## Памяці спадара Яна Гаеўскага, польскага палітычнага эмігранта, забітага выбухам паравой машыны ў Манчэстары ў ліпені 1858 года

*1*
*Доўга глядзелі людзі простай веры*
*На дзіўнае дзіва асветы заходняй*
*І думаць смелі: ці ж не для паходні*
*Боскі агонь скралі ў гэткім памеры?*

*2*
*Думаць, шаптаць, што Люцыфер стары*
*Святасць падхопіць і нашу ўзаемнасць,*
*Ні гераізм, ні кахання бязмернасць*
*Ужыўшы — але: рухавік паравы…*

*3*
*Толькі Т А М У, які ўсё і паўсюды,*
*Зазвычай здаецца паважным усім,*
*Бога параняць і новы крыж будзе,*
*А гэты адзін, бо быў з тварам людскім.*

*4*
*Вось так, Эпапею машына змяла,*
*Кратар згарнуў сэрцы й рэшткі мазгоў,*
*Не слаўным героем з чужых берагоў*
*Гаеўскі Ян згінуў, але ад катла!...*

*5*
*Не!... смерць Яго не міне нас употай —*
*Цел розных цела з адным лягло тварам;*
*Падзёншчык і шляхціч побач, на пару,*
*З Сынам-ахвяры — Сынове прыгнёту…*

*6*
*Братэрства штандар зробіць справу*
*святую,*
*Са смерці жыццё набярэцца карысці,*
*Нібы той выгнаннік, ЯН-ЕВАНГЕЛІСТА,*
*Што з кіпню ў катле расспяваў: «АЛЛУЯ!...»*

## Грамадзяніну Джону Браўну

*Праз Акіяна паверхні прасціну*
*Песню Табе шлю, як чайку, о! Яне…*

*Будзе плыць доўга яна да айчыны*
*Вольных. — Заспее? Але ў якім стане?...*
*— Ці ж, як прамень сівізны тваёй слыннай*
*Белым на плаху зляціць па паўстанні:*
*Сын Твайго Ката каб ручкай дзяцінай*
*Кідаў каменне па чайцы гасціннай!*

*
*Так што, калі з Тваёй белаю шыяй*
*Прагнуць вяроўкі хутчэй разабрацца;*

*Так што, калі не захочаш вітацца*
*З гэткай планетай, спадлелай, вашывай,*
*Пхнеш яе — гадам спалоханым знікне,*



Цыпрыян Каміль Норвід (1821–1883) — адна з найбольш яскравых і значных постацяў польскай і еўрапейскай культуры. Большую частку свайго нялёгкага жыцця гэты выдатны паэт, празаік, драматург, мастак і філосаф правёў у эміграцыі, да якой яго прымусілі палітычныя абставіны акупаванай і падзеленай на часткі радзімы.

Сёлета спаўняецца 130 гадоў са дня смерці творцы, вершы якога і цяпер застаюцца надзвычай актуальнымі. Магчыма, таму, што закранаюць адвечныя тэмы любові да сваёй Айчыны, чалавечага сумлення і змагання за свабоду.

*І калі скажуць: «Вісіць ён, паніклы…» —*
*Скажуць і ўраз азірнуцца, ці ж маняць? —*

*Так што, перш чым закрываць твар*
*Твой станць,*
*Каб, апазнаўшы Амерыка сына,*
*Не закрычала на зорак дванаццаць:*
*«Згасце агні мае, мушу прызнацца:*
*Ноч ідзе — чорная з тварам мужчыны!»*

*
*Так што Касцюшкі цень і Вашынгтона*
*Перш чым узнікнуць, прымі песню, Яне…*

*Х а й п е с н я с п е е*
*й в я д з е н а с д а с к о н у,*
*А к а л і з г і н е,*
*н а р о д п е р ш п а ў с т а н е.*

## Над возерам

*Мая залатая, мабыць, кахаеш… калі…*
*Любіш і зорку, з якой нам святло на зямлі,*
*Зямлі, што параніць не раз будзе трэба*
*Для светаў іншых — скажы —*
*нахіліш мне неба*
*Да грудзяў, далі каб за мір нам анёлы*
*Пакой, дзе жыць будзем з настроем*
*вясёлым*
*Лагодна на цернях, квітнеючых белым,*
*Быццам усё ўваскрэсла ўжо боскім целам…*

*Толькі ж — калі — ты ўявi —*
*калі барацьбіту*
*З закрытым забралам, між стрэлаў*
*промняў*
*Біцца адному… кажы… што, пакуль*
*не забіты,*
*Непераможны… праўду пішы, як на помнік,*
*Бо вечная!*
*Не ведаю, нават, што ўспомню,*
*Не ведаю — ды бачу неба вокам [смелым]*
*І чыстым — бо… кахаю цябе сэрцам*
*цэлым…*

## Лярва

*1*
*На бруку лонданскім коўзкім,*
*У імгле месяца белай*
*Мінаюць яе павозкі,*
*А ты згадаеш, самлелы.*

*2*
*У цернях чало? ці ў брудзе? —*
*Як распазнаць гэта можна?*
*З Нябёсамі шэпты аб цудзе*
*Льюцца… ці? пена бязбожная!...*

*3*
*Скажаш, што гэта Святая*
*Кніга звіваецца ў слоце,*
*Што па яе не сягае*
*Дух, бо не мысліць аб цноце!...*

*4*
*Р о с п а ч і г р о ш — вось два словы —*
*Ў бельмах пачвары бязногай.*
*Адкуль узялася?... — са схову.*
*Куды йдзе?... туды, дзе нічога!*

*5*
*Надта падобны ёй статак*
*З кпін і грымасаў крывых;*
*— Гісторыя?... толькі: «крыві!...»*
*Сучаснасць?... адно: «дастатак!...»*

## Белы мармур

*Грэцыя цудаў!... з мармуру рукі над морам*
*Бачу… й пытаю: што адбылося*
*з Г а м э р а м,*
*Тым, што вучыў цябе, з зоркамі пела*
*каб хорам?*
*Дзе прах яго? альбо дом? — дай адказ*
*у памеры*
*Хваляў эгейскіх, што б'юць гекзаметрам*
*аб скалы —*
*Рытмам хлапкоў іх скажы — занатуй:*
*пенай стала!*

*
*Грэцыя ўдзячная! — што, падкажы,*
*з Ф і д ы я с а м,*
*Тым, што вучыў каб трымаліся*
*з годнасцю ўласнай*
*Дзеці твае і хадзілі, бы з Зеўсам сам-насам,*
*Згніў у турме? М і л ь ц ы я д у баі лёг,*
*няшчасны?*
*А Ф е м і с т о к л, Т у ц ы д ы д і Ц ы м о н…*
*асудзілі?*
*Грэцыя! — што з А р ы с т ы д а м,*
*аддыным малітвам,*
*З тым, што вучыў выбачаць, хоць быў*
*збіты нагамі?*
*А Ф а ц ы ё н — той стары, што браў*
*бітву за бітвай —*
*Труціш яго ты аднак… а С а к р а т??...*
*…Ох жа! Пані*
*Блакітнавокая, з профілем роўным*
*Мінервы…*
*– Рэшткі твае таму свецяць такой*
*прыгажосцю:*
*Бачу іх з радасцю!... а пакідаю з тугою,*
*Разам з фіялкамі, што параслі там,*
*дзе косці*
*І зямлю тую штогод акрапляюць расою.*

## Мая Айчына

*Хто скажа мне, што нібыта айчына:*
*Вёскі, калоссе і студні,*
*Хаты і кветкі, і ў полі скаціна —*
*Скажу: «Гэта — ступні».*

*Дзіця з маці рук ніхто не адніме;*
*Падлетак каленаў сягае;*
*Вырасце сын — на руках яе ўздыме:*
*Справа святая.*

*Роднай айчыны не ступні крыніца;*
*Целам я з па-за Еўфрату,*
*А духу майму Хаос сніцца:*
*вось свету плата.*

*Ніхто мяне ні ўратаваў, ні стварыў;*
*Спазнаў і сябе, і вечнасць;*
*Ключ Давідовы мне вусны адкрыў*
*За чалавечнасць.*

*Айчыны крывавыя ступні абцерці*
*Ўласным валоссем кладуся.*
*Твар яе вечна трымаю я ў сэрцы,*
*Ім ганаруся.*

*Продкі таксама не ведалі іншай;*
*Да яе ног датыкаўся,*
*І тым нагам пацалунак быў чыншам —*
*Так я вітаўся.*

*Хай жа не вучаць мяне, дзе айчына,*
*Бо вёскі, калоссе і студні,*
*І кроў, і цела для вернага сына*
*То — след, ці — ступні.*

**Пераклаў з польскай Павел Надольскі**



Фота А.Л.

ЗГАДКІ

# «ЗАЧЕМ УБИЛИ ПТИЧКУ?»

*Сяргей* ЗАКОННІКАЎ

**Не так, як хочацца, бо жыццё безапеляцыйна ўносіць карэктывы, але ўсё ж пасоўваецца праца над маімі рукапісамі «Рабскі дзень, вольная ноч» і «Згадкі Вогненнага Пса». Для мяне вяртанне ў мінулае, асэнсаванне яго дзеля нашай будучыні стала не менш важным, чым штотыднёвы абавязак калумніста газеты «СНплюс»( дзявяты год) або, самы любімы занятак, — пошук у душы вершаў.**



Фота Svaboda.org

Улетку 1968 года мне, як і іншым навучэнцам ваеннай кафедры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, давялося праходзіць вайсковыя зборы, прымаць прысягу, здаваць іспыты на званне малодшага лейтэнанта. Атабарыліся зборы на танкавым палігоне каля вёскі Дубаўка пад Бабруйскам.

Лад таго быцця высвечваецца ў маіх лістах бацькам: «Мы ў лагеры. Размясцілі ўсюды: і ў палатках, і ў казармах. Наша першая рота жыве ў казарме. У ёй філолагі, журналісты, юрысты і гісторыкі. Газет, часопісаў, кніг няма. Радыё таксама. Жывем так — каб толькі дзень хутчэй прайшоў. Кормяць кепскавата, але з голаду не памрэм. Цэлы дзень заняткі, і нават ноччу. Вось і сённа будуць начныя вучэнні. На занятках пот цячэ ручаямі».

Студэнтаў гуманітарных факультэтаў БДУ рыхтавалі да пасады камандзіраў мотастралковых узводаў. А таму з першых дзён далі немалую нагрузку. Мы да сёмага поту капалі акопы, траншэі, ладзілі абарончыя рубяжы. Вучыліся і наступаць, што было нашмат прыемней. Авалодвалі навыкамі ваджэння бронетранспарцёра, здавалі залікі па стральбе з пісталета, аўтамата, кулямёта, гранатамёта, па паражэнні мішэняў баявымі гранатамі.

Паўдзельнічалі мы і ў сапраўдных трохдзённых вучэннях, на якіх спачатку акопваліся і наступалі на другарадным напрамку, а затым студэнтам рашылі паказаць, як танкі фарсіруюць Бярэзіну пад вадой. На пераправе нас, як звычайных гледачоў, размясцілі ў бяспечным месцы, каля палаткі медыкаў. Адным вокам мы сачылі, як на бераг выпаўзаюць магутныя дыназаўры, з брані якіх сцякае струменямі ўскаламучаная вада, а другім касіліся на больш прывабныя аб'екты. Тры разамлелыя пад сонцам весялушкі-рагатушкі ў вайсковай форме не толькі гаманілі пра нешта сваё, жаночае, але і пільна назіралі за падзеямі, гатовыя прыйсці на дапамогу. Пасмы іхніх валасоў, якія свавольна выбіліся з-пад пілотак, перабіраў лёгкі ветрык, а з расшпіленых грубаватых, каляных гімнасцёрак выглядвалі далікатныя, мілыя шыйкі і рваліся на свабоду тугія грудзі. Старэйшая заўважыла непрыхаваную цікаўнасць і какетліва прыкрыкнула: «Мальчики, не засматривайтесь на взрослых тётенек. У вас все ещё впереди». А гэтай красуні-капітану тады, відаць, стукнула ад сілы 28-30 гадкоў.

Тое лета было сапраўды гарачым, і не толькі надвор'ем. У наступным лісце ёсць такія радкі: «У нас адбылося шмат змен. Па якой прычыне — вы ведаеце. Забралі ўсе транзістары, фотаапараты. Бурліць Чэхаславакія. Да яе межаў, відаць, будуць падвезены войскі з двух бакоў. І ўсё ж, як мне здаецца, нікому ваяваць не хочацца».

Не скажу, што студэнты ведалі нешта больш-менш дакладнае пра падзеі ў Чэхаславакіі. На палітзаняткках казалі, што контррэвалюцыйныя сілы хочуць рэстаўраваць у краіне капіталізм, вырваць яе з сацыялістычнай садружнасці, што блок NATO гатовы акупаваць Чэхаславакію. А з другога боку, у нас мелася некалькі транзістараў, якія можна было настроіць на хвалі «Голаса Амерыкі», Бі-Бі-Сі. Хоць перадачы замежных радыёстанцый пастаянна і жорстка глушыліся, але нейкія абрыўкі ўдавалася паслухаць. З іх вынікала, што грамадзяне Чэхаславакіі хочуць свабоднага жыцця, перамен у палітыцы, эканоміцы, ва ўсім грамадскім і сацыяльным ладзе краіны. Каментатары праводзілі паралелі з рэвалюцыйнай Венгрыяй 1956 года. Потым, калі транзістары прымусілі здаць, мы жылі пад прэсам самых блытаных чутак. Добра помніцца пачуццё няпэўнасці, вялікай трывогі…

…Раптам уначы — трывога. Сонныя і няўцямныя, мы строімся ў тры шарэнгі ў казарме. Ад аднаго да другога пабегла вестка: «Савецкія танкі перайшлі мяжу Чэхаславакіі». Але камандаванне збораў не патлумачыла сітуацыю. Быў толькі аддадзены загад спакаваць лепшыя аўтаматы Калашнікава, якімі мы карысталіся, а яшчэ ўскрыць прывезеныя са склада скрыні і ачысціць ад змазкі новую зброю.

Раніцай паехалі на грузавіках у Бабруйск, здалі скрыні з аўтаматамі. А затым пайшлі на запасныя пуці, дзе віравала асноўная пагрузка. Танкавую дывізію, да якой прыкамандзіравалі зборы, таксама перакідвалі ўбок Чэхаславакіі. Магутныя, баявыя машыны ўзбіраліся па лагах на платформы. Тут і ўбачылі нас галоўны начальнік — хударлявы, цыбаты генерал, да якога ўвесь час падбягалі афіцэры, дакладвалі пра пасоўванне пагрузкі. «А это что ещё за войско?» — строга спытаў ён, са здзіўленнем разглядаючы «дапатопную» форму і зялёныя пагоны з чырвоным кантам узору 1944 года. Афіцэры разгубіліся, а пасля пачалі тлумачыць яму, што гэта — студэнты са збораў. Генерал, задураны мітуснёй, бясконцымі клопатамі, імгненна пачырванеў і выдаў: «Вы что, может, и их грузить в эшелоны будете? Чтобы через минуту этих рас…дяев (нецэнзурнае слова смачна і раскаціста прагучала ў вуснах начальніка) я здесь больше не видел!»

Калі вярнуліся ў лагер, то пачулі, што ў казарме працуюць дынамікі. Па радыё штохвілінна манатонна сцвярджалася, што СССР аказвае ўзброеную дапамогу братняму народу Чэхаславакіі па яго просьбе. А затым ішлі рэпартажы, як цяпер мы ведаем, поўнасцю хлусліва. Яны расказвалі пра вялікую ўдзячнасць і радасць чэхаў, славакаў, якіх старэйшы брат ратуе ад контррэвалюцыі…

З новай раніцай студэнцкае войска зразумела, што яно кінута на волю лёсу. Дывізія была невядома дзе, а мы засталіся без харчовай апекі. Пакуль ішлі перамовы — каму, якой часці нас перадаць? — некалькі дзён жылі на «падножным корме». Выручалі хлапчукі, якія пастаянна круціліся каля лагера і цяпер па нашай камандзе цягалі з гародаў гуркі, памідоры, з садоў — яблыкі, грушы. Але маладыя арганізмы не задавальняліся раслінннай ежай, патрабавалі большага. Давялося перасіліць сорам і патурбаваць мясцовых прыгажунь, якія ўвечары прыходзілі з навакольных вёсак да лагера на танцы. На пыльным «пятачку» завязваліся не толькі рамантычныя, але і прагматычныя знаёмствы. Спагадлівыя дзяўчаты, хаваючыся ад бацькоў, прыносілі сала, нават пальцам напіханую, смачную хатнюю каўбасу. Але ж галадаючых было шмат, на ўсіх харчу не хапала.

У адзін такі адвячорак я размаўляў па тэлефоне з Аляксеем Пысіным, выдатным паэтам-франтавіком, які працаваў у газеце «Магілёўская праўда». Ён пацікавіўся жыццём-быццём на зборах. Нашу сітуацыю зразумеў з паўслова, засмяяўся: «Чакай перавод тэлеграфам. Разлічышся потым вершамі для газеты». На тыя грошы Пысіна купляўся хлеб, батоны і малако для цэлага ўзвода. Гэты жэст ласкавасці да мяне з боку Аляксея Васільевіча не быў адзінкавым. Забягаючы наперад, скажу, што пашчасціла не толькі мець добрыя стасункі з любімым паэтам, але і ініцыяваць у час працы ў аддзеле культуры ЦК КПБ узнагароджванне яго за творчасць высокім ордэнам (праўда, атрымаў з Масквы не такі, які заслугоўваў), дапамагаць, калі ён хварэў…

Пасля перадыслакацыі дывізіі (з-за недахопу салдацкага кантынгенту) воляй вышэйшага начальства на плечы студэнтаў легла сур'ёзная адказнасць: хадзіць у нарады, вартаваць склады ГЗМ (гаруча-змазачныя матэрыялы), боксы з танкамі і іншай тэхнікай. У першую ж ноч адбыўся інцыдэнт. Якраз каля склада ў высокім разнатраўі пралягала сцежка, па якой салдаты традыцыйна хадзілі ў «самаволку». У канцы яе быў лаз пад плотам, а за ім — вольная воля. Адносіны паміж нарадамі і аматарамі пагуляць рэгулярна адпрацоўваліся, зацвярджаліся ўмоўныя сігналы, каб прапускаць толькі сваіх, а чужых затрымліваць. Але ж студэнты гэтага не ведалі. Ім быў патрэбен толькі пароль. Тром гулякам-дэмбелям, якія спецыяльным перарывістым свістам, а затым і матам сведчылі з цемені, што яны — свае, усё ж давялося класціся ў калючую траву ўніз тварам і чакаць начальніка каравула.

Асабіста мне «пашанцавала» трапіць у начны нарад да боксаў з танкамі, калі ў Бабруйску на вуліцы раптам абстралялі ваенны патруль і паранілі яго начальніка — маёра. Што гэта было, хто ўчыніў злачынства, так да канца збораў і не высветлілася…

Апека над намі ўсё ж знайшлася, зборы перадалі ў распараджэнне асобнага ракетнага дывізіёна. Перад прыездам новага начальства стараліся як маглі. Усюды прыбралі самае дробнае смецце, дарожкі пасыпалі свежым пясочкам, разраўнялі граблямі. Ды ўсё роўна не дагадзілі. Прамову перад строем падпалкоўнік пачаў так: «У вас образование — высшее, а сознание — низшее. Зачем убили птичку?» Мы знiякавелі. Якая птушачка? Пра што ён гаворыць? Нехта ў страі зарагатаў. «Кто смеется? Выйти из строя!» — загадаў новы начальнік. Але ніхто не выйшаў. Шчака ў падпалкоўніка, які быў кантужаны ў вайну, затузалася, скрывіўся рот. Ён выбраў самага цыбатага, першага, хто кінуўся ў вочы, і аб'явіў: «Три наряда вне очереди!» На гэтую строгасць хтосьці прысвіснуў. «Кто свистел? Пять нарядов вне очереди!» Начальнік лютаваў, а мы ніяк не маглі даўмецца, што ж такое здарылася.

Нарэшце высветлілася, што падпалкоўнік, калі аглядаў лагер, на адной з дарожак заўважыў мёртвага вераб'я. Як ён сканаў: ці ад старасці, ці ад хваробы, ці падбіў яго хтосьці па-за лагерам — было невядома. Але мы да гэтага «нябожчыка» ніякага дачынення не мелі, пра што і пачалі даводзіць падпалкоўніку. Ды ён не хацеў слухаць тлумачэнні. «Совершили нехороший поступок, а отвечать некому, — змрочна прамовіў ён. — Посмотрим тогда, как вы ходить умеете». Падпалкоўнік загадаў нам праходзіць паротна страявым крокам, а сам падняўся са світаю афіцэраў на невялікую трыбуну, што ўзвышалася над пляцам. Мы прайшлі зладжана, але на каманду "Запявай!" — адказалі маўчаннем. Яшчэ адзін круг: «Запявай!» Чуецца толькі грукат ботаў. Маўчанне. Падпалкоўнік абурыўся. Ён сышоў з трыбуны, наблізіўся да нас і раззлавана спытаў: «Почему, сачки, не поёте?» Мы загаманілі: «Таварыш падпалкоўнік! Такія падзеі ў свеце адбываюцца, а нам ніхто нічога не гаворыць, не інфармуе. Тут не да песень. Душа не спявае». Ён спакойна выслухаў скаргі і сказаў цвёрда, безапеляцыйна: «Ничего. Душа запоет. А куда она денется? Будете ходить строем весь день, пока не запоет!»

Мы зразумелі, што зацятасць начальніка не пройдзе, што яна вынікае не з канкрэтнай сітуацыі, а з адчування поўнай улады над людзьмі. Гэтую ўпартасць нельга перасіліць. Падпалкоўніку трэба абавязкова дамагчыся свайго, і ён без песні жывымі нас з пляца ніколі не выпусціць.

Затым падышоў палкоўнік з ваеннай кафедры і міралюбна сказаў: «Ребята, пожалуйста, не лезьте на рожон. Надо спеть! Прошу вас!» Зноў грукат ботаў, а з-пад іх пыл, які нахабна засціць вочы. На падыходзе да трыбуны запявала першай роты Валера Аносаў набраў паветра ў грудзі, над шэрагамі з дзясяткаў дружных глотак гучна панеслася: «Скажи-ка, дядя, ведь не даром Москва, спалённая пожаром, французу отдана…» Падпалкоўнік ад нечаканкі ўстрапянуўся, а потым скрывіўся ад паражэнчай сітуацыі ў вядомых словах класіка, але задаволіўся і гэтым. Болей да канца збораў ён да нас не завітваў...

Нікому не хочацца жыць і тым больш спяваць пад прымусам, у клетцы — ні птушцы, ні чалавеку. Але гвалт над тымі, хто з ласкі Вышэйшай Волі нараджаецца свабодным, ніяк не спыняецца, паўтараецца і паўтараецца, пра што сведчыць беларуская рэчаіснасць, у якой невінаватых людзей кідаюць у турмы, а маладым бакланам пад Навалукамлем па-садыстку адразаюць дзюбы. Тое даўняе няўцямнае пытанне: «Зачем убили птичку?», зневажаючая муштра студэнтаў і сёння застаюцца без тлумачэння, без адказу.

ФАЛІЯНТ

# ШЭДЭЎР КНІГАДРУКАВАННЯ XVI СТАГОДДЗЯ

**Горад, як і чалавек, мае свой лёс, сваю біяграфію. За амаль тысячагадовае існаванне Брэста ў гісторыі горада, як у кроплі вады, адбіліся ўсе асноўныя этапы развіцця Беларускай дзяржавы.**

Тут не толькі вяршыліся лёсы краінаў і народаў, але і стваралася летапіс гісторыі веры.

Чатыры з паловай стагоддзі таму назад — 4 верасня 1563 года — маршалкам і канцлерам ВКЛ Мікалаем Радзівілам была выдадзена кніга, якая атрымала назву Радзівілаўская Біблія. Але найчасцей самы поўны збор XVI стагоддзя Старога і Новага запаветаў называюць у гонар горада, дзе ён быў надрукаваны: Брэсцкая Біблія.

Выданне ўяўляла сабой пераклад, зроблены з яўрэйскай, грэцкай і лацінскай моў на польскую: «Biblia swieta, to jest ksiegi Starego i Nowego zakonu wlasnie z zydowskiego, greckiego i lacinskiego nowo na polski jezyk z pilnoscia i wiernie wylozone».

Забяспечаная прадметным паказальнікам, гравіраваная тытульнымі лістамі, з шыкоўнымі ілюстрацыямі — гэта ўсё пра яе. Да гэтага часу Брэсцкая Біблія лічыцца адным з лепшых і самых поўных друкаваных выданняў XVI–XVIII стагоддзяў. Кніга-юбіляр сапраўды вартая ўсялякіх рэгаліяў. Выхад у свет яе першага асобніка адбыўся раней, чым заснавальнік друкарскай справы ў Расіі Іван Федаровіч выдаў першую кнігу на царкоўнаславянскай мове «Апостал».

Лёс Бібліі стаўся трагічным. Пасля смерці Радзівіла Чорнага яго сын Мікалай Радзівіл Сіротка, будучы заўзятым каталіком, загадаў сабраць пратэстанцкія брэсцкія выданні бацькі і спаліць іх у двары Нясвіжскага замка. У гэтым полымі загінула і вялікая частка выданняў Брэсцкай Бібліі.

Аднак, пры ўсіх сваіх вядомых і бясспрэчных вартасцях, Брэсцкая Біблія і дагэтуль знаходзіцца ў самым эпіцэнтры мноства гіпотэз: чаму Радзівіл Казімір Чорны палічыў за лепшае пратэстанцтва? Чаму ён уклаў у выданне Бібліі ўвесь свой гадавы даход: 10 тысяч дукатаў, прыцягнуўшы лепшых перакладчыкаў і мастакоў? Нарэшце, чаму для кнігадрукавання быў абраны менавіта Брэст?




Увогуле, «Радзівілаўская Біблія» з'яўляецца эпахальнай з'явай не толькі для ўсяго абшара колішняга Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства, але і для тагачаснай Масковіі. Пра гэта сведчыць геаграфія распаўсюджання Берасцейскай Бібліі: асобнікі, якія захаваліся да нашага часу або фрагменты гэтага рэдкага выдання складаюць прадмет гонару бібліятэк і архіваў Мінска, Вільні, Кракава, Масквы, Санкт-Пецярбурга.

Адзіны асобнік Брэсцкай (Радзівілаўскай) Бібліі 1563 года выдання знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі, у фондзе аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. На жаль, у Брэсце яе няма. «У нашай бібліятэцы захоўваецца асобнік Радзівілаўскай Бібліі, адноўлены ў 2003 годзе намаганнямі прафесара Ягелонскага ўніверсітэта, дырэктара выдавецтва Collegium Columbinum Вацлава Валецкага і мецэната Пятра Кралікоўскага. Але мы не губляем надзеі атрымаць і арыгінал у свае фонды. Нездарма ж кажуць, што святыні з'яўляюцца тады, калі прыходзіць час ім вярнуцца. Мы спадзяемся, што гэты час калі-небудзь прыйдзе, і Брэсцкая Біблія вернецца на радзіму», — падзялілася сваімі думкамі намеснік дырэктара па навуковай працы Брэсцкай абласной бібліятэкі імя Максіма Горкага Ала Мяснянкіна.

А інакш і быць не можа, бо Радзівілаўская Біблія — гэта адзін з сімвалаў Брэста. Нараўне з Брэсцкай уніяй і Брэсцкай крэпасцю.

**Алена Сезіна**

ДЫСКУСІЯ

# ПРА ЗДЫМАК МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

**14 жніўня 2013 года на сайце «Нашай Нівы» (nn.by/?c=ar&i=113975) з'явілася рэпублікацыя гутаркі карэспандэнта Еўрапейскага радыё Алеся Пілецкага з дырэктаркай Музея Максіма Багдановіча Таццянай Шэляговіч. У загалоўку гутаркі вылучана праблема: «На самым вядомым фота Багдановіча — не Багдановіч?».**



М. Багдановіч. 1911 г.



Год 1915-ы.

Прызнацца, мяне таксама бянтэжыла, што ў якасці здымкаў Максіма публікуюцца вывы нейк не падобных адзін да аднаго маладых людзей. Але я не антраполаг, нават і блізка не ведаю антрапалагічнай тэрміналогіі, не ўмею патлумачыць, чаму так бывае, што аблічча чалавека да непазнавальнасці мяняецца. І вось пра тое, якое фота Максіма-кніжніка сапраўднае, загаварылі ўголас.

Таццяна Шэляговіч апавядае слухачам і чытачам, што ў сярэдзіне мінулага стагоддзя партрэт Максіма Багдановіча зрабілі не з адзіночнага фота, а (шляхам выкадроўкі) з невялікага агульнага здымка супрацоўнікаў яраслаўскай газеты «Голос». «У выніку, — кажа спадарыня Шэляговіч, — атрымаўся партрэт, які моцна адрозніваецца ад рэальных здымкаў паэта».

Па-мойму, Таццяна Шэляговіч памыляецца, калі кажа, што выкадроўку са здымка супрацоўнікаў газеты «Голос» зрабілі ў сярэдзіне мінулага стагоддзя. Гэта, як відаць, адбылося значна раней — у сярэдзіне 1920-х.

3 чэрвеня 1981 года, калі беларусы рыхтаваліся да 90-х угодкаў з дня нараджэння Максіма, мастак Вячка Целеш атрымаў ліст з такім пытаннем: «А якім здымкам Максіма Б[агдановіча] будзеце карыстацца?». Пытанне задавала асоба, якая добра ведала Паэта: Зоська Верас. Далей у сваім лісце яна пісала: «Ёсць здымкаў шмат, але ня ўсе добра паказываюць яго выгляд. Паводле мяне самы лепшы, падобны здымак — з кніжкі «Вянок», выданай паўторна ў Вільні ў 1927 г.».

Гэты ліст, як і наступны, надрукаваны сёлета ва ўкладзенай Міхасём Скоблам кнізе ўспамінаў і лістоў Зоські Верас «Я помню ўсё».

Амаль праз год, 14 красавіка 1982 г., каментуючы Вячку Целешу нейкае выданне да 90-годдзя Паэта, Зоська Верас пісала: «Тая паштоўка — юбілейны партрэт Максіма Б[агданові]ча, абсалютна нічога не варты. Я маю такіх, хіба, з дзясятак. Адразу напісала ў Менск, у музэй — аб сваім пагладзе. Я і ім казала (былі ў мяне нядаўна з Менска, з музэю), і Вам кажу, што я лічу адзіным добрым і падобным здымак, зроблены ў 1915 г. у газэце «Голос». (...) Такім я Максіма бачыла і помню. Пасылаю адзін такі Вам».

Дык вось, у «Вянку» 1927 года была надрукавана ці не выкадроўка з таго самага калектыўнага здымка супрацоўнікаў газеты «Голос», які можна ўбачыць у другім томе Твораў Максіма Багдановіча (1928). Такога Максіма Багдановіча і запомніла Зоська Верас.

Калі ў кагосьці ёсць сумненні што да сведчанняў Зоські Верас, дык паведамляю, што другое выданне «Вянка» да друку рыхтаваў і прадмову да яго пісаў Антон Луцкевіч. Ён таксама добра ведаў Максіма Багдановіча: у 1911 годзе запрасіў паэта ў Беларусь, з Вільні завёз на месяц да сваякоў у Ракуцёўшчыну...

Калі недастаткова сведчанняў З. Верас і таго, што здымак М. Багдановіча ў «Вянку» 1927 года быў змешчаны, мабыць, не без ведама А. Луцкевіча, звернемся да іншых людзей, якія ведалі Максіма асабіста. Гэта Змітрок Бядуля, Леанард Заяц, Вацлаў Ластоўскі і Аркадзь Смоліч — людзі, якія ў 1920-х гадах жылі ў Менску. Калі не ўсе яны, дык нехта з іх не мог не бачыць «Вянок» 1927 года: сувязь паміж Вільняй і Менскам была тады неблагая, Беларускае навуковае таварыства, якое ўзначальваў А. Луцкевіч, і Інстытут беларускай культуры супрацоўнічалі; Антон Луцкевіч, дасылаючы ў Менск выяўленыя ім тэксты М. Багдановіча, браў дзейсны ўдзел у падрыхтоўцы двухтомніка Твораў нашага паэта (1927–1928). Хто сустракаў у друку, у архівах пярэчанні супраць гэтага здымка ў «Вянку»?

Яшчэ раней, чым у «Вянку» 1927 года, гэты партрэт паэта быў надрукаваны ў 3-м выданні «Гісторыі беларускае літаратуры» Максіма Гарэцкага. Кніга выйшла ў 1924 годзе. Той самы здымак мы бачым і ў 4-м выданні «Гісторыі...» М. Гарэцкага (1926). Хто-хто, а Змітрок Бядуля не мог не бачыць гэтыя выданні. Пэўна ж, бачылі іх і Вацлаў Ластоўскі, і Аркадзь Смоліч. Ці пярэчылі яны супроць гэтага здымка?

У 1927 годзе, як паказана вышэй, у Менску выйшаў першы том Твораў Багдановіча. Кніга адкрываецца тым самым здымкам Максіма з подпісам: «З фатаграфічнай групы 1915 году». Адказным рэдактарам тома быў чалавек, які ў 1916–1917 гадах разам з паэтам працаваў у Менскім аддзяленні Беларускага таварыства пацярпелым ад вайны: праўдзейны член Інстытута беларускай культуры Аркадзь Смоліч. Зноў жа, том не маглі не бачыць іншыя людзі, якія добра ведалі Максіма-кніжніка. Ці сустракаліся каму ў друку і ў архівах іх пярэчанні супроць гэтага здымка?

Маюцца ў Творах Максіма Багдановіча і два іншыя індывідуальныя фотаздымкі — з 1909 і 1911 гадоў. Але я пішу пра той фотапартрэт, на які мы бачым маладога чалавека, у якога была, кажучы словамі Змітрака Бядулі, пышная цёмна-каштанавая шавялюра. Спадарыня Шэляговіч лічыць, што гэты партрэт «моцна адрозніваецца ад рэальных здымкаў паэта». А вось на думку Зоські Верас менавіта ён, гэты партрэт, — «самы лепшы, падобны здымак». Рэальным лічылі гэты партрэт і іншыя сучаснікі Максіма Багдановіча. І змяшчалі яго ў кнігах 1920-х гадоў...

**У сярэдзіне мінулага стагоддзя партрэт Максіма Багдановіча зрабілі не з адзіночнага фота, а (шляхам выкадроўкі) з агульнага здымка супрацоўнікаў яраслаўскай газеты «Голос»**

**Дапоўнены варыянт, які быў першапачаткова апублікаваны на www.nn.by.**

**Анатоль Сідарэвіч**

▸ РЭЦЭНЗІЯ

# АДСУТНАСЦЬ КРОПКІ

## СНЫ БАРЫСА ПЯТРОВІЧА

**Новая кніга Барыса Пятровіча «Спакушэнне», якая выйшла ў выдавецтве «Кнігазбор» — гэта зборнік апавяданняў розных гадоў. Аўтар, мажліва, хацеў расставіць нейкія кропкі над «і», абраўшы ў новы зборнік менавіта апавяданні з кніг «Ловы», «Сон між пачвар», «Фрэскі», «Шчасце БЫЦЬ…» ды сціпла ўключыўшы напрыканцы кнігі 6 новых апавяданняў у раздзел пад назвай «З новай кнігі».**




Нельга сказаць, што праз усе апавяданні аўтара скразной лініяй праходзяць нейкі адзін сюжэт, лейтматыў або лірычны герой… Зрэшты, і так, і не. Амаль ва ўсіх творах галоўны герой — персанаж шчыры, чуллівы, ранімы, паэтычны. Настолькі паэтычны, што ўсё гэта здаецца вершамі, снамі ў прозе. І, трэба сказаць, вельмі публіцыстычнымі.

Наогул, пісьменнік відавочна гуляецца з уласцівым сабе наборам прыёмаў: публіцыстычнасцю (імкненнем закрануць нейкія рэальныя або магчымыя ў рэальнасці праблемы і нават «разжаваць» канкрэтную мараль, як у апавяданнях «Не пытайце, што будзе заўтра», «Прыемны колер», «Вера»); дакументалізмам ці наўмыснай падробкай пад яго (калі аўтар аперыруе рэальнымі геаграфічнымі найменнямі і гістарычнымі агульнавядомымі ці асабістымі падзеямі, як у апавяданнях «Каханне ў краіне, дзе не было сэксу…», «Вочы засмучоныя»); аўтабіяграфічнасцю ці падробкай пад яе, як у апавяданнях «Планідаманада», «Паўночныя ночы», «Больніца».

Здаецца, што Б. Пятровіч акурат з тых аўтараў, якія натхняюцца непасрэдна самім жыццём і схільныя больш апісваць і рэфлексаваць над падзеямі, якія рэальна адбыліся, чым выбудоўваць сваю рэальнасць, населеную прыдуманымі тыпажамі. Падобна на тое, што аўтару проста неабходная платформа для выказванняў. Ён хоча падзяліцца вопытам, расказаць жыццёвую гісторыю пра сямейную здраду, экзістэнцыйную адзіноту мужчыны пасля разводу або неўзаемнае каханне і немагчымасць сэксу.

Дарэчы, менавіта матыў інтымнай блізкасці, часта немагчымай або забароненай, які прысутнічае ў многіх апавяданнях, якраз і стаў вызначальным у выбары назову для ўсяго зборніка — «Спакушэнне» (у падтрымку гэтай ідэі на вокладцы кнігі змешчана карціна Сержука Цімохава з агаленай жанчынай). Ёсць тут і аднайменнае апавяданне. Фантасмагарычная, амаль булгакаўская гісторыя пра п'янага мужчыну, якая здарылася даўно ў невялікім палескім гарадку, што знік пасля Чарнобыля. Ён ішоў ва ўнівермаг, каб набыць падарункі дачцэ і жонцы на 8 сакавіка, а сустрэўся з жанчынай сваёй мары. Тое, што з гэтага не выйшла нічога добрага, і так зразумела. Але развязка апавядання настолькі ацверажальна-рэалістычная, нават ментарская, што не зусім стасуецца з усёй папярэдняй фантасмагорыяй ды інтрыгуючай аўтарскай інтанацыяй — звычайная бытавуха. Хаця, зрэшты, тэма немагчымасці адрозніць яву ад сну і перацякання аднаго ў другое раскрыта цалкам.

Часта галоўны герой Барыса Пятровіча таксама пісьменнік, у скрайнім выпадку мастак, паэт, філолаг з патэнцыялам празаіка, альбо проста натура лірычная. І бадай усе гэтыя героі наўрад ці жывуць у рэальнасці. Яны жывуць у сваіх снах. І ўсе яны — хочуць разабрацца ў сабе.

На супрацьпастаўленні явы і сну, на нейкай фантасмагарычнасці ды сюррэалістычнасці пабудаваныя некаторыя апавяданні. Часам немагчыма паверыць, што амаль «дастаеўскае» «Каханне ў краіне, дзе не было сэксу…» з нечаканай сацыяльна-палітычнай, відавочна дакументальнай развязкай пісаў той жа чалавек, што напісаў і «Шызы паўзмрок». Гэтае кароткае апавяданне пра чырвонага каня, які жыве, відаць, толькі ва ўяўленні галоўнага героя, як прага цуду, як жаданне збегчы ад аднастайнай будзённасці.

Не згадаць пра фантастыку нельга, хаця б таму, што некаторыя апавяданні зборніка — фантастычныя творы, не пазбаўленыя публіцыстычнага пафасу. Напрыклад, гісторыя «Не пытайце, што будзе заўтра», якая падышла б для студэнцкага караткаметражнага фільма. Альбо «Неба пад нагамі і вакол», якое сваімі палётамі ў сне і наяве прымушае ўзгадаць «Бар'ер» Паўла Вежынава.

Лаканічны, нават трошку сухі стыль Барыса Пятровіча ў некаторых новых апавяданнях ператвараецца ў мінімалізм. Аўтар цалкам адмаўляецца ад вялікіх літар і кропак. Праўда, гэта больш падобна на банальны пошук новай формы, чым на нейкі апраўданы і абгрунтаваны для гэтых апавяданняў спосаб данесці мастацкую ідэю. «Цень закаханы» ўсё адно застанецца напаўказкай, варыяцыяй на тэму «Ценю» Андэрсана, а «Больніца» — шчымлівай гісторыяй-успамінам пра хлопчыка, які падчас аперацыі перажыў вяртанне з таго свету.

Зрэшты, калі гаворка ідзе пра вечны выраЙ, адсутнасць кропкі ў канцы падаецца вельмі абнадзейваючай.

**Рыта Лён**

# ▼ ВОДЗЫВЫ

## ВЫБАР МАШТАБУ

### Пра кнігу паэзіі Міколы Кандратава «Кроплі дажджу»




Выбар маштабу — ці не самае цяжкае ў мастацтве.

Вытанчаная настольная статуэтка, раздзьмутая да памераў вулічнага манумента, выглядае як мінімум недарэчна. Як, зрэшты, і гераічны эпас, уціснуты ў межы невялічкай навэлы. Але ж памер ані ў якім разе не вызначае мастацкую вартасць твора: адно пранікнёнае хайку Мацуа Басё куды больш каштоўнае за дзясяткі вонкава эфектных, але цалкам пустых паэм. Галоўнае — адпаведнасць зададзенай формы і абраных мастацкіх сродкаў.

У гэтым сэнсе паэтычны зборнік Міколы Кандратава «Кроплі дажджу» надзіва гарманічны.

*Дождж ад раніцы ідзе*
*досыць цёплы,*
*скачуць кроплі па вадзе,*
*танчаць кроплі.*

***(Верш «Кроплі дажджу»)***

Што гэта? Правільна, паэтычнае назіранне, падкрэслена адчужанае. Прытым назіранне для аўтара — гэта найперш мастацкі акт, хуткаплынны, што той летні дождж. Дождж знянацку пачаўся і гэтак жа раптоўна скончыўся, сонца плюхаецца ў калюжынах, краявід змяніўся. Жыццё працягваецца, праз якую хвіліну на той дождж усе забываюцца, і толькі «на асфальце, як на шкле, танчаць кроплі.» Так і ў падсвядомасці чытача пасля прачытання таго верша застанецца падсвядомае адчуванне святла, гармоніі і спакою.

Падобныя творы не могуць быць зацягнутымі паводле вызначэння, бо інакш гэта ўжо не цёплы летні дождж, а змрочная восеньская залева. А невялічкая паэтычная форма, у сваю чаргу, вымагае адпаведных літаратурных сродкаў. Сапраўдная паэзія — гэта не абавязкова прыгожая і бліскучая цацанка. А майстэрства паэта не ў тым, каб усе словы блішчэлі і ззялі вясёлкай, а ў тым, каб словы, абзацы і рыфмы стаялі на патрэбным месцы, і каб іх спалучэнні выклікалі эмацыйны ўздым чытача.

Калі літаратурны стыль, паводле Джонатана Свіфта — «патрэбнае слова ў патрэбным месцы», дык паэтычная стылістыка зборніка «Кроплі дажджу» абсалютна бездакорная.

Гэта першае ўражанне пасля прачытання кнігі. А яшчэ неверагодна падкупляе амаль дзіцячая непасрэднасць аўтара — я маю на ўвазе штодзённую здольнасць адкрываць нязвыклае ў будзённым і шчыра, па-дзіцячы, гэтаму радавацца.

Ужо пасля выхаду першай паэтычнай кніжкі М. Кандратава «Возера Рудакова» аўтара адразу ахарактарызавалі як «паэта неакласічнай манеры», стылістыка каторага «нагадвае пісьмо філалагічнага пакалення». З гэтым можна пагадзіцца хіба што часткова. Так, вершы са зборніка «Кроплі дажджу» часам перагукаюцца з лірычнай паэзіяй Максіма Танка — празрыстасцю мовы, падкрэсленым мінімалізмам і стрыманай танальнасцю. Але ж «традыцыйнасць» М. Кандратава — менавіта метад, а не самамэта і ўжо тым больш не лекала, паводле каторага паэт стварае вершы.

«Кроплі дажджу» — традыцыйная неакласічная форма і абсалютна зразумелая чытачу сучасная інтанацыя, іншым разам, можа, і падкрэслена асабістая, з водбліскам роздумаў пра ўласнае жыццё і лёс, але, тым не менш, пераканаўчая для чытача.

Маштаб вытрыманы дасканала, усе паэтычныя сродкі абсалютна адпавядаюць зададзенай форме.

Ці здольны Мікола Кандратаў змяніць маштаб і ўзяцца, скажам, за паэму?

Мажліва.

Толькі навошта?

**Уладзіслаў Ахроменка**

## РАСШЫФРАВАЦЬ СВЯДОМАГРАФІЮ

### «Свядомаграфія» — так называецца зборнік мінскай паэткі Ірыны Хадарэнка, які пабачыў свет у мінулым годзе ў выдавецтве «Кнігазбор» (серыя Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»).




Адразу стала цікава, якія думкі і вобразы хаваюцца за нетрывіяльнай назвай. Настроіўшыся на экзістэнцыйны лад, я разгарнула старонкі і… не знайшла там ні любоўнай лірыкі, ні жаночых сантыментаў а-ля незадаволенае лібіда (зрэшты, тады б зборнік мусіў называцца «Падсвядомаграфія»)…

Амаль адразу аўтарка ўпэўнена дэкламуе сваю грамадзянскую пазіцыю:

*Маё грамадзянства — Вялікае Княства,*
*Мой родна абшар — ад Варшавы да Мінска.*
*Між Вільняй і Кіевам — продкаў калыска;*
*Мой род паяднаў і сялянства, і панства.*

*У спадчыну маю — з крыніцы славянства –*
*Зямлю, лес і хмары, што сцелюцца нізка,*
*Свавольнасць і ўпарты характар літвінскі:*
*У думках — свабода, у сэрцы — паганства.*

***(Верш «Біяграма»)***

У многіх творах гучыць непрыхаваны боль за сваю краіну, роспач, але наша гераіня — ужо сталая і загартаваная жыццёвымі выпрабаваннямі грамадзянка, і мужнае сэрца падказвае ёй простае выйсце з безнадзейнай сітуацыі:

*Не шкадаваць і не баяцца —*
*І пераможаш.*

Аўтарцы ўласцівы з'едлівы, нават чорны гумар, сатыра, скіраваная на сацыяльныя і чалавечыя хібы; гэта часам праяўляецца і ў загалоўках (напрыклад, верш «Пустмадэрнізм»), і ў змесце вершаў:

*Паслухмяныя парламентары —*
*Быццам нішы ў пустым калумбарыі…*

А ў вершы з ужо згаданай назвай «Пустмадэрнізм» аўтарка «страляе» па сучасных літаратарах:

*Сучасныя аўтары надта ўжо любяць верлібры,*
*Карціць ім пісаць пра бамжоў, маргіналаў і сэкс.*
*Іх творы — гумовыя кулі смяротных*
*калібраў —*
*Лятуць, каб забіць «трох зайцоў»: вобраз,*
*рыфму і сэнс.*

Трэба адзначыць, што І. Хадарэнка таксама спрабуе сябе ў верлібрах:

* * *

*з ценю крывавай нядзелі*
*выпаўз яе жаніх —*
*чорны панядзелак*
*з прыгожым і элегантным букетам*

*мілыя мірныя людзі*
*жуючы гамбургеры і гумкі*
*кожны дзень шпацыруюць*
*уздоўж скатабойні*
*маўчаць*
*і прадбачліва маюць у шафах*
*гатычныя строі*

На маю думку, кожная частка гэтага верлібра паасобку можа выглядаць як скончаны самадастатковы верлібр.

А найбольш вартыя па мастацкіх якасцях вершы ў зборніку, дзе відаць арыгінальную, цікавую, яркую, жывую асобу паэткі, гэта творы філасофскага складу. Менавіта ў іх найлепш праявіўся яе творчы талент, яе здольнасць тонка адчуваць, сузіраць, пераасэнсоўваць і па-мастацку ўвасабляць (напрыклад, верш «Загадка волі», а таксама «***Звярыныя вочы за мной назіраюць…» , «***Ідэя — гэта нечаканы скарб…», «Паэзія», «Музыка» і іншыя).

У зборніку таксама змешчаны пераклады вершаў А. Пушкіна, Ф. Цютчава, Г. Ахматавай, М. Гумілёва, Я. Твардоўскага, Ч. Мілаша, Р. Ваячка, М. Бялашэўскага, А. Стронка, Б. Мая. Пераклады вельмі якасныя, застаецца толькі падзякаваць аўтарцы-перакладчыцы за яе руплівую працу і тое эстэтычнае задавальненне, якое атрымліваеш ад прачытання кнігі.

**Таццяна Будовіч**

ДРУК

# «З РАДЗІМНАГА ЗАГОНУ»: «ДЗЕЯСЛОЎ», № 65

ЛеГАЛ

**Яшчэ нядаўна пісалі, што Святлана Алексіевіч з'яўляецца сёлета адным з найбольш рэальных прэтэндэнтаў на атрыманне Нобелеўскай прэміі. За мяжой, і ў прыватнасці ў Швецыі, рэцэнзіі на яе апошнюю кнігу раслі, як грыбы пасля дажджу… І як жа неадназначна (пераважна негатыўна) успрынялі гэтую нечаканую навіну нашы электронныя СМІ і розныя, звязаныя з літаратурай, сайты! Аднак не паспеў яшчэ задзёр усчацца напоўніцу, як тут жа й заціх, бо, аказваецца, зноў беларускія, ды і постсавецкія творцы, нават у першую букмекерскую дзясятку не патрапілі…**

А шкада — і прэміі, і задзёру, і шырокага сусветнага розгаласу… Бо значнасць гэтай прэміі для беларускай літаратуры, нераўнуючы, як самога «Беларуськалія» для дабрабыту краіны… І што ж цяпер, падкажаце, рабіць, калі і нацыяналізаваць ужо немагчыма, і прыватызаваць чужому шкада, і адпомсціць за абман, зняволіўшы якога-небудзь шведскага акадэміка, небяспечна?

Ат, жыццё, як сказаў мудрэц, вечнае — пачакаем лепшага часу…

Далей іранізаваць на гэтай тэме не буду, яна ў нас і так штодня на слыху і на вуснах.

І вось у чарговым нумары «Дзеяслова» **С. Алексіевіч** якраз і друкуе фрагмент нашумелага ў замежжы «Часу sekond-hand» у перакладзе Валеры Стралко. Па сутнасці, гэта запісаныя споведзі апошніх савецкіх людзей пасля «катастрофы» перабудовы, распаду СССР, прыхватызацыі і штучнага капіталізму… Своеасаблівае ўнутранае агольванне-выгаворванне… Увесь тэкст агулам прытрымліваецца аўтарскай абранай пазіцыі, галоўнай ідэі твора: быць па магчымасці шчырымі і сумленнымі. І гэта не так цвярозае пераасэнсаванне перажытага грамадска-палітычнага стрэсу, як усплёск уласных эмоцый, выкладанне «сэрца на далоні»… Але па прачытанні з'яўляецца і кволае прадчуванне, што гэта ўжо не зусім «home savetikus», а людзі эпохі духоўнага катарсісу. Хто за імі і што пасля іх? Адказ — не за пісьменніцай, а за самімі гэтымі людзьмі і іх нашчадкамі… Бо «вера была шчырая… наіўная вера… Паверылі, што вось зараз… ужо стаяць на вуліцы аўтобусы, якія павязуць нас у дэмакратыю. Будзем жыць у прыгожых дамах, не ў шэрых «хрушчоўках», пабудуем аўтабаны замест раздзёўбаных дарог, станем усе добрымі. Рацыянальных доказаў гэтаму ніхто не шукаў. Іх і не было. А навошта? Верылі сэрцам, а не розумам. І галасавалі на выбарчых участках сэрцам. Ніхто канкрэтна не казаў, што трэба рабіць: свабода — і ўсё.




Калі ты сядзіш у закрытым ліфце, то марыш аб адным — каб ліфт адчыніўся. У цябе шчасце, калі яго адкрылі. Эйфарыя! Ты не думаеш пра тое, што ты цяпер павінен нешта рабіць… ты нарэшце дыхаеш на поўныя грудзі… Ты ўжо шчаслівы!»

С. Алексіевіч больш цікавая менавіта для замежнага чытача, які даўно не спазнаваў падобных катаклізмаў і яшчэ прагны да тлумачэння такіх псіхалагічных драм, а тым больш канання чырвонага чалавека (бо наш чытач, апроч маладзёнаў, які і ёсць героем не твораў, і той, хто, чытаючы, пазнае ў іх сябе, і раздражняецца сям-там, таму што ведае сябе яшчэ глыбей і бязлітасней, чым ведае яго сама пісьменніца. Але ж у тым і была, мабыць, галоўная аўтарская задума: не проста занатаваць пэўную фактуру для гісторыі, не толькі ўзнавіць яе для нашчадкаў, а — напомніць чалавеку пра яго сутнасць і нейкім чынам разбудзіць яго свядомасць…

Гісторыя ВКЛ і Рэчы Паспалітай, жыццё князёў Радзівілаў, Жыгімонтаў і прасталюдзінаў у рамане **Эрнеста Ягугіна** «Перад Патопам» паказана не праз сухі і статычны архіўна-дакументальны афіцыёз, а праз кулуарнае жыццё, падгледжанае ў калідорах улады і праз канкрэтны лёс асобнага чалавека, і, трэба зазначыць, зроблена гэта даволі адметна, па-мастацку вобразна, магчыма, нават не менш праўдзіва, як было насамрэч, дзякуючы менавіта гэтай адвольнай, але стрымана-ўдумлівай суб'ектыўнасці аўтара. Сам тэкст стылёва просты, на першы погляд аднак, чытэльны і зацягвае па ходу развіцця сюжэта. Ярка і запамінальна выпісаны быт, звычкі, памежжа і людзі, дачыненні, прырода і мова нашых продкаў. Працяг гісторыі — у наступным нумары часопіса.

Прыцягне чытацкую ўвагу і яшчэ адна празаічная рэч — другая аповесць рамана-павуты **Ігара Бабкова** «Паветраны шар (1984)». «І ён вярнуўся і жыў далей, і, часам, пражываючы пэўныя рэчы, ужо наперад прадчуваў, які гэта будзе рэдкі і прыгожы ўспамін. Магчыма, ён падумаў пра гэта таксама, адночы ўсё ягонае жыццё, завершанае і дасканалае, насычанае сэнсамі, паўстане перад ім як завершаны твор. І будзе не страшна ставіць апошнюю кропку». Гэтая цытата з рамана збольшага раскрывае чытачу бессюжэтную і псіхалагічна-медытатыўную задуму твора і яго патаемную, непадуладную аўтару, мастацкую аўру… Складваецца ўражанне, што на пустым месцы выснаваўся зруб жыццёвага выраку творчага чалавека… Гэткае ідэйна-палітычнае і культуралагічнае рэзюмэ прамінулага часу канкрэтнага постсавецкага нацыянальнага інтэлектуала (дарэчы, якое кантрастнае супрацьпастаўленне вышэй узгаданаму твору С. Алексіевіч!). Калі зусім казаць шчыра пра ўласнае ўражанне, то раман І. Бабкова, хоць і аднастылёвы па сутнасці, але складаны па задуме і настолькі структурна стракаты, што месцамі насамрэч ілюзорна напамінае сабой павуту, у якой, у рэшце рэшт, і апынаецца залётны, заінтрыгаваны выбітным ткацкім літаратурным майстэрствам аўтара, чытач… Кожны ведае, чым гэта канчаецца ў падобных выпадках, але кожны спадзяецца на лепшае…

З малой прозы — апавяданне **Вінцэся Мудрова** «Гісторыя хваробы». Твор у ягоным пазнавальным стылі — нязмушаны, у меру іранічны, чытэльны. Вінцэсь як бы сабе не здраджвае і найчасцей застаецца ў сваёй залатой пары галавазломнага юнацтва і напаўдысідэнцкай маладосці. А вось аповед «Кашаль» Аляксея Чубата абсалютна не ўразіў. Прасталінейны чарцёжны журналіцкі стыль, лабавы сюжэт. Я памятаю А. Чубата як паэта, там ён значна цікавейшы. Дэбют жа гамяльчаніна **Алеся Брагінца** з апавяданнем «Возера, дзе расце доўгі-доўгі чарот…», скажам казённа, прымальны. Нешта ёсць у яго ад помных мне «крынічных» аповедаў пра Ваню Бянькова згаданага мной В. Мудрова. Аўтар мае адметны, праўда, яшчэ не ўпрацаваны стыль і, прынамсі, валодае візуальна не скаваным сюжэтным схематызмам. З яго творамі варта чакаць новай сустрэчы.

Што да паэтычнага красамоўства. Друкуецца нізка вершаў **Алеся Каско** «Богашукальніцтва». Безумоўна, узрост сціпае волю метафарычным крылам паэта, але яшчэ не можа пазбаўляць яго ўзлётаў… Паэзія А. Каско ўздымаецца з прыземленасці быцця ў высокае захмар'е чалавечых мрояў… У аўтара ёсць адметны талент і выпрабаваны часам літаратурны густ. Чытаючы яго, далучаешся да шырокага светапогляду паэта, пачынаеш жыць лёсам яго вершаў.

*Найлепшыя гінуць за свет і святло,*
*каб нараджалася людства*
*свабодным.*
*Чаму ж і цяпер, хоць шмат*
*жыццяў сышло,*
*грэх — першародны?*
*Душа вымагае, а голас слабы*
*ў верных, сумнінных і ў багаборцаў…*
*Няўжо-ткі дарэмна твой Сын*
*палюбіў*
*нас, Усятворца?!*

Вельмі цэласная, выдатная паэтычная нізка **Фелікса Баторына** «Познім вечарам у дождж», асабліва вершы «Апокрыф» і «Я ўсё адно пайду на дно». Даўно сачу за яго творчасцю — і, чым далей, тым больш цешуся і пераймаюся яго паэтычнымі ўдачамі і спакутаваннямі — яго суперажываннямі чалавеку і неардынарнымі развагамі над яго векавечным і па сутнасці прадказальным выракам. Адмысловы паэт, якога нашай літаратуры пара было б заўважыць і ўважыць яго чалавечы і творчы талент (зрэшты, пра што, каму і ў які час я гэта гавару?)…

*Плыву, жыву з апошніх сіл.*
*Нічога ў Бога не прасіў:*
*Што мне патрэбным можа быць,*
*Умеў зрабіць і зарабіць.*
*Адно адзінае прашу:*
*Не супакой маю душу*
*І мне як долей часу плынь,*
*Каб з ёю дужацца, пакінь.*

**Алена Ігнацюк** з Пінска ў сваіх вершах «Слухаць мора», як заўсёды, непаўторная і віртуозная фантазёрка. Праўда, вершы пераважна аднастайныя і па стылёвасці і па форме — гэткая своеасаблівая спроба выявіць разняволеную рэчаіснасць пэўнага месца і часу, але чытаюцца бегла, міла і нярэдка ўражліва (назва гэтага агляду ёсць цытацыяй аднаго з вершаў)… Нізка блізкая да характарыстыкі самой паэткай:

*Мора тэкст — нібы верша радкі,*
*што выводзіць рука сімваліста…*

Даўно ўжо не чытаў вершаў Уладзіміра Мароза, таму было інтрыгоўна зайсці за яго край туману (назва нізкі) і паблукаць у ачышчанай ад слоўнага смогу прасторы. Балючыя, выпакутаваныя душой вершы, можа, сям-там занадта правільныя ў сваім пасыле. Віной таму — затуманеная нацыянальная свядомасць народа, праз аблуду якой трэба шукаць пэўную дарогу, свой шлях да святла і свету.

*…Ды нічога не зробіш — брыдзём,*
*Як закладнікі крыўды й падману.*
*І нарэшце якім-небудзь днём*
*Дабярэмся да краю туману.*

Неблагія пачынанні ў маладога паэта **Максіма Баравіка.** Хоць, часам, эмоцыі перасільваюць здаровы сэнс, але ж ці ўздымалася б без таго вершаскладанне да паэзіі…

Добрую справу робіць (творыць) **Андрэй Хадановіч,** перакладаючы на беларускую мову лепшыя вершы лаўрэаткі Нобелеўскай прэміі палячкі **Віславы Шымборскай.** Важкі томік адборнай лірыкі выбітной паэткі даўно чаканы. Мне здаецца, што сутворчасць паэтаў атрымалася не толькі плённай, але і па-мастацку ўдалай, вартай шырокай чытацкай увагі.

Таксама ў перастварэнні з польскай **Наталляй Русецкай** і ў сцэнічнай адаптацыі **Сяргея Кавалёва** друкуецца п'еса Францішкі Уршулі Радзівіл «Выкраданне Еўропы».

Смачна-чытэльнае і апетытнаўежнае, душэўнае і ў корані сваім мудрае занатаванае паэтам **Рыгорам Барадуліным** гаваркое слова Вушаччыны. Лепш не скажаш, чым тое, што тут прачытаеш… Прадмову да «Вушацкага слоўзабору», які хутка выйдзе асобнай кнігай, напісаў У. Някляеў.

Следам і сам **Уладзімір Някляеў** выступае з працягам публікацыі сваіх «Знакаў прыпынку». Думныя, эмацыйныя запісы паэта з эгацэнтрычнай прыроднай таленту. Чытанне займальнае, месцамі дасведчанае і безагляднае на самога сябе… Згадваючы асобныя дзеі сваёй біяграфіі, аўтар міжвольна ўздымае палемічны пыл у завочных стасунках са сваімі былымі калегамі, хоць у душы і спадзяецца, што «калі будуць лічыць па вялікім рахунку, нам залічыцца дарога, а не пыл над ёй.» Даводзіцца толькі загадзя спачуваць тым, на каго той пыл асядзе. Урэшце, знаны паэт усё гэта добра разумее і афарыстычна зазначае: «Там, дзе ты сам не герой, там няма герояў».

Друкуюцца сардэчныя ўспаміны-развагі **Дануты Бічэль** пра Ніну Мацяш, якой гэтымі днямі споўнілася б 70 гадоў. Завяршае расповед вядомая паэтка вершам сваёй калажанкі І. Жарнасек, у якім, напраўду, вобраз Ніны Язэпаўны паўстае як жывы:

*З усіх нашых сходаў*
*пісьменніцкіх*
*засталіся*
*трывала ў памяці*
*кветкі*
*на прыполе*
*Ніны Мацяш.*

Друкуецца скасаваны на пачатку 70-х цэнзарам часопіса «Полымя» артыкул **Сяргея Панізніка** «Сумежжа сэрцаў і дум». Трэба адзначыць, што тэкст і сёння чытаецца з цікавасцю.

Рэдакцыя не пашкадавала аб'ёму для палемічнага «двубою» на тэму «мастацкага густу» і «безгустоўнасці» ў культуры і літаратуры паміж Эдуардам Дубянецкім і Віктарам Жыбулем. Я, хоць і больш схільны да пазіцыі Эдуарда, але з прычыны ўжо немалога свайго творчага і жыццёвага вопыту, пры магчымасці ўдзелу, заняў бы тут сваю адрозную — трэцюю (не трацейскую пазіцыю «над»), а — «паміж» ці «пасярод»… Калі ж выказаць сваё больш канкрэтнае вобразнае ўражанне ад «казанняў» супрацiўных бакоў, то мне бачыцца гэта як непамыснае ўтрапенне ахоўніка класічных традыцый Эдуарда Дубянецкага перад футурыстычным партрэтам Паўла Шукайлы, напісаным авангардным пэндзлем Віктара Жыбуля… Застаецца спадзявацца, што час выпрастае і звядзе ў адно пазіцыі абодвух бакоў, кожны з якіх мае сваю пэўную рацыю. Таму што спрадвечная і жыццядзейная пазіцыя ў творчасці была, ёсць і будзе толькі адна — высокамастацкая.

У часопісе друкуецца і артыкул крытыка і літаратуразнаўцы **Евы Лявонавай** «А душа падумала і здрыганулася» (творчасць Максіма Гарэцкага ў святле еўрапейскага літаратурнага досведу). Параўнальны аналіз яго апавядання «Рускі» (1915) і навэлы Кафкі «Ператварэнне» (1912). Вельмі арыгінальнае супрацьстаўленне і неардынарныя высновы таленавітай даследчыцы нацыянальнай і замежнай літаратуры.

**Анатоль Сідарэвіч** і **Леанід Галубовіч** друкуюць рэцэнзіі, першы — на кнігу «Зоська Верас. Я помню ўсё: лісты, успаміны» (укладзенай М. Скоблам), другі — на паэтычны зборнік Валеры Дубоўскага «На пачатку маўчання».

Напрыканцы часопіса ў традыцыйнай рубрыцы «Дзеяпіс» анансуюцца новыя выданні Бібліятэкі СБП з серыі «Кнігарня пісьменніка».

Такое вось літаратурнае жніво і яго пасляжніўеньскі намалот. І ўсё дзеля вашага чытацкага здароўя.

ЛІТКАЛЕЙДАСКОП

# САЙТ ПРА ЛЬВА ТАЛСТОГА




**Запрацаваў новы сайт, прысвечаны жыццю і творчасці Льва Талстога — tolstoy.ru. Яго з'яўленне прымеркавана да 185-годдзя пісьменніка (9 верасня).**

На сайце, які задумваўся як афіцыйны партал пісьменніка, сабраная выверaная спецыялістамі інфармацыя пра жыццё і творчасць пісьменніка, змешчана шмат рэдкіх медыйных матэрыялаў: фатаграфіі, ілюстрацыі да твораў, аўдыё- і відэазапісы з музейных фондаў. Таксама на tolstoy.ru прадстаўленая інтэрактыўная геаграфічная карта, на якой пазначаны месцы, звязаныя з імем пісьменніка і месцамі дзеяння яго твораў.

На партале ўпершыню выкладзены ўвесь 90-томны збор твораў Талстога ў электронным выглядзе. Кнігі можна бясплатна спампаваць у фарматах PDF, fb2 і ePub.

Праца па падрыхтоўцы электроннай версіі 90-томніка праводзілася ў межах праекту «Увесь Талстой за адзін клік». Праект быў распачаты кампаніяй ABBYY сумесна з Дзяржаўным музеем Льва Талстога і музеем-сядзібай «Ясная Паляна» ў чэрвені гэтага года. Вычытвалі талстоўскія творы валанцёры. Любы ахвотны мог спампаваць з сайта readingtolstoy.ru 20 старонак тэксту і спецыяльную версію ABBYY FineReader, якая дапамагае распазнаваць тэксты.

Праца праводзілася ў тры этапы: вычытка тэкста валанцёрамі, паўторная праверка валанцёрамі-аўдытарамі, вычытка валанцёрамі-карэктарамі і канвертацыя ў фарматы электронных кніг. Першы этап, паводле словаў арганізатараў, завяршыўся рэкордна хутка. За 14 дзён былі вычытаныя ўсе 90 тамоў. У праекце ўзялі ўдзел 3123 удзельнікі з 49 краін.

Збор твораў Льва Талстога ў 90 тамах выходзіў з 1928 па 1958 гады ў Дзяржлітвыдавецтве. У яго ўваходзяць усе мастацкія творы пісьменніка, а таксама дзённікі, лісты, публіцыстыка, філасофска-рэлігійныя творы і чарнавікі.

# НОВЫ РАМАН ПРА ЭРКЮЛЯ ПУАРО

**Як паведаміла «The Guardian», у Вялікабрытаніі будзе выдадзены новы раман пра бельгійскага дэтэктыва Эркюля Пуаро. Аўтарам новых прыгодаў знакамітага літаратурнага героя стане пісьменніца Сафі Хана. Кніга, якая пакуль не атрымала назвы, з'явіцца ў верасні 2014 года.**



Па словах пісьменніцы, дзеянне новага рамана будзе разгортвацца ў часавым прамежку паміж сюжэтамі «Таямніцы «Блакітнага цягніка»» (1928) і «Загадкай Эндхаўза» (1932). Лепшы сябар Пуаро капітан Гасцінгс у рамане не з'явіцца.

Правы на выкарыстанне вядомага персанажа ў новай кнізе былі атрыманы ў спадчыннікаў Агаты Крысці. Хана прадставіла ім і выдавецтву «Харпер Колінз» падрабязны стостаронкавы план кнігі. Як заявіла пісьменніца, яна думала над адным дэтэктыўным сюжэтам каля двух гадоў, але не магла прыдумаць, як адаптоўваць яго да сучаснага жыцця, і тады вырашыла, што хоча зрабіць галоўным героем свайго рамана Эркюля Пуаро.

Унук Агаты Крысці Мэцью Прычард заявіў, што рашэнне дазволіць працягваць дэтэктыўную серыю пра Пуаро далося яму і іншым спадчыннікам нялёгка. Ён адзначыў, што яны з цікавасцю назіралі за працягам серыі пра Джэймса Бонда, напісаным Себасцьянам Фолксам («Д'ябал не любіць чакаць», 2008). «Мая бабуля напісала значна больш кніг, чым той жа Ян Флемінг. Мы думалі, што ў спісе твораў Крысці і так занадта шмат пунктаў», — распавёў Прычард.

Сафі Хана адзначыла, што паспрабуе звяртацца з персанажам Крысці як мага асцярожней. «Я разглядаю кожнае напісанае Агатай Крысці слова амаль як святое пісание, так што паспрабую не дапушчаць адмысловых вольнасцяў. Напрыклад, Пуаро сапраўды не будзе катацца на роліках», — заявіла пісьменніца.

Сафі Хана, ангельская паэтка і празаік, жыве і працуе ў Кембрыджы. Некаторыя яе паэтычныя творы ўваходзяць у адукацыйную праграму брытанскіх школ. Шырокую вядомасць Хана атрымала як аўтар дэтэктываў. Яе раман «Маленькі тварык» у 2008 годзе быў намінаваны на Дублінскую літаратурную прэмію.

Агата Крысці напісала 33 раманы пра Эркюля Пуаро. Апошні — «Заслона» — быў апублікаваны ў 1975 годзе, незадоўга да смерці пісьменніцы.

# ДОМ ДЗІКЕНСА Ў КЕНЦЕ

**Дом ангельскага пісьменніка Чарльза Дзікенса ў графстве Кент, у якім ён жыў на працягу апошніх 13 гадоў жыцця, ператвораць у музей.**



Двухпавярховы будынак Гэдсхіл-Плэйс з 1920 года выкарыстоўваўся як школа. Кабінет Дзікенса служыў офісам дырэктару школы, а ў астатніх памяшканнях знаходзіліся класныя пакоі.

Аднак, па словах цяперашняга дырэктара школы Дэвіда Крэгса, дом пісьменніка ўжо не адпавядае патрабаванням сучаснай адукацыі. Таму школа неўзабаве пераедзе ў два нядаўна пабудаваныя новыя будынкі. У цырымоніі адкрыцця аднаго з іх удзельнічала ўнучка пісьменніка Марыон Дзікенс.

Гэдсхіл-Плэйс у вёсцы Хайем у графстве Кент быў пабудаваны ў 1780 годзе для былога мэра Рочэстэра Томаса Стэфенса. Дзікенс упершыню ўбачыў асабняк у 1821-м, калі яму было дзевяць гадоў. Як успамінаў пісьменнік, яго бацька тады сказаў, што калі ён будзе шмат працаваць, то калі-небудзь зможа купіць гэты дом.

Праз 35 гадоў пісьменнік купіў яго за 1,790 тысячы фунтаў і праз год пераехаў туды з Лондана.

У Гэдсхіл-Плэйс Дзікенс напісаў, між іншага, «Аповесць пра два гарады», «Вялікія надзеі» і «Наш агульны сябар», а таксама свой апошні няскончаны раман «Таямніца Эдвіна Друда». У 1870 годзе ён памёр у абедзенным пакоі асабняка.

Чарльз Дзікенс нарадзіўся ў 1812 годзе ў Портсмуце, дзе пражыў тры гады. З 1904-га ў яго доме працуе музей. Другі музей пісьменніка знаходзіцца ў яго доме ў Кэмдэне (Лондан).



Такім чынам, у Брытаніі будзе тры музеі Дзікенса. А вось помнік у яго гонар — пакуль што адзін. Ды і той з'явіўся толькі сёлета — у родным горадзе Портсмуце. Першапачаткова планавалася, што помнік паставяць у 2012-м, калі брытанцы святкавалі 200-гадовы юбілей раманіста, аднак на праект не паспелі сабраць грошы. Манумент, замоўлены «Таварыствам Дзікенса», ацэньваецца ў 118 тысяч фунтаў стэрлінгаў (191,7 тысяч даляраў), а апошняе ахвяраванне ад ананімнага дабрачынцы ў памеры 25 тысяч фунтаў (40,6 тысяч даляраў) было нядаўна.

Сам жа пісьменнік у сваім тэстаменце прасіў не ўзводзіць яму манументаў. Вядома пра існаванне двух скульптур за межамі Англіі, усталяваных у гонар Дзікенса: адна з іх знаходзіцца ў Філадэльфіі, другая — у Сіднэі.

# ПРЭМІІ

## БУКЕР

Кароткі спіс прэтэндэнтаў на Букераўскую прэмію быў абвешчаны 10 верасня. З лонг-ліста, які складаўся з 13 пісьменнікаў, журы абрала шасцярых. У іх лік увайшлі брытанскі пісьменнік Джым Крэйс з раманам «Ураджай» («Harvest»), ірландзец Колм Тойбін з «Запаветамі Мэры» («The Testament of Mary»), новазеландка Элеанора Катон з кнігай «Свяціла» («The Luminaries»), брытанка Джумпа Лахіры з раманам «У нізіне» («The Loward»), канадска-амерыканская пісьменніца Рут Озекі з «Казкай пра быццё» («A Tale for the Time Being») і Новаёлет Булавайё з Зімбабвэ з раманам «Нам патрэбныя новыя імёны» («We Need New Names»).

Кніга Колма Тойбіна «Запаветы Мэры» стала самым кароткім творам, які калі-небудзь намінавалі на Букераўскую прэмію. Яна складаецца ўсяго са 112 старонак. Таксама было абвешчана, што сёлета ў шорт-ліст патрапілі самы пажылы і самы малады намінанты ў гісторыі прэміі: 67-гадовы Джым Крэйс і 27-гадовая Элеанора Катон.

Пераможца будзе названы 15 кастрычніка. Яму ўручаць статуэтку і чэк на 50 тысяч фунтаў (каля 80 тысяч даляраў).

Букераўскую прэмію з 1969 года прысуджаюць аўтару, які пражывае ў адной з краінаў Садружнасці нацый (Вялікабрытанія і былыя калоніі), Ірландыі ці Зімбабвэ. Твор павінен быць напісаны на ангельскай мове. У мінулым годзе «Букер» дастаўся брытанскай пісьменніцы Хілары Мантэл за раман пра Томаса Кромвеля «Вынесіце целы».

## ПРЭМІЯ ІМЯ САЛТЫКОВА-ШЧАДРЫНА

Пісьменнік Юры Палякоў узнагароджаны Усерасійскай прэміяй імя Салтыкова-Шчадрына за раман «Гіпсавы трубач». Узнагарода аўтару лепшага твора, напісанага ў сатырычным жанры, была ўручана ў Кіраве, у доме-музеі, які носіць імя вялікага сатырыка, губернатарам вобласці Мікітам Бялых. На наступны дзень адбылася прэзентацыя гэтай кнігі – на Маскоўскай міжнароднай кніжнай выставе-кірмашы.

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў РИА Новости, УНІАН, newsru.ua, The Guardian, lenta.ru, BBC News і news.tut.by.**

# НОВЫЯ КНІГІ СЭЛІНДЖЭРА

**Нявыдадзеныя творы амерыканскага пісьменніка Джэрома Д. Сэлінджэра, аўтара рамана «Лавец у жыце», хутка пабачаць свет.**

Пра тое, што кнігі Сэлінджэра рыхтуюцца да друку, паведамілі Шэйн Салерна і Дэвід Шылдс, аўтары біяграфіі пісьменніка. Інфармацыя была атрыманая імі з «дзвюх незалежных і дакладных крыніц».

У неапублікаваных тэкстах чытачоў чакаюць героі папярэдніх твораў пісьменніка: Холдэн Колфілд («Лавец у жыце») і Фрэні і Зуі Глас (зборнік «Фрэні і Зуі»). Сэлінджэр таксама звяртаецца да свайго досведу ваеннай службы падчас Другой сусветнай вайны і захаплення ўсходнімі рэлігіямі, сцвярджаюць Д. Шылдс і Ш. Салерна.

Выдавецтва Little, Brown and Company, у якім выйшаў раман «Лавец у жыце», а таксама сын пісьменніка Мэт Сэлінджэр каментаваць сітуацыю адмовіліся.

Адзначым, што Д. Шылдс і Ш. Салерна падчас напісання біяграфіі не супрацоўнічалі са сваякамі Сэлінджэра — яго сынам М. Сэлінджэрам і ўдавой Колін О'Ніл. Аўтары біяграфіі Сэлінджэра — не літаратуразнаўцы і не спецыялісты па яго творчасці. Ш. Салерна — галівудскі сцэнарыст, вядомы па фільмах «Армагедон» і «Дзікуны», а Д. Шылдс — пісьменнік, аўтар кніг на розную тэматыку, у тым ліку аб прафесійным баскетболе і сучаснай літаратуры.

«Лавец у жыце» — адзіны раман Сэлінджэра, які выйшаў пры яго жыцці, у 1951 г. Кніга здабыла велізарны поспех. Пісьменнік апублікаваў яшчэ шэраг навэлаў, пасля чаго пачаў весці жыццё пустэльніка. Ён перастаў выдаваць свае кнігі ў пачатку 1960-х, аднак многія крыніцы сведчаць, што ён не перастаў пісаць. Так, у інтэрв'ю ў 1974 годзе пісьменнік паведаміў, што піша «штодня, але выключна для сябе». «Адмова ад выдання кніг прыносіць мне спакой», — патлумачыў ён.

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА. Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

## 4 КАСТРЫЧНІКА, ПЯТНІЦА

1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Дыхай са мной. Шчасце ў пазыку» (Расія).
**10.00** Біяграфічная драма «Ганна Герман».
**10.55** Дакументальны цыкл «Неверагодныя гісторыі кахання» (Украіна).
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.25** Фантастычны серыял «Каўчэг» (Іспанія). 4-я серыя.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.30** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія).
**16.35** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**17.40** Меладраматычны серыял «Дыхай са мной. Шчасце ў пазыку» (Расія).
**19.20, 23.40** Зона Х. Вынікі тыдня.
**19.50** Біяграфічная драма «Ганна Герман» (Расія). Заключная серыя.
**21.00** Панарама.
**22.00** Фінал Рэспубліканскага дзіцячага конкурсу «Песня для Еўрабачання». Прамая трансляцыя.
**00.25** Дзень спорту.
**00.40** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія).

ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсерыйны фільм.
**12.10** Прэм'ера. «Самы лепшы муж».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здаровейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** Прэм'ера. «Ясмін». Шматсер. фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Прэм'ера. «Хатняя прыслужніца». Шматсерыйны фільм.
**17.00** Прэм'ера сезону. «У наш час».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне. Беларусь».
**18.55** Поле цудаў.
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Хачу ў ВІА ГРУ».
**23.20** АНТ прадстаўляе: «Што?Дзе?Калі?» у Беларусі.
**00.45** Прэм'ера. Прыгодніцкі фільм «Драйв».
**02.40** Начныя навіны.

СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Ваўкавыск.
**09.10** «Нам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Ваўкавыск.
**14.00** Фільм «Не скажу». Расія, 2010г.
**16.00** «Жыць будзеце».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Шчучын.
**20.25** Фільм «Банда няўдачнікаў». Італія, 1994г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ежа багоў».
**00.00** Еўрапейскі покерны турнір.
**00.50** Фільм «Ліфт». Расія, 2006г.

2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Жураў-2» (Расія).
**10.15** Час футболу.
**11.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**12.10** Гістарычны дэтэктыў «Чорны замак Альшанскі». 1-я і 2-я серыі.
**14.35** Тэніс. Турнір ВТА. Пекін. Жанчыны.
**16.45** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Бананавы рай» (Расія).
**17.20** Дакументальны серыял «Азбука добрага самаадчування» (Аўстралія).
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** «Бітва экстрасэнсаў». Шоў-праграма.
**22.40** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**23.30** Прэм'ера! Моладзевая драма «Супер Майк» (ЗША).
**01.25** Фактар сілы.
**01.55** Арэна.

3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Дабраранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** Мара пра космас. Дак. фільм.
**08.35** «Янка Купала... Я адплаціў народу...» Дакументальны фільм.
**09.05** «Скарбніца Гомельшчыны». Добруш.
**09.35** «Доктар Жывага». Экранізацыя рамана Барыса Пастэрнака. 10-я серыя.
**10.20** «АРТіШОК». Праграма знаёміць з мастаком Міхаілам Сяньковым.
**10.45** «Мінін і Пажарскі». Гістарычная драма.Часткі 1-я і 2-я.
**12.30** «Святло далёкай зоркі». Памяці рэжысёра Аляксандра Гутковіча.
**13.00** «Андрэй Макаёнак. Незацюканы апостал». Дакументальны фільм.
**13.25** «Гісторыя беларускага тэатра. Нараджэнне». Дакументальны фільм.
**14.00** «Тут засталася мая душа. Леанід Барткевіч». Дакументальны фільм.
**14.20** «Палескі пачастунак». Грыбны квас і клёцкі.
**14.35** «Маляваны рай». Дакументальны фільм пра лёс і творчасць Алёны Кіш.
**14.50** «Непрыручаная птушка». Жыццё і творчасць паэтэсы Яўгеніі Янішчыц.
**15.15** «Жыццё і смерць двараніна Чартапханава». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
**17.25** «Святыні полацкай зямлі». Дакументальны фільм пра помнікі архітэктурнай спадчыны.
**17.40** «Кола». Кароткаметражны фільм па матывах апавядання А.Дударава «Святая птушка».
**18.05** Мара пра космас. Дак. фільм.
**18.35** «Калейдаскоп».
**18.45** «Бура». Фільм-фэнтэзі паводле трагікамедыі Уільяма Шэкспіра.
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Шляхтіц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях». Мастацкі фільм.
**22.15** «АРТіШОК». Праграма знаёміць з мастаком Міхаілам Сяньковым.
**22.45** «Доктар Жывага». Экранізацыя рамана Барыса Пастэрнака. 11-я серыя (заключная).
**23.30** «Андрэй Макаёнак. Незацюканы апостал». Дакументальны фільм.
**00.00** «Святло далёкай зоркі». Памяці рэжысёра Аляксандра Гутковіча.
**00.25** «Калейдаскоп».

РОССИЯ ТЕЛЕКАНАЛ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Адмысловы выпадак».
**11.00** Весці.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** «Той, хто бачыў скрозь час».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весці.
**14.20** Дзённік Сочы-2014.
**14.25** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Пуцявікі-2».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весці.
**17.10** «Пуцявікі-2».
**18.05** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**18.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весці.
**20.45** «Падары мне трохі цяпла» (2013 г.).
**22.35** Навіны - Беларусь.
**22.45** «Дужы шлюб» (2012 г.).
**00.35** «Дачка баяніста» (2012 г.).

МИР

**05.00** Т/с «Пяць хвілін да метро».
**06.40** Мультфільмы.
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00** Навіны Садружнасці.
**09.15** М/ф «Ферыдэ».
**11.15** «Сардэчна запрашаем».
**11.45** «Рэспубліка сёння».
**12.25, 03.20** Т/с «Клон».
**15.25** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**16.20** Т/с «Чорны крумкач - 2».
**18.25** М/ф «Каралева».
**20.10** «Любімыя акцёры».
**20.35** М/ф «Гары, гары мая зорка».
**22.15** М/ф «Чацвёрты від».
**00.00** М/ф «Адплата».
**01.35** Т/с «Камісар Навара».
**03.10** «Прыгоды Македонскай».

БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00, 11.35, 19.00, 23.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Рэпартэр.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.25** Euromaxx.
**09.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**10.05** «Бландзінка», серыял: 9 серыя.
**10.50** «Чукотка. Забытая армія», дак. фільм, 1997 г., Польшча–Германія.
**13.10** Рэпартэр.
**13.35** Аб'ектыў.
**14.05** Euromaxx.
**14.30** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**14.45** «Бландзінка», серыял: 9 серыя.
**15.35** «Чукотка. Забытая армія», дак. фільм, 1997 г., Польшча–Германія.
**16.20** МакраФон: «Права быць свабодным» (канцэрт альтэрнатыўнай музыкі «Луцк-2007»): выступ гурта «Neuro Dubel».
**16.45** «Ранча», серыял: 15 серыя.
**17.40** Рэпартэр.
**18.05** На колах.
**18.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20** Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Дэвайс.
**19.30** Навіны.
**19.40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** Не прапусці! (параднік гледача).
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Дэвайс.
**20.30** ПраСвет.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Дом», серыял: 4 серыя.
**22.55** Эксперт (сатырычная праграма).
**01.00** ПраСвет.
**01.25** Аб'ектыў.
**01.50** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## 5 КАСТРЫЧНІКА, СУБОТА

1 БЕЛАРУСЬ

**06.50** Баявік «У зоне асаблівай увагі» (СССР).
**08.30** Існасць.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Зямельнае пытанне.
**09.35** Сямейная камедыя «Ластаўчына гняздо» (Украіна). 1-4-я серыі.
**12.10** Здароўе.
**13.00** Усё як мае быць!
**13.30** Нашы.
**13.45** Таямніцы следства.
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Дак. цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**16.25** Каробка перадач.
**16.55** Бенефіс.
**18.35** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**19.15** Прэм'ера! Меладрама «Кахаць нельга забыцца» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Прэм'ера! Драматычная камедыя «Мой хлопец - псіх!» (ЗША).
**23.55** Дзень спорту.
**00.05** Сямейная камедыя «Ластаўчына гняздо» (Украіна). 1-4-я серыі.

ОНТ

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі». Новыя прыгоды.
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Ідэальны рамонт».
**12.05** «Разумніцы і разумнікі».
**12.50** «Ералаш».
**13.05** Прэм'ера. «Іна Чурыкава. «Не прынцэса! Каралеўна!!!».
**14.05** «Рабінзон». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Фільм «Жанчына-котка».
**18.20** «Адзін супраць усіх».
**19.05** Прэм'ера. «Хвіліна славы. Дарога на Алімп!».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Летні кубак у Сочы.
**23.25** Вострасюжэтны фільм «Драпежнік».
**01.25** Камедыя «Жаніх з таго свету».

СТВ

**06.00** «Салдаты». Серыял.
**06.55** «Анфас».
**07.10** Фільм «Банда няўдачнікаў». Італія.
**09.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Шчучын.
**09.10** «Чыстая праца».
**10.00** «Іншая краіна».
**10.45** «Увядзе сабе».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Прыгоды дылетанта».
**12.40** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.30** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Шчучын.
**13.40** Фільм «Чарговы рэйс». СССР, 1958г.
**15.25** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Эліксір маладосці».
**18.35** «Дзіўная справа».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Ліда.
**20.20** Фільм «Кілеры». ЗША, 2010г.
**22.15** «Зорны рынг. Новы сезон.
**23.20** Фільм «99 франкаў». Францыя, 2007г.
**01.10** «Глядзець усім!».

2 БЕЛАРУСЬ

**08.00** Мультфільмы.
**08.35** Фільм-казка «Кароль-алень» (СССР).
**09.50** Пазакласная гадзіна.
**10.15** «Пад грыфам «Вядомыя».
**10.50** «СуперІнтуіцыя. Бітва палоў». Забаўляльная шоў-праграма (Расія).
**12.00** Тэніс. Турнір ВТА. Пекін. Жанчыны. Паўфінал. Прамая трансляцыя.
**14.20** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**15.35** «Бітва экстрасэнсаў». Шоў-праграма.
**16.55** Футбол. Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь. БАТЭ - Дынама (Мінск). Прамая трансляцыя.
**19.15** Ваша лата.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.15** Цудоўная сямёрка. Вяртанне. Кастынг.
**20.55** Тэлебарометр.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Камедыйная меладрама «Больш, чым сябар» (ЗША).
**23.10** «СуперІнтуіцыя. Бітва палоў». Забаўляльная шоў-праграма (Расія).
**00.10** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**01.05** Вышэй за дах.

3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Абіцель душы».
**08.40** «Выкрасці Бельмандо». Эксцэнтрычная камедыя.
**10.25** «Іван Мележ. Туманы над багнаю». Дакументальны фільм.
**10.50** «Ваяцель». Дакументальны фільм пра скульптара Анатоля Арцімовіча.
**11.10** «Наперад у мінулае».
**11.40** Мультфільмы.
**12.20** «Доўгі шлях да сябе..» Народны артыст Беларусі Генадзь Гарбук. Дак. фільм.
**13.00** «Браслаўшчына. Край Божай апекі». Дакументальны фільм.
**13.30** «Матэрыя вобраза». Дак. фільм пра вучонага-фізіка Сяргея Жданка.
**14.00** «Слуцкія паясы. Тайныя знакі». Дакументальны фільм.
**14.40** «Хлапок адной далоні». Харэограф, народны артыст Беларусі Валянцін Дудкевіч.
**15.10** Канцэрт Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі.
**15.25** «Чэліні: злачыннае жыццё». Гістарычная драма. 1-я - 3-я серыі.
**20.30** Калыханка.
**20.45** Сусветнае кіно. «Дзякуй за шакалад». Экранізацыя рамана Шарлоты Армстранг «Шакаладная павуціна».
**22.25** «Без права на дубль». «Прадчуванне смерці. Васіль Шукшын».
**23.10** «Калейдаскоп».

РОССИЯ ТЕЛЕКАНАЛ

**07.00** «Дужы шлюб» (2012 г.).
**08.40** «Дачка баяніста» (2012 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весці.
**11.15** «Суботнік».
**11.55** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**12.30** «Той самы Мюнхгаўзэн» (1979 г.). 1-я серыя.
**14.00** Весці.
**14.25** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма Эдуарда Пятрова.
**15.00** «Танкавы біятлон».
**16.05** «Падары мне трохі цяпла» (2013 г.).
**18.00** «Лёс Марыі» (2012 г.).
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весці ў суботу.
**20.45** «Танцы з зоркамі». Сезон-2013.
**00.00** «Каханне на два полюсы» (2011 г.).

МИР

**05.00** М/ф «Гары, гары мая зорка».
**06.40** Мультфільмы.
**08.05** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**08.20** «Эксперыментатары».
**08.35** «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Свет Спорту».
**09.40** «Даведнік».
**10.05** «Зроблена ў СССР».
**10.30, 03.40** М/ф «Раз на раз не даводзіцца».
**11.50, 22.45** Т/с «Кароткае дыханне».
**15.10** Т/с «Чыста ангельскія забойства».
**20.05** «Навіны Садружнасці. Культура».
**20.45** М/ф «Прывітанне з узбярэжжа».
**01.55** М/ф «Каралева».

БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.25** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**09.35** Казкі для дзетак.
**10.05** «Эміль з Лённэбэрг'і», серыял: 5 серыя.
**10.35** Асабісты капітал.
**10.55** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**11.25** Два на два (тэледыскусія).
**11.50** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**12.20** Невядомая Беларусь: «Праклятыя і забытыя», дак. фільм, 2013 г., Беларусь: ч. 1.
**12.50** МакраФон: «Канцэрт Змітра Вайцюшкевіча ў тэатры «Буфо»»: ч. 1.
**13.25** «Глыбокая вада–2», серыял: 4 серыя.
**14.10** «Чукотка. Забытая армія», дак. фільм, 1997 г., Польшча–Германія.
**15.00** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**15.10** «Дом», серыял: 4 серыя.
**16.40** «Час гонару», серыял: 53 серыя.
**17.25** «Чароўнае дрэва», серыял: 3 серыя.
**17.55** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.25** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**18.40** Забавы «Ліпі і Мэсі».
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгоды і паходы».
**19.00** «Аргентынскі ўрок», дак. фільм, 2011 г., Польшча.
**20.00** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**20.30** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 38.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Невядомая Беларусь: «Праклятыя і забытыя», дак. фільм, 2013 г., Беларусь: ч. 2.
**21.45** Суботні сеанс: «Да смерці трэба паспець, дэтэктыў, 2010 г., Канада.
**23.15** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**23.40** «Пітбуль», серыял: 31 серыя.
**00.25** МакраФон: «Be Free–2008», фестываль: выступы гуртоў «Ху4» і «IQ48».
**00.55** Аб'ектыў.
**01.15** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## 6 кастрычніка, нядзеля

### Беларусь 1

**07.20** Меладрама «Кахаць нельга забыцца» (Расія).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.35** Сямейная камедыя «Ластаўчына гняздо» (Украіна). 5-8-я серыі.
**12.10** Нашы.
**12.25** Зона Х. Вынікі тыдня.
**12.55** «Гісторыі крымінальнага вышуку». Мастацка-публіцыстычны фільм.
**13.55** Заўтра - гэта мы!
**14.25** «Terra incognita. Беларусь невядомая».
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Клуб рэдактараў.
**16.15** Адмысловы рэпартаж АТН.
**16.35** Анімацыйны фільм «Угару» (ЗША).
**18.15** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**19.15** Прэм'ера! Рамантычная камедыя «Два дні» (Расія).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Прэм'ера! Дэтэктыўны трылер «Крумкач» (ЗША).
**00.30** Сямейная камедыя «Ластаўчына гняздо» (Украіна). 5-8-я серыі.

### НТВ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** «Вясельны перапалох».
**12.25** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**13.25** «Муслім Магамаеў. Сэрца на снезе».
**14.25** «Муслім Магамаеў. «Ты мая мелодыя».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. «Куб».
**17.35** «Эстрадны кактэйль».
**18.50** «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** Прэм'ера сезону. «Ледавіковы перыяд».
**00.10** Прыгодніцкі фільм «Моцны арэшак 4».

### СТВ

**06.00** «Салдаты». Серыял.
**07.45** Фільм «Вы не пакінеце мяне». Расія.
**09.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Ліда.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Люстэрка для героя». СССР, 1987 г.
**15.10** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік. Гародня.
**17.00** «Аўтапанарама».
**17.20** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.50** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень».
**20.40** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**21.15** Фільм «Каханне: Інструкцыя па ўжыванні». Італія, 2011г.
**23.40** Фільм «Залатая моладзь». Вялікабрытанія, 2003 г.
**01.35** «Якія людзі!».

### Беларусь 2

**07.50** Мультфільмы.
**08.25** Фільм-казка «Прынц і жабрак» (СССР).
**09.45** Пазакласная гадзіна.
**10.05** Тэлебарометр.
**10.10** Камедыйная меладрама «Больш, чым сябар» (ЗША).
**12.15** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Агляд тура.
**13.10** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**14.30** Тэніс. Турнір ВТА. Пекін. Жанчыны. Фінал. Прамая трансляцыя.
**16.30** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**17.05** Сацыяльная драма «Каліна чырвоная» (СССР).
**19.15** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Камедыя «Запавет» (Сербія-Францыя).
**23.35** Спорт-кадр.
**00.15** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Таямніца душы».
**08.35** «Васіль Быкаў. Франтавыя старонкі». Дакументальны фільм.
**09.10** «Міхаіл Пташук». Дакументальны фільм памяці беларускага кінарэжысёра.
**09.30** Шчырыя прызнанні Дз.Смольскага». Дакументальны фільм.
**10.05** «Карані». Беларускае мястэчкам Адэльск, што знаходзіцца на мяжы з Польшчай.
**10.30** «Мінск. Таемная вайна». Дак. фільм.
**11.00** «Дзень настаўніка». Дак. фільм.
**11.30** «Чэліні: злачыннае жыццё». Гістарычная драма. 1-я - 3-я серыі.
**15.35** «Без права на дубль». «Прадчуванне смерці. Васіль Шукшын».
**16.20** «Культпрасвет».
**16.45** «Культпрасвет. Спецвыпуск». Фестываль Юрыя Башмета.
**17.05** «Выкрасці Бельмандо». Эксцэнтрычная камедыя.
**18.50** Сусветнае кіно. «Дзякуй за шакалад». Экранізацыя рамана Шарлоты Армстранг «Шакаладная павуціна».
**20.30** Калыханка.
**20.45** «Культпрасвет. Спецвыпуск». Фестываль Юрыя Башмета.
**21.00** Урачыстае адкрыццё VIII Міжнароднага фестывалю Юрыя Башмета. Камерны ансамбль «Салісты Масквы».
**22.15** «Культпрасвет».
**22.40** «Дзядзя Ваня». Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра ім. Я.Коласа.
**01.10** «Калейдаскоп».

### Россия

**07.00** «Павязе ў каханні» (2012 г.).
**10.10** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весці.
**11.15** «Смехапанарама Яўгенія Петрасяна».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.20** «Маша і мядзведзь». Мультфільм.
**12.40** «Той самы Мюнхгаўзен» (1979 г.). 2-я серыя.
**14.00** Весці.
**14.15** «Ха». Маленькія камедыі.
**14.35** «Вясковая гісторыя» (2012 г.).
**18.10** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весці тыдні.
**21.25** «Наша выйсце!».
**23.10** «Нядзельны вечар з Уладзімірам Салаўёвым».

### МИР

**05.00** М/ф «Формула вясёлкі».
**06.20** Мультфільмы.
**08.05** «Ведаем рускую».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Зямля і неба».
**09.35** «Прыгоды Македонскай».
**09.50** «Са свету па нітцы».
**10.10, 23.30** М/ф «Атыдзі».
**13.20** М/ф «Ферыдэ».
**15.10** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**15.45, 21.00** Т/с «Застава Жыліна».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.30** М/ф «Аднойчы ў правінцыі».
**02.40** М/ф «Прывітанне з узбярэжжа».
**04.40** «Даведнік».

### Белсат

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Матыльда», «Прыгоды і паходы».
**07.40** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял: 5 серыя.
**08.05** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 5 серыя.
**08.30** Без межаў.
**08.45** Беларусы ў Польшчы.
**09.00** Чорным па белым.
**09.30** Рэпартэр.
**09.55** «Прыгоды пана Міхала», тэлесерыял: 5 серыя.
**10.25** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.55** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**11.05** Спазнай свет: «Размовы з конямі», дак. фільм, Канада.
**11.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**11.50** «Бландзінка», серыял: 8 серыя.
**12.35** МакраФон: «Be Free–2008», фестываль: выступы гуртоў «Ху4» і «IQ48».
**13.10** «Да смерці трэба пасьпець, дэтэктыў, 2010 г., Канада.
**14.35** «Аргентынскі ўрок», дак. фільм, 2011 г., Польшча.
**15.35** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**15.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**16.10** Невядомая Беларусь: «Проклятыя і забытыя», дак. фільм, 2013 г., Беларусь: ч. 2.
**16.45** Без рэтушы: «Радаводны знак», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**17.10** «Норд-Ост. Тэатр смерці», дак. фільм, 2003 г., Польшча.
**18.25** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**18.40** Забавы «Ліпі і Мэсі».
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі».
**19.00** «Час гонару», серыял: 54 серыя.
**19.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.00** Дакументальная гадзіна: «Рабінзоны Мантсінсаары», дак. фільм, 2008 г., Беларусь–Германія–Фінляндыя–Францыя.
**21.00** Два на два (тэледыскусія).
**21.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**22.00** Фільматэка майстроў: «Падстаноўка, Нью-Ёрк», постмадэрная драма, 2008 г., ЗША.
**00.05** «Палітыканы», серыял: 6 серыя.
**00.50** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 38.
**01.20** Два на два (тэледыскусія).
**01.45** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 930 79 22, Міхась
Бабруйск: (8 029) 628 75 01, Вольга
Мінск: (8 029) 178 31 68, Вольга
Слуцк: (8 029) 364 42 60, Зінаіда
Гомель (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 __________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб.

Дзякуй вам за падтрымку!

«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл: (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ________
Всего ________

Кассир

ПРАБЛЕМА

# БЯСПЕКА ВЕНГРЫІ ПАД ПАГРОЗАЙ

Аксана КОЛБ

**Венгерскі ўрад Віктара Орбана збіраецца рэканструяваць і пашырыць АЭС «Пакш» з дапамогай «Расатама». Апазіцыя лічыць, што такі крок паставіць пад пагрозу ўсю энергетычную бяспеку краіны.**

На тэрыторыі Венгрыі дзейнічае адна АЭС, за 100 кіламетраў ад Будапешта і за 5 кіламетраў ад горада Пакш. Чатыры энергаблокі АЭС «Пакш», збудаванай па савецкаму праекту, былі ўведзены ў эксплуатацыю з 1983 па 1987 гады. Фактычна з пачатку 2000-х гадоў «Расатам» лабіруе будаўніцтва яшчэ двух энергаблокаў. І вось зараз, здаецца, наблізіўся да мэты. У будаўніцтва расійскія атамшчыкі збіраюцца ўкласці боль за 12 мільярдаў долараў.

Венгерская апазіцыя вельмі занепакоеная гэтымі планамі. І справа не толькі ў экалагічных пытаннях. Перш за ўсё, яе турбуюць пытанні энергетычнай залежнасці Венгрыі ад Расіі. Пра тое, наколькі цесна пераплятаецца палітыка і экалогія, мы размаўляем з лідарам нядаўна створанай экалагічнай партыі «Дыялог для Венгрыі», дэпутатам парламента Венгрыі Яварам Бенэдэкам.

— Экалогія і палітыка ў некаторых пытаннях вельмі шчыльна пераплятаюцца. Пашырэнне Пакшскай атамнай станцыі — якраз адно з такіх. «Фідэс» (правячая партыя прэм'ера Віктара Орбана — аўт.) падтрымлівае гэта пашырэнне, што не адпавядае перш за ўсё экалагічным інтарэсам нашай краіны. Да таго ж з-за гэтага сыходзяць на задні план пытанні энергаэфектыўнасці і падтрымкі ўзнаўляльных крыніц энергіі. Гэтыя пытанні цалкам выпалі з венгерскай энергетычнай палітыкі.

Акрамя таго, у Венгрыі няма грошай на гэта пашырэнне. Грошы прапаноўвае Расія, што паставіць нас у яшчэ большую ад яе залежнасць. Венгрыя і так ужо вельмі моцна залежыць ад Расіі з-за паставак газу, і калі «Пакш», які дае 40% энергіі, таксама патрапіць пад расійскі ўплыў, гэта значыць поўную здачу венгерскага энергетычнага сектара Расіі, што ўяўляе сабой геапалітычную пагрозу. Зараз урад нібыта аб'явіў тэндар на пашырэнне АЭС, але ніхто не сумняваецца, што яго выйграе Расія, а не Францыя ці Паўднёвая Карэя.

***— У Беларусі вельмі падобныя праблемы. «Расатам» выйграў тэндар на будаўніцтва ў нашай краіне АЭС. Мы цалкам залежым ад паставак расійскага газа, а пасля будаўніцтва АЭС яшчэ будзем залежыць і ад паставак ядзернага паліва. Наколькі я ведаю, на АЭС «Пакш» паліва таксама пастаўляецца з Расіі.***

— Я ўпэўнены, што дамова пра пашырэнне пакшскай станцыі з'яўляецца часткай нашмат большай палітычнай і дзелавой дамовы, уключаючы доўгатэрміновыя газавыя кантракты, «Паўднёвы паток», пастаўку расійскага газу на еўрапейскі рынак з выкарыстаннем венгерскіх стратэгічных газавых сховішчаў. З дапамогай гэтага Газпрам мог бы стварыць тут сваю базу, каб адсюль уплываць на еўрапейскія рынкі. Гэта ўсё — частка дамовы, я ў гэтым упэўнены, гэтак жа, як і вываз радыеактыўных адыходаў. У планы ўрада ўваходзіць нашмат больш цеснае эканамічнае, энергетычнае і палітычнае супрацоўніцтва. Калі ў плане вывазу адыходаў з рускімі не будзе дамовы, то такое сховішча павінна будаваць Венгрыя, што з'яўляецца вельмі дарагім укладаннем. Таму ўрад будзе рабіць усё для таго, каб пазбегнуць гэтых выдаткаў. На сённяшні дзень ужо існуе дамова аб вывазе ядзернага паліва, сапсаванага падчас аварыі ў 2003 годзе. Яно пакуль знаходзіцца ў нашых часовых сховішчах.

***— Якія крокі робіць венгерская апазіцыя, каб не дапусціць пашырэнне АЭС. Ці існуе магчымасць процідзеяння гэтым планам урада?***

— Урад Віктара Орбана імкнецца абмяркоўваць гэта пытанне як мага менш, каб у грамадстве пра гэта не вялося ніякіх дыскусій. Да таго ж Пакшская АЭС з'яўляецца вельмі важным і актыўным рэкламадаўцам на венгерскім медыя-рынку, таму не варта чакаць актыўнага абмеркавання праблем АЭС у масс-медыя. Тыя выданні, якія стануць публікаваць антыатамныя меркаванні, не атрымаюць рэкламу ад гэтага рэкламадаўцы. А гэта вельмі істотна ва ўмовах крызісу.

Нягледзячы на гэта, у апошнія гады мы рабілі грамадскія апытанні, з якіх вынікае, што вялікая частка насельніцтва супраць пашырэння атамнай станцыі. Гэтак жа, як і супраць падаўжэння жыццёвага цыклу старых блокаў. Тым больш, што ўжо адбылося некалькі непрыемных інцыдэнтаў на АЭС.

***— Вы ўзгадалі праект «Паўднёвы паток». У той час, як Еўропа імкнецца паменшыць уплыў Расіі на энергетычным рынку, Венгрыі сваім удзелам у гэтым праекце фактычна падкладвае свінню. Асабліва, калі ўлічыць, што ваша краіна адмовілася ад удзелу ў праекце «Набука». Ці можа ЕС хоць неяк паўплываць на пазіцыю Венгрыі?***

— Энергетыка належыць да сферы ўнутрыдзяржаўнай палітыкі, і Еўрасаюз у гэта не ўмешваецца. На еўрапейскім узроўні ёсць імкненне да таго, каб сінхранізаваць энергетычную палітыку асобных краін-чальцоў і пабудаваць еўрапейскія рамкі. ЕС можа толькі стымуляваць нейкія працэсы. Напрыклад, выдзяляць грошы ў падтрымку аднаўляльных крыніц энергіі ці падтрымліваць энергаэфектыўнасць. Зразумела, у атамную энергетыку ЕС інвеставаць не будзе, але і наўпрост забараняць удзел у такіх праектах не можа. Гэтак жа, як і не можа забараніць Венгрыі ўдзельнічаць у «Паўднёвым патоку».

У Венгрыі магла б быць магчымасць больш шчыльнага супрацоўніцтва на рэгіянальным узроўні. Напрыклад, з Вышаградскімі краінамі і з прыцягненнем Аўстрыі і Харватыі можна было б пабудаваць вельмі плённае супрацоўніцтва. Але ў гэтым мы не бачым волі ўрада.

Венгерскі ўрад у апошнія гады галоўным чынам вядзе інтравертную палітыку. Віктар Орбан увесь час кажа пра энергетычную самадастатковасць, пра нежаданне залежыць ад іншых краін. Але пры гэтым ставіць Венгрыю ў залежнасць ад Расіі.

***— Апошнім часам ЕС усё часцей крытыкуе ўлады Венгрыі за адыход ад дэмакратычных стандартаў, за імкненне да аўтарытарызму. У 2014 годзе вашу краіну чакаюць парламенцкія выбары. Зараз сфармаваная выбарчая кааліцыя «Разам 2014», але не ўсе апазіцыйныя партыі ў яе ўвайшлі. Не абышлося без страт і ў зялёным руху. Наколькі я ведаю, вы выйшлі з партыі LMP («Палітыка можа быць іншай») і стварылі партыю «Дыялог для Венгрыі». З чым гэта звязана?***

— У выніку кіравання партыі «Фідэс» Венгрыя апынулася перад нашмат больш сур'ёзным стратэгічным і геапалітычным выбарам, чым мы думалі раней. «Фідэс» паставіла пад пытанне створаную дэмакратычную структуру, сістэму тармазоў і проціваг, сістэму палітычных інстытутаў, еўрапейскую прыхільнасць Венгрыі і геапалітычную арыентацыю.

У нас стаяў выбар — ці проста не прымаць да ўвагі гэтыя палітычныя змены і працягваць тую палітыку, якую мы планавалі ў 2010 годзе, ці сустрэцца тварам да твару з той палітычнай адказнасцю за гэтыя змены, якія канфліктуюць з каштоўнасцямі зялёнай палітыкі, і паспрабаваць спыніць гэты ўрад. Гэты канфлікт выбару прывёў да расколу нашай партыі. Адна палова партыі лічыла, што нельга супрацоўнічаць з іншымі партыямі апазіцыі (гаворка пра Сацыялістычную партыю Венгрыі, з якой лідар партыі «Палітыка можа быць іншай» Андраш Шыфер не хоча супрацоўнічаць ні пры якіх умовах — аўт). Іншая палова, да якой належу і я, думала, што наша адказнасць у гэтай сітуацыі заключаецца ў тым, каб знайсці кропкі магчымага супрацоўніцтва з іншымі дэмакратычнымі партыямі, для таго, каб у 2014 годзе мы змаглі б змяніць дадзены ўрад.

За апошнія 3 гады спынілася падтрымка зялёных ідэй ва ўрадзе, расфармавалі незалежнае міністэрства па экалогіі, зараз выходзіць шэраг законаў, якія сур'ёзна негатыўна ўплываюць на экалагічныя інтарэсы. Мы лічым, што ў такой сістэме няма магчымасці прадстаўляць інтарэсы незалежнай зялёнай палітыкі. У нас хапае экалагічных праблем (ахова лясоў, праблема Дуная, спрэчныя пытанні са Славакіяй з-за змены рэчышча Дуная і з Румыніяй з-за здабычы золата). Але спачатку трэба спыніць праўленне «Фідэс», і толькі пасля гэтага якая-небудзь палітычная сіла зможа прадстаўляць інтарэсы зялёнай палітыкі.



Венгерская АЭС «Пакш»

Фота atomeromu.hu

10 красавіка 2003 года пры правядзенні планавых рамонтных прац на 1-м блоку АЭС «Пакш» адбылося пашкоджанне абалонкі цеплавылучальных зборак пры правядзенні хімічнай ачысткі іх паверхні ў адмысловым баку, па тэхналогіі кампаніі AREVA. Перавышаючага дапушчальных узровень забруджвання аб'ектаў навакольнага асяроддзя за мяжой прамысловай пляцоўкі АЭС зафіксавана не было. Інцыдэнту быў прысвоены 3-і ўзровень па міжнароднай шкале ядзерных інцыдэнтаў. Аднаўленчыя работы доўжыліся 3,5 гады.

20 студзеня 2005 года на АЭС «Пакш» адбыўся пажар. У лепшых традыцыях Чарнобыля, кіраўніцтва АЭС паведаміла пра факт узгарання толькі праз 4 дні. Па словах генеральнага дырэктара «Пакш», пажар не ўяўляў пагрозы для бяспекі працы электрастанцыі, выкіду радыеактыўных рэчываў не было. Таксама не пацярпеў ніхто з працаўнікоў АЭС.

3 верасня 2011 года, па інфармацыі аддзялення сейсмалогіі Акадэміі навук Венгрыі, у 9.30 на адлегласці 8–10 кіламетраў на поўнач ад горада Пакш адбыўся землятрус. Эпіцэнтр землятрусу знаходзіўся на глыбіні 10 кіламетраў, сіла не перавысіла 2,8 бала па шкале Рыхтара.



Фота аўтара

**Явар Бенэдэк, біёлаг, эколаг, палітык, дэпутат**

Нарадзіўся 2 ліпеня 1972 года ў Будапешце. У 1997 годзе атрымаў ступень магістра на біялагічным факультэце Універсітэта Этвоша Лорана. У 2006 годзе атрымаў ступень доктара філасофіі ў гэтым жа ўніверсітэце. У 2000 годзе быў адным з заснавальнікаў экалагічнага НДА «Абараніць будучыню». У 2009-м — адзін з заснавальнікаў і прэс-сакратар партыі LMP («Палітыка можа быць іншай»). У 2012 годзе стаў лідарам фракцыі LMP у парламенце. Пасля таго, як на з'ездзе партыі ў лістападзе 2012 года было прынята рашэнне не ўваходзіць у выбарчую кааліцыю «Разам 2014», сышоў з пасады лідара фракцыі. Разам з яшчэ 8 дэпутатамі ад зялёных стварыў сваю групу ў парламенце. У лютым 2013 года, прайшоў з'езд новай партыі «Дыялог для Венгрыі», Явар Бенэдэк стаў яе сустаршынёй. У сакавіку 2013 «Дыялог для Венгрыі» ўступіў у кааліцыю «Разам 2014».

## Для даведкі:

Паліва на АЭС «Пакш» пастаўляе дачка «Расатаму» кампанія «ТВЭЛ». Па дамове, расійскі бок ажыццяўляе і вяртанне адпрацаванага ядзернага паліва. Дамова, падпісаная 4 чэрвеня 2008 года паміж ААТ «ТВЭЛ» і АЭС «Пакш», тычыцца паставак прафіляванага ўран-гадалініевага паліва другога пакалення. Канструкцыя ўран-гадаланіевага паліва дазваляе эксплуатаваць венгерскія энергаблокі на падвышанай да 108% (1485 Мвт.) цеплавой магутнасці, пры гэтым прыкладна на 12%. Кантракт паміж ААТ «ТВЭЛ» і АЭС «Пакш» на пастаўкі ядзернага паліва быў падпісаны ў 1999 годзе з тэрмінам дзеяння да канца эксплуатацыі атамнай станцыі.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗІМБАБВЕ. МІКІ МАЎС СТАНЕ МІКІ МУГАБЭ




Сапраўдны шок ва ўсім свеце выклікала рашэнне ўладаў Зімбабве ўкласці 300 мільёнаў долараў у стварэнне ў краіне свайго парка Дыснэйлэнд. Прычына такой бурнай рэакцыі ў тым, што Зімбабве — адна з самых бедных краінаў на планеце, у якой да таго ж даўно склалася класічная дыктатура (Роберт Мугабэ пераабіраецца прэзідэнтам з пачатку 1980-х гадоў і нядаўна пайшоў на сёмы тэрмін). Самі ўлады кажуць, што новы аб'ект дазволіць прыцягнуць турыстаў з Еўропы, што выклікае дружны смех на старонках еўрапейскай прэсы. Усе прыгадваюць, як Мугабэ не так даўно з дапамогай тэрору прымушаў тых жа белых фермераў пакідаць краіну. Дарэчы, сам парк плануецца пабудаваць на 200 гектарах зямлі, канфіскаваных у трох белых фермераў. Аднак скептыцызм не замінае прэсе спекуляваць наконт таго, якія персанажы можна будзе пабачыць у новым парку. Шмат хто жартуе, што прэзідэнт Мугабэ, вядомы сваім нарцысізмам, не ўтрымаецца і абавязкова перайменуе Мікі Маўса ў Мікі Мугабэ.

**Паводле прэсы Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі**

### МАЛДОВА. РАСІЯ НЕ ПУСКАЕ Ў ЕС

Падобна, што Масква пачала актыўную фазу ціску на Малдову з мэтай не дапусціць падпісання Дамовы аб асацыяцыі з Еўрасаюзам. Малдаўская прэса піша, што прыкладна за пару тыдняў з Расіі дэпартавалі каля тысячы малдаўскіх гастарбайтараў. Больш таго, на ўсіх памежных пунктах, быццам, таксама ідзе фільтрацыя малдаўскіх працоўных, якіх проста здымаюць з транспарту па розных падставах. Атрымаўшы ў пашпарце пячатку з надпісам «дэпорт», малдаўскі грамадзянін пазбаўляецца права наведаць Расію на працягу 5 гадоў. Тое, што адначасова забаранілі продаж у Расіі малдаўскіх вінаў, сведчыць, што аперацыя супраць гастарбайтараў з Малдовы невыпадковая. Між тым, Міхаіл Фармузал, прарасійскі палітык і лідар Гагаузскай аўтаноміі, палохае суайчыннікаў тым, што наступным крокам расійскіх уладаў стане паляванне на тых малдаван, хто праўдамі і няпраўдамі ўжо неяк легалізаваўся ў Расіі. У выніку аперацыі на радзіму, па яго словах, могуць вярнуцца каля 400 тысяч чалавек, што можа пацягнуць за сабой вялікія палітычныя праблемы для ўлады, якая вядзе краіну ў ЕС.

**Паводле малдаўскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. ДЭПУТАТУ ЗАБАРАНІЛІ НАСІЦЬ МАЙКУ

Незвычайны скандал мае месца ў зямельным парламенце Саксоніі, дзе ёсць фракцыя правай радыкальнай партыі «Нацыянал-дэмакраты» (NPD). Менавіта сябра дэпутацкай групы NPD Андрэас Штор быў пазбаўлены права прысутнічаць на трох пленарных сесіях пасля таго, як паспрабаваў прайсці ў будынак парламенту ў майцы з надпісам «Thor Steinar». «Thor Steinar» — назва фірмы, прадукцыю якой носяць, як правіла, неанацысты. Пра гэта ведае далёка не кожны чалавек. Але ведаў спікер саксонскага парламента, які прадстаўляе партыю хрысціянскіх дэмакратаў. Ён і ўзняў пытанне аб санкцыях супраць Андрэаса і атрымаў падтрымку большасці дэпутацкага корпусу. NPD, у сваю чаргу, заявіла, што гаворка ідзе пра парушэнне права грамадзяніна насіць адзенне на яго густ. Пасля таго, як спікер адмовіўся мяняць папярэдняе рашэнне, сябры фракцыі NPD, каб давесці абсурднасць сітуацыі, прапанавала парламенту ўвесці абавязковую цэнзуру ўсіх блюдаў у парламенцкай сталоўцы. Нацыянал-дэмакраты таксама абяцаюць звярнуцца ў Канстытуцыйны суд. На думку іх апанентаў, кіраўніцтва парламенту паступіла правільна, паколькі лейбл «Thor Steinar» мог трапіць на вочы спецыялістам па барацьбе з правым экстрэмізмам, і скандал быў бы яшчэ больш маштабным.

**Паводле нямецкай прэсы**

### УКРАІНА. ЯНУКОВІЧ НЕ ЛЮБІЦЬ ПАРТЫЗАН

У Кіеве напаляюцца эмоцыі вакол фігуры Сідара Каўпака — напэўна, самага вядомага прасавецкага ўкраінскага партызана часоў Другой сусветнай вайны. У 1943 годзе яго атрад прайшоў амаль 2000 кіламетраў з Сумскай вобласці да Карпат, што спецыялісты па гісторыі партызанкі называюць феноменам. Тым больш дзіўна, што сёння Партыя рэгіёнаў адмаўляецца на дзяржаўным узроўні святкаваць 70-годдзе рэйду. Ініцыятыва была прадстаўлена на разгляд Вярхоўнай Рады яшчэ ў маі, аднак дастатковай колькасці галасоў у падтрымку пастановы не знайшлося. Не хапіла 15 галасоў менавіта з боку партыі ўлады. Пазней Партыя рэгіёнаў заваліла яшчэ адну спробу разгледзець пытанне. Цяпер шэраг грамадскіх арганізацый патрабуюць зноў вынесці пытанне на разгляд Рады, хаця ніякіх гарантый, што бела-сінія будуць галасаваць «за» няма. Адзіная версія таго, чаму Януковіч сабатуе Каўпака, — страх перад тым, што ўрачыстасці будуць выкарыстаны прарасійскай апазіцыяй для крытыкі дамовы аб будучай асацыяцыі Украіны і ЕС, якую ўкраінскі гарант павінен падпісаць у лістападзе. Сапраўды, сярод лабістаў юбілею — выключна панславянскія арганізацыі. Застаецца дадаць, што ў тым паходзе Каўпака ўдзельнічалі і беларусы з Палесся.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

---

ЧАЧЭНСКАЯ ТЭМА

# ПОМНІК ЯК КАТАЛІЗАТАР КАНФЛІКТУ

*Алег НОВІКАЎ*

**У Расіі разгараецца скандал вакол манумента чачэнскім жанчынам — удзельніцам вайны з Расійскай імперыяй.**



Манумент чачэнскім жанчынам уяўляе сабой кампазіцыю ў выглядзе горнага храбту, у сярэдзіне якой узвышаецца чачэнская баявая вежа. 16 верасня новы комплекс адчыніў асабіста Рамзан Кадыраў

У 1819 годзе падчас Каўказскай вайны генерал Аляксей Ярмолаў аддаў загад спаліць чачэнскае сяло Дадзі-Юрт. Каля тысячы чалавек, уключаючы ўсё мірнае насельніцтва, былі забітыя, а ў палон узялі 46 чачэнскіх жанчын. Апошнія пры пераходзе праз Церак сталі кідацца ў ваду, хапаючы з сабой канваіраў.

Гэта гісторыя стала часткай чачэнскага нацыянальнага міфу, і таму не дзіўна, што ўжо пры першых канвульсіях імперыі той гераічны ўчынак вырашылі ўзгадаць. Яшчэ за часамі Дудаева на месцы падзей узнік помнік у выглядзе кургана. Кадыраў 14 верасня (менавіта ў гэты дзень адбыўся штурм Дадзі-Юрта) абвясціў днём чачэнскай жанчыны. Мемарыял пачалі мадэрнізаваць. Цяпер манумент уяўляе сабою кампазіцыю ў выглядзе горнага храбту, у сярэдзіне якой узвышаецца чачэнская баявая вежа. 16 верасня новы комплекс адчыніў асабіста Рамзан Кадыраў.

Ніякіх выразных антырасійскіх фрагментаў яго спіч падчас адкрыцця комплексу не ўтрымліваў (Кадыраў казаў больш пра ролю жанчыны ў захаванні міру і гармоніі). Аднак расійская публіка пабачыла ў гэтым нахабны выклік. «Чачня адсвяткавала забойства расійскіх салдатаў», — матэрыял пад такой назвай выйшаў у адным з расійскіх выданняў.

Не адстае і Рунэт. «Лічу, што трэба высветліць, у што нам абыходзіцца ўтрыманне рэспублік Каўказа. Кожнаму падаткаплатніку. Што яны вырабляюць, акрамя левай гарэлкі і тэрарыстаў? І правесці рэферэндум. І хай там ставяць якія заўгодна помнікі: хоць Хатабу, хоць Гітлеру — што ім бліжэй. Але ЗА СВАЕ ЗАРОБЛЕНЫЯ ІМІ ГРОШЫ. Трэба глядзець рэальна. Грашовы струмень раскрадаецца. На гэтыя грошы можна добра ўмацаваць мяжу і забыцца, як пра страшны сон, пра знаходжанне гэтых народаў у складзе Расійскай дзяржавы. Лепш жалезная заслона, чым такое сяброўства», — выказвае думку большасці блогер пад нікам Малюта Скуратаў.

Вельмі рэдка, аднак можна знайсці і палюсную думку. «Гераізаваць Ярмолава могуць толькі маральныя і псіхічныя хворыя. Першая праблема Расіі — «дурні», і такога «дабра» заўсёды хапае ў Расіі. А Ярмолаў — усяго толькі злачынны салдафон, які выконваў загады злачыннай імперыі, які прайграў вайну на паўночным Каўказе. Па сутнасці, з-за яго тактыкі вайна на Каўказе працягвалася да краху Расійскай імперыі».

Сам Кадыраў, апраўдваючы свае ўчынкі, спасылаецца на нядаўна прынятыя з падачы тых жа «адзінаросаў» закон пра нарматывы патрыятычнага выхавання. Як кажа адзін з чачэнскіх гісторыкаў: «Гэта (помнік) — знак жаночай доблесці, мужнасці, вернасці нацыянальным традыцыям. Я не бачу тут нічога такога, з-за чаго можна паднімаць такую інфармацыйную буру. Калі прыйшлі войскі знішчыць насельніцтва, і яно сябе абараняла, што ў гэтым такога?»

У сувязі з чым уплывовае выданне «Аганёк» робіць сенсацыйную выснову: «Дзяржаўная стратэгія падгонкі гісторыі да патрыятызму абярнулася супраць Расіі».

«Аганёк» таксама заклікае тэрмінова перагледзець афіцыйныя канцэпцыі выкладання гісторыі, заснаваныя на прапагандзе патрыятызму. Альтэрнатывай, быццам, можа быць гістарыяграфія, якая адкрыта прызнае, што Расія вяла несправядлівыя каланіяльныя войны. Праўда, сам аўтар артыкулу лічыць, што такі падыход дастаткова прымітыўны. Па яго словах, нават у Францыі, дзе пры ўладзе сацыялісты, дзецям тлумачаць, што белы чалавек прынёс афрыканскім і азіяцкім народам цывілізацыю.

Другі варыянт, які прапануе «Аганёк»: «Адмова ад гісторыі Карамзіна, які слова «славянін» абавязкова выводзіў ад «славы», і пераход да сацыяльнай гісторыі Ключэўскага.

А пакуль для расійскіх патрыётаў навіны з Чачні сталі імпульсам для маштабнай мабілізацыі. Так, дэпутат Аляксей Жураўлёў (партыя «Радзіма» і сябра фракцыі «Адзінай Расіі») звярнуўся да генпракурора з заявай пра тое, што «помнік, узведзены забойцам рускіх салдатаў, з'яўляецца антырасійскай акцыяй уладаў Чачэнскай Рэспублікі і стане чарговай Меккай для радыкальных груповак Чачні». Калі верыць Жураўлёву, усхваленне гэтых дзеянняў (праслаўленне акту самазабойства жанчын) «дае глебу для вырошчвання насення экстрэмізму і сепаратысцкіх настрояў».

Яшчэ далей пайшлі сябры арганізацыі «Афіцэры Расіі». Яны звярнуліся да Пуціна з прапановай адкрыць помнік Ярмолаву ў Маскве. «Кадыраў адкрыў помнік жанчынам, якія забівалі рускіх салдатаў. Мы павінны ўзгадаць пра прычыны прыходу генерала Ярмолава ў Дадзі-Юрт у 1819 годзе. Гэта была адэкватная рэакцыя на напады чачэнцаў», — кажа адзін з кіраўнікоў афіцэраў.

«Гэта (Дадзі-Юрт) было такое цалкам пэўнае разбойніцкае гняздо, якое вылучалася сваім разбойным норавам і сваімі набегамі нават сярод чачэнскіх паселішчаў. Не трэба думаць, што гаворка ідзе пра мірнае паселішча, якое злыя рускія імперыялісты прыйшлі і разрабавалі. Гэта была экспедыцыя, як бы цяпер сказалі, на базу тэрарыстаў», — кажа адзін з лідараў нацыяналістычнай арганізацыі «Народны Сабор». Праўда, ён забывае працытаваць ліст Ярмолава, які лічыў неабходным правесці паказальную акцыю тэрору, каб запалохаць чачэнцаў.

Самае цікавае, што некаторыя расійскія правыя віталі ўчынак Рамзана Кадырава. Вось іх аргументацыя: «Чачэнцы сваю гістарычную праўду адстойваюць, узнімаюць і гераізуюць. Нам трэба рабіць гэтак жа. Трэба павучыцца ў Рамзана Кадырава — і зрабіць алею славы аж да помнікаў героям дзвюх апошніх чачэнскіх войнаў».

Між тым, эксперты прызнаюць, што з'яўленне такіх помнікаў у расійскай сталіцы стане крокам да эскалацыі міжнацыянальных адносін. Увогуле, сярод іх існуе думка, што выхадка Кадырава — гэта нейкая помста за з'яўленне ў Мінеральных Водах у 2008 годзе і ў Пяцігорску ў 2010-м помнікаў Аляксею Ярмолаву. Думаецца, што дэбаты наконт помніка яшчэ не закончаныя.

А напрыканцы варта ўзгадаць самую экзатычную пазіцыю, якую заняў вярхоўны атаман Саюза казакоў Расіі Павел Задарожны. Задарожны наогул сумняваецца ў сапраўднасці гісторыі з гераічнымі жанчынамі аула Дадзі-Юрт і прапануе стварыць спецыяльную камісію, якая даследуе гэтую тэму.

ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

# НЯСУМНЫЯ НАСТУПСТВЫ СУМНЫХ ВЫБАРАЎ

Алег НОВІКАЎ



**Практычна ўсе палітолагі назвалі мінулыя выбары ў Бундэстаг сумнымі. Аднак, як цяпер высвятляецца, сумныя выбары 22 верасня могуць цалкам змяніць нямецкі палітычны ландшафт.**

Хаця і тэзіс пра «сумнасць» выбараў таксама спрэчны. Выданне «Der Freitag» прааналізавала ўсе выбарчыя ролікі партый і прыйшло да высновы, што абсалютная большасць з іх утрымлівае іранічны кантэкст. Тое ж самае тычыцца і выбарчых плакатаў. Так, у берлінскім раёне Кройцбег у парламент ішоў адзін з «Зялёных», на агітацыйных матэрыялах якога было напісана: «Патрабую, каб было як мага больш АЭС». Зразумела, што гэта прыкол, аднак ён адразу кідаўся ў вочы на фоне паліткарэктных меседжаў іншых палітыкаў. У дадатак саміх палітыкаў часам таксама заносіла. Так, яшчэ адзін кандыдат ад «Зялёных» выявіў сябе на плакаце як Гамера Сімпсана. А нейкі хрысціянскі дэмакрат адлюстраваў сябе ў якасці добрага дзядзькі, які раздае дзецям планшэты.

Развесяліў публіку і кандыдат ад эсдэкаў Штайнбрук, паказаўшы ўсім непрыстойны жэст з першай паласы адной з газет. Гэтым унёсак СМІ ў тое, каб неяк разварушыць публіку, не абмежаваўся. «Чаму скрыня для галасавання называецца выбарчая ўрна? Адказ: таму, што ў старажытнай Грэцыі галасавалі з дапамогай урыны». Такога кшталту прыколы на выбарчую тэматыку напярэдадні 22 верасня публікавалі шматлікія нямецкія газеты. Адным словам, усе намагаліся неяк прынесці забаўны элемент у выбарчае шоў, галоўны вынік якога быў вядомы загадзя: германскім канцлерам застанецца Ангела Меркель.

Але пасля сумнай кампаніі ў нямецкай палітыцы нечакана стала сапраўды вельмі весела. Прахадныя па сваёй сутнасці выбары выклікалі тэктанічныя працэсы.

Перш за ўсё, пад сумнеў пастаўлена практыка прахаднога балу, якую прыдумалі бацькі-заснавальнікі ФРГ для таго, каб не паўтарыўся трагічны вопыт Веймару. Як вядома, у Веймарскай рэспубліцы ў Рэйхстагу быў прадстаўлены кангламерат розных партый. Адпаведна, створаныя кабінеты трымаліся нядоўга, што выклікала нестабільнасць у грамадстве і запыт на рэжым моцнай рукі. ФРГ, дзякуючы таму, што ў Бундэстаг трапляе партыя, якая атрымала 5 працэнтаў + 1 голас, такога феномену не ведала. Затое краіна ведае феномен, калі выбаршчыкі малых партый аказваюцца не прадстаўлены ў палітычных інстытутах.

Выбары–2013 паставілі рэкорд у гэтым плане. У наноў абраным Бундэстагу не будзе прадстаўлена думка 15 працэнтаў немцаў, якія 22 верасня падтрымалі палітычных «карлікаў». На старонках прэсы ўжо ідуць дэбаты пра неабходнасць знізіць прахадны бар'ер як мінімум да трох працэнтаў.

Па-другое, выбары паставілі крыж на старых амбіцыях сацыял-дэмакратаў (SPD), якія доўгі час называлі сябе «народнай партыяй», якая, быццам, здольная ледзь не самастойна займець у Бундэстагу дэпутацкую большасць. Атрымаўшы 26 працэнтаў, эсдэкі вымушаныя канстатаваць, што для стварэння кааліцыі пад іх кіраўніцтвам, акрамя «Зялёных», ім патрэбны яшчэ адзін партнёр.

Выбар невялікі. Трэба гандлявацца з партыяй «Левыя» — прадуктам сінтэзу былых камуністаў ГДР і левай фракцыі SPD, якая выйшла з партыі. Эсдэкі ў свой час наклалі табу на дэбаты на гэтую тэму. Аднак выбары 2013 года гэта парушылі. Пра магчымасць чырвона-ружова-зялёнай кааліцыі падчас кампаніі казалі не толькі палітолагі, аднак і самі сацыял-дэмакраты. Сімвалічную кропку ў гэтых дэбатах паставіў асабіста Штайнбрук. За дзень да галасавання ён не выключыў, што да 2017 года (год наступных выбараў у Бундэстаг) яго аднапартыйцы цалкам даспеюць да ідэі кааліцыі з «Левымі».

Што тычыцца «Левых», то яны сталі трэцяй партыяй у ФРГ, хаця і згубілі пару працэнтаў. Ужо сам гэты факт прымушае больш сур'ёзна ставіцца да «Левых». Між тым, яны пачалі цікавую гульню: выступаюць ініцыятарамі радыкальных сацыяльных законаў, якія вымушаны так ці інакш падтрымліваць «Зялёныя» і сацыял-дэмакраты, што яўна ўплывае на кааліцыйныя перамовы, якія вядзе цяпер з імі Ангела Меркель.

У сваю чаргу, кансерватары таксама вымушаны дэманстраваць ідэйную прынцыповасць. Прычына таму — уздым партыі «Альтэрнатыва для Германіі» (AfD), якая была створана ў сакавіку, аднак на першых жа выбарах узяла 4,6 працэнта. На думку экспертаў, трыумф AfD можа паўплываць на дыскурс унутры партыі Меркель. Нягледзячы на тое, што кансерватары крытыкавалі еўраскептыкаў, і нават падключылі да гэтага Касцёл, стрымаць папулістаў не ўдалося. Відавочна, што гэта рыторыка запатрабаваная часткай правага электарату, і CDU будзе вымушана таксама фліртаваць з антыеўрапейскімі лозунгамі. Пакуль цяжка сказаць, як гэта адгукнецца на ўсходнім вектары нямецкай палітыкі. Затое дакладна вядома, што Берлін будзе больш жорстка ставіцца да Грэцыі і Іспаніі.

Больш яснасці ўнясуць выбары ў Еўрапарламент. Лідар «Альтэрнатывы для Германіі» Бернд Люке ўжо паставіў перад партыяй напалеонаўскую задачу — атрымаць на іх 8 працэнтаў.

Не выключана, што абараняць нямецкія інтарэсы кінуцца і лібералы, якія з трэскам прайгралі выбары. Па статыстыцы, 440 тысяч выбаршчыкаў FDP перабеглі ў лагер «Альтэрнатывы для Германіі». Увогуле, свабодныя дэмакраты ўпершыню за 60 гадоў не будуць мець фракцыі, што дазваляе таксама аднесці выбары 2013 года да эпахальнай падзеі. Чакаецца адстаўка ўсяго кіраўніцтва і поўная перазагрузка праекту.

Нарэшце, нечаканыя вынікі выбары мелі для «Зялёных». Справа не столькі ў тым, што эколагі згубілі каля трох працэнтаў у параўнанні з мінулымі выбарамі. «Зялёным» прыкра, што год таму іх рэйтынг даходзіў да 27 працэнтаў. Некаторыя аналітыкі нават прагназавалі, што ў выпадку правалу Меркель, канцлерам стане лідар «Зялёных» Юрген Трыцін. Аднак менавіта яго кантакты з педафіламі ў 1980-я гады (пра гэта стала вядома літаральна за тыдзень да галасавання) падмачылі рэпутацыю эколагаў.

Канфуз Трыціна, на думку аналітыкаў, можа цалкам змяніць канфігурацыю ўнутры партыі. Паколькі Трыцін лічыўся ў партыі левым, яго правал — гэта і правал усёй левай фракцыі. На змену ім, відавочна, ідзе больш прагматычная групоўка, якая гатовая на перамовы з Меркель наконт уваходу ў склад яе ўраду. Пра гэта, між іншым, сведчыць адстаўка 24 верасня сустаршыні Клаўдзіі Рот, якая мела імідж жорсткага праціўніка хоць нейкага пагаднення з кансерватарамі.

Слабы вынік «Зялёных» і «Партыі піратаў», якія маюць імідж моладзевых пратэстных партый, звязаны яшчэ з адным цікавым аспектам. Моладзь, як высвятляецца, цяпер не любіць антысістэмных палітыкаў і ўсё больш сімпатызуе кансерватарам. Тут вялікую ролю гуляе сама асоба Ангелы Меркель. Яе палітычны стыль — дабівацца свайго праз тактычныя кампрамісы — шмат каму сярод моладзі вельмі падабаецца.

Як бачым, нямецкі палітыкум дынамічна мяняецца. Якой будзе формула нямецкай палітыкі пасля 22 верасня, пакуль цяжка сказаць. І перш за ўсё незразумелым застаецца фармат новай кааліцыі. Усе эксперты адзіныя ў тым, што нічога канкрэтнага прагназаваць нельга.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ПАЛІН МАРУА



Маруа — старшыня ўраду канадскай франкафоннай правінцыі Квебек, лідар левай нацыяналістычнай Квебекскай партыі. Урад Маруа прапанаваў на разгляд грамадства праект закона пра ідэнтычнасць квебекцаў. Галоўная фішка дакументу ў тым, што ён рэгламентуе нашэнне знакаў прыналежнасці да той ці іншай царкоўнай грамады. Перш за ўсе, гэта, натуральна, тычыцца каталіцкай атрыбутыкі, паколькі квебекцы ў абсалютнай большасці каталікі. Цяпер памер крыжу на адзенні павінен быць не большы за дазволены. Аўтары законапраекту кажуць, што каталіцызм зачыняе канал для інтэграцыі ў мясцовую камуну мігрантаў. Нягледзячы на тое, што партыя квебекцаў гатовая пакінуць у парламенце правінцыі каталіцкі крыж над прэзідыумам, апазіцыя рашуча супраць абмежавання на каталіцкую атрыбутыку. Яна кажа, што праект — копія шэрагу законаў Францыі, дзе, дарэчы, інтэграцыя мігрантаў таксама кульгае. Цікавая думка федэральнага ўраду ў гэтым канфлікце: Атава заявіла, што ў выпадку прыняцця закону яна будзе аспрэчваць яго праз Канстытуцыйны суд. На думку канадскага ўраду, кожны канадскі грамадзянін мае права знешне выказваць сваю прыналежнасць да той ці іншай рэлігіі.

### ВАЛДЗІС ДАМБРОЎСКІС



Прэм'ер-міністр Латвіі Дамброўскіс абвясціў, што навучанне ў рускіх школах у хуткім часе будзе весціся толькі на латышскай мове. Партыя прэм'ер-міністра «Адзінства» стварыла працоўную групу для распрацоўкі адпаведнага закона. Па задуме «Адзінства», праз два гады ў краіне не павінна застацца не толькі дзяржаўных рускіх школ, але і дзіцячых садкоў. Сябры гэтай партыі матывуюць свой праект жаданнем «дапамагчы рускім інтэгравацца ў грамадства», паколькі латышская мова з'яўляецца адзінай моваю зносін з дзяржорганамі. Адзін з аргументаў на карысць такога законапраекту — правал моўнай рэформы 2004 года, паводле якой пераход на латышскую мову мусіў быць паступовым. Працэнт рускамоўных знізіць не ўдалося, і пра яе забылі. Зрэшты, непапулярнай апынулася яшчэ ідэя надання рускай мове статусу дзяржаўнай. На рэферэндуме 2012 года «за» рускую мову прагаласавалі 24,88% грамадзян, а супраць — 74,8%. Цікава, што цяперашні праект будзе тычыцца толькі мовы навучання ў дзяржаўных школах. На прыватныя школы гэта не распаўсюджваецца. Сёння ў Латвіі існуе мноства прыватных навучальных устаноў, дзе выкладанне вядзецца толькі на рускай мове.

### АЙНІХОЛ БАБАНАЗАРАВА



Бабаназарава — юрыст, таджыкскі дэмакратычны актывіст, высунутая кандыдатам у прэзідэнты Таджыкістана ад вядучай апазіцыйнай Партыі ісламскага адраджэння Таджыкістана. З улікам таго, што Бабаназарава вядзе еўрапейскі лад жыцця, яе правал у такой традыцыйнай краіне, як Таджыкістан, — справа вырашаная. Таму галоўнае пытанне, якое ставяць эксперты: нашто ўвогуле апазіцыянерам было рабіць стаўку на такога палітыка? Ужо вядома, што некаторыя мулы адмаўляюцца агітаваць за такога ісламскага кандыдата. Самі апазіцыянеры кажуць, што выбары ў краіне — і так чыстая фармальнасць. Мала хто сумняваецца, што Эмамалі Рахмон застанецца прэзідэнтам. Таму кіраўніцтва партыі за кошт балацiроўкі Бабаназаравай хоча разбурыць негатыўны імідж партыі, які ствараюць дзяржаўныя медыя. Там ісламістаў малююць як новых талібаў, якія збіраюцца будаваць у Таджыкістане шарыяцкі халіфат. А вось удзел у выбарах праеўрапейскай жанчыны дае зразумець, што Партыя ісламістаў — дастаткова ўмераная і адэкватная. Акрамя таго, мужчыны — лідары апазіцыі — часцей аказваюцца за кратамі. Апошні раз такі выпадак адбыўся ў маі, калі ў турму кінулі аднаго з мясцовых бізнэсмэнаў, які фінансаваў апазіцыю. Аднак, думаецца, што ўлада наўрад ці проста так будзе глядзець на выбарчую кампанію Бабаназаравай і, напэўна, будзе шукаць на яе нейкі кампрамат.

ЦІКАВА

# ЗОЛАТА ГАСПАДАРОЎ БАРКОЎШЫНЫ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Паводле адных звестак, прадстаўнікі сям'і Печанко, што жылі на хутары Баркоўшына ў 70-х гадах XIX стагоддзя, знайшлі пад Мірам вялікі клад, які схавалі пры адступленні з Расіі напалеонаўскія войскі. Паводле іншай інфармацыі (і гэта, хутчэй за ўсё, праўда), нехта з роду Печанко з'ехаў у ЗША і здолеў зарабіць вялікія грошы, якія дазволілі стаць у Беларусі буйным землеўласнікам.**



Панцеляймон Печанко з жонкай, пачатак ХХ ст.



Прадстаўнікі сям'і Печанко ў Нью-Ёрку (ЗША)

У нашым распараджэнні ёсць унікальны здымак, зроблены ў тагачасным дарагім амерыканскім фотаатэлье «Paley», размешчаным на 141-й Дзівіжан Стрыт у Нью-Ёрку. На ім бачныя багата апранутыя маладыя мужчына і жанчына. ЗША далі магчымасць прадстаўнікам роду Печанко зарабіць вялікія грошы, аднак, відавочна, жаданне вярнуцца на Радзіму перамагло, і былы селянін вяртаецца ў Беларусь.

Спачатку ён купіў фальварак Асінаўка ў Мінскім павеце, у склад якога ўваходзілі буйныя лясныя масівы, ворныя землі, а таксама вялікі млын, які прыносіў прыбытак 200 рублёў серабром на год. Гэта былі велізарныя на той час грошы. Пра што казаць, калі на пачатак ХХ стагоддзя батон чорнага хлеба каштаваў 3 капейкі, белага — 7 капеек, а літр добрай гарэлкі — 12 капеек. У гэты ж час зарплата ўрачоў і настаўнікаў была 10–15 рублёў на месяц. І гэта лічылася добрым заробкам.

Потым у памешчыка Крупскага быў набыты фальварак Баркоўшына разам з вялікім зямельным надзелам, лесам і яшчэ адным млынам. Паступова гэтая сям'я ператварылася ў паспяховых прадстаўнікоў тагачаснага сярэдняга класу. Яны гандлявалі мукой, лесам, наймалі на працу мясцовых сялян.

## Рыжская мяжа

У 1919 годзе пачалася польска-бальшавіцкая вайна. Фронт рухаўся то на ўсход, то на захад. У сакавіку 1921 года паміж Другой Рэччу Паспалітай і Савецкай Расіяй была падпісана мірная дамова, якая зацвердзіла падзел Беларусі. Хутка пачалося вызначэнне дзяржаўнай мяжы.

Неўзабаве адмысловая польская памежная камісія з'явілася і ў раёне Рубяжэвічы — Коласава. Галава сям'і Панцеляймон Печанко, які да пачатку Першай сусветнай вайны здолеў стварыць паспяховую гаспадарку і быў зажытачным памешчыкам, безумоўна, разумеў, што ад бальшавікоў не варта чакаць дабрабыту і парадку. За часы кароткіх «нулявых саветаў» у 1919–1920 гадах ён пабачыў і камісараў, і расстрэлы «польскіх» паноў. А зараз пачуў, што яго фальваркі Баркоўшына і Асінаўка адыходзяць да Саветаў.



Адзін з сыноў Панцеляймона на службе ў Войску Польскім, 1935 г.

Дзяржаўная мяжа паміж Саўдэпіяй і Польшчай павінна была прайсці якраз на Захад ад Баркоўшыны. Для вырашэння гэтай праблемы Печанко выкарыстоўваюць вялікія грашовыя сродкі, якія ўдалося схаваць ад бальшавікоў. Панцеляймон прапануе прадстаўнікам памежнай камісіі правесці лінію дзяржаўнай мяжы так, каб Баркоўшына, а разам з ёй і вялікія лясныя ўгоддзі і ворныя землі засталіся на польскім баку.

Наўзамен беларускі памешчык прапануе палякам значную суму грошай у золаце. Памежныя камісары з арламі на шапках доўга не вагаліся, і дзяржаўную мяжу адцягнулі на Усход, тым больш што савецкі бок не выказваў ніякіх прэтэнзій. Ад Асінаўкі і млыну, што знаходзіўся там, Печанко давялося адмовіцца. На савецкім баку засталася і частка сваякоў. Адзін з іх, Кастусь Печанко, пазней будзе працаваць эканамістам у адной з сельскагаспадарчых арганізацый БССР. Апошнім яго месцам жыхарства быў Мінск. У верасні 1937 года Кастусь быў арыштаваны НКУС і, у адпаведнасці з прысудам «тройкі», за антысавецкую агітацыю быў прысуджаны да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу. Пра сумны лёс свайго сваяка Панцеляймон Печанко так ніколі і не даведаецца.

## За польскім часам

У Заходняй Беларусі сям'я Печанко зноў ператварылася ў прадстаўнікоў багатага сярэдняга класа. Адзін з сыноў Панцеляймона працаваў школьным настаўнікам, другі быў журналістам польскай газеты ў Нясвіжы. Яго дачка Валянціна вывучылася на акуліста і працавала спачатку ў Кракаве, а потым у мястэчку Хшанаў у Малапольшчы. Іншая дачка Лідзія скончыла Настаўніцкія курсы ў Нясвіжы і працавала настаўніцай.

Яшчэ двое сыноў Панцеляймона да службы ў Войску Польскім займаліся гаспадаркай у радавым цяпер ужо фальварку Баркоўшына. Паводле ўспамінаў мясцовых жыхароў, гэтыя людзі «не трымалі парабкаў» (не мелі пастаянных працоўных), а наймалі работнікаў з мясцовых вёсак. Да сялян прадстаўнікі сям'і Печанко ставіліся з павагай. За выкананую працу плацілі… золатам. Мясцовыя жыхары з зайздрасцю пазіралі на гэтую сям'ю, якая зрабіла хуткі скачок з адной сацыяльнай групы ў іншую.

Тады, магчыма, і з'явілася легенда пра «напалеонаўскі скарб», нібы знойдзены старым Печанко пад Мірам. Аднак нам падаецца, што залог поспеху беларускага селяніна палягаў у цяжкай працы ў ЗША, а пазней і ў Беларусі. А нават калі і было знойдзена нейкае золата, дык трэба было мець добры розум і працаздольнасць, каб прымножыць багацце.

У хаце Печанко заўсёды была зброя. Амаль за ваколіцай фальварка Баркоўшына ішла дзяржаўная мяжа. У 1920-х гадах з савецкага боку ў Польшчу часта наведваліся рознага кшталту «партызаны», якія нападалі на польскія дзяржаўныя ўстановы, паліцыю, памешчыкаў. З 1924 года зусім побач з фальваркам была збудавана памежная застава толькі што створанага польскага Корпуса аховы памежжа (КАП). Печанко таксама ўдзельнічалі ў фінансаванні будаўніцтва казармы для польскіх памежнікаў. Стражніца Баркоўшына ўваходзіла ў чацвёртую памежную роту (Рубяжэвічы) палка КАП «Сноў». Такое суседства ішло на карысць і памежнікам, і сям'і Печанко. З аднаго боку, палякі мелі падтрымку ў выглядзе патрыятычна і антыбальшавіцкі настроеных беларусаў, з іншага — гаспадары Баркоўшыны мелі своеасаблівую ахову.

Дарэчы, у адпаведнасці з інструкцыяй службы Корпусу аховы памежжа, падрыхтаванай у 1928 годзе, польскім памежнікам загадвалася дасканала ведаць усіх жыхароў памежных населеных пунктаў. Акрамя гэтага, памежнікам КАП прадпісвалася рабіць усё дзеля атрымання даверу з боку мясцовага насельніцтва, перш за ўсё не польскай нацыянальнасці. У дакуменце нават адзначалася, што «капісты» павінны былі дапамагаць мясцовым жыхарам у вырашэнні праблем з іншымі польскімі дзяржаўнымі структурамі. Цікавы факт: сярод дакументаў сям'і Печанко захаваўся здымак маладога польскага памежніка, які заляцаўся за адной з прадстаўніц гэтай сям'і. Аднак, мы, на жаль не ведаем, чым скончылася гэтая «love story».

Пра паспяховасць і багацце сям'і Печанко ў міжваеннае дваццацігоддзе сведчаць шматлікія нататкі ў Вільне і Навагрудку ў польскіх выданнях эканамічнай скіраванасці. Аднак у верасні 1939 года ўлада ў Заходняй Беларусі зноў змянілася.

## У гады Другой сусветнай

17 верасня 1939 года часткі савецкай Дзяржынскай коннамеханізаванай групы атакавалі польскія памежныя стражніцы на ўчастку палка КАП «Сноў». З-за колькаснай перавагі атакуючага боку польскія памежнікі вымушаны былі адступіць. Усталяванне савецкай улады ў Заходняй Беларусі прынесла вялікія змяненні ў жыцці сям'і Печанко. Амаль уся іх зямельная маёмасць была рэквізаваная, аднак саміх «памешчыкаў» не кранулі. У вакольных вёсках пагаворвалі, што сітуацыю зноў уратавала прыхаванае золата.

У чэрвені 1941 года на СССР напала Германія, і хутка Беларусь апынулася пад нямецкай акупацыяй. Адзін з сыноў Панцеляймона і пры немцах працягваў працаваць настаўнікам. Аднойчы ў яго хату завіталі савецкія партызаны. «Давай польскія афіцэрскія боты і іншую цёплую вопратку. Мы ведаем, у цябе ёсць», — сказаў адзін з народных мсціўцаў. Аднак замест вопраткі настаўнік дастаў пісталет і перастраляў гасцей з лесу. Пазней, у 1944-м, за гэты ўчынак савецкія ўлады асудзяць былога настаўніка на дваццаць пяць гадоў лагераў за «супрацу з ворагам». Дачка Панцеляймона Лідзія была замужам за прапаіерэм з Рубяжэвічаў. У пачатку 1950-х гадоў яна разам з мужам была сасланая на пасяленне ў Вяцкую вобласць РСФСР. На жаль, мы дакладна не ведаем пра лёс іншых членаў сям'і Печанко.

Мясцовыя старажылы расказвалі, што залатыя і сярэбраныя манеты, якімі расплачваліся памешчыкі Печанко са сваімі работнікамі, хадзілі па руках да 1960-х гадоў і былі галоўнай валютай у гэтай мясцовасці. Зараз ля Баркоўшыны можна сустрэць людзей з металашукальнікамі. Яны вераць у тое, што змогуць знайсці гаршчочак з залатымі чырвонцамі, схаваны беларускімі сялянамі Печанко.



4-я памежная рота КАП на свяце Божага цела ў Рубяжэвічах, 1938 г.

УСПАМІНЫ

# СВАЁЮ ПУЦЯВІНАЙ

## ПАДРАСТАЮЧЫ, ДОМА

**Арсень ЛІС**

**Працяг. Пачатак у №34, 35.**



У дзіцяча-падлеткавыя свае гады, акрамя наведвання Каралевіцы, дзе пад Кізікавымі дубамі ў імху можна было намацаць пару дзясяткаў маладых баравічкоў, я ўжо нешта непасрэдна дапамагаў у гаспадарцы. З дзесяці гадоў быў памочнікам бацьку пры нарыхтоўцы дроў на зіму. З вялікай ахвотай з-за таго, што яны мне лёгка паддаваліся, шчапаў бярозавыя ды сасновыя круглякі, якіх удваіх з бацькам пілой-двухручкай мы напілоўвалі, здавалася, цэлую гару. Паставіш роўненька на калодцы, размахнешся сякерай, гах — і кругляк з трэскам разлятаецца на палавінкі.

Конь у традыцыйным, аднаасобным жыцці селяніна значыў вельмі шмат. Ім абраблялася ніва — здзяйсняўся асноўны гаспадарчы клопат земляроба. Конь быў патрэбен пры ўсякай рабоце — без яго як без рук. Для вясковага падлетка конь таксама быў жывёлінкай значымай. За дзіцячую маю памяць коні ў вёсцы выпасваліся на пашы, як правіла, агароджанай. Толькі позняй восенню, калі зямлю схоплівау замаразак, коні пускаліся хадзіць свабодна. Не баяліся, што яны пашкодзяць руннаму полю, якое да таго часу падмярзала. Вольныя ад хамута, няспутаныя, яны звычайна разбрыдаліся далёка за аселіцу. Мы, падлеткі, мелі шчаслівы прывілей адшукаць заблукалых і прывесці кожны свайго каняку дамоў. Захапіўшы аброці, мы звычайна выпраўляліся сваёй невялікай грамадкай праз палі, сенажаці. Знаходзілі часцей за ўсё сваіх улюбёнцаў у нізіне, сярод кустоў, дзе заставалася яшчэ крыху густой няскошанай травы.

Узбіраліся на спіну кожны свайго канякі, што, папраўдзе, для малых было і не так проста, ды кіраваліся ў бок вёскі. Нярэдка здаралася, што нехта з кампаніі падбіваў пагалапаваць, рвануць на перагонкі. Пры гэтым не абыходзілася, каб нехта грахнуўся, асабліва, калі тыя выперадкі ляжалі між вялікіх кустоў, і патрабавалася ўменне ўвішна манеўраваць. Але, пэўна, большае задаваленне прыносіла ціхая, павольная язда. Тады можна было вальней пусціць у руках повад ад аброці, адхінуцца спіной назад, прылёгшы на конскую спіну. Калышачыся ў такт конскай хадзе, змірна-люба было глядзець у пазначанае ўжо зорамі вячэрняе неба. Дома чакала малых каняводаў нібы заслужаная ўжо вячэра, няхай не багатая, але ядомая апетытна.

У цэлым земляробскую граматy без націску з боку бацькоў засвойваў я ахвотна. Пры іншых сацыяльных умовах, можа, выйшаў бы на няхай сабе не вельмі самавітага, але, як бацька, прыстойнага гаспадара на зямлі. Яму пры няпростых умовах у даваеннай Польшчы ўдалося да сціплага прадзедаўскага надзелу парабка графа Агінскага дакупіць тры гектары зямлі (пры яе дарагавізне), пасадзіць новы, па другі бок вуліцы, сад за прэмію, атрыманую як удзельнік выстаўкі агародніны і садавіны ў Познані. Пачатак вайны — бацька ў першы дзень нападу гітлераўскай Германіі на Польшчу быў мабілізаваны на фронт — перашкодзіў яму рэалізаваць яшчэ дзве задумы: на ўзвышаным надзеле ў кутнім полі магаў пабудаваць вятрак. І яшчэ хацеў на неўжытковай частцы купленай зямлі выкапаць сажалку, каб мець сваю рыбу. Былі і іншыя задумкі...

Пры гэтым не пераставаў, хоць тое каштавала яму з маці маёй напружанай працы, займацца цяпліцамі, таварным агародніцтвам.

Летам кожную сераду бацькі, наладаваўшы воз смакавітым таварам, асабліва запатрабаванай месцічамі цвятной капустай, адпраўляліся канём у Смаргоні на рынак. Ад продажу перадусім гародніны і складаўся асноўны прыбытак гаспадаркі, а галоўнае — была забяспечана раскладзеная банкам на раты пагадовая выплата за куплю зямлі. Яна ж, радзімая, на той час каштавала вунь як нятанна.

У бацькі, як цяпер бачыцца мне, была такі прадпрымальніцкая жылка. Мусіць, пераняў ён яе ад свайго бацькі, майго дзеда Петрака. Таму ж, бедаку, давялося вельмі рана пачаць самому рупіцца ў жыцці. Маючы толькі сем год, дзед Пятрок застаўся круглым сіратой. Як здарылася тая трагедыя ў нашым родзе, я даведаўся з успамінаў-расповедаў бацькі.

Аднаго дня мой прадзед Андрэй з прабабкай Надзяй паехалі на рынак у Смаргоні, каб прадаць двух валоў. На той раз, як ніколі, пазніліся дамоў. Ажно нарэшце конь з санкамі стомленай ступой наблізіўся да варот і спыніўся з апушчанай галавой. З санак тым часам ніхто не падымаўся, не падаў голасу. У поцемках убачанае не адразу падавалася разуменню: на санях-развальнях ляжалі бацька і маці, абое нежывыя — забітыя.

Пазней стала вядома, як адбылося тое жахлівае здарэнне. Па дарозе ў Смаргоні, у лесе пад Ройкавым, жылі браты па прозвішчы Савасцей. Яны прыгледзелі, што на рынак кіраваліся людзі з нябедным таварам і вярталіся прыцемкам, шчаслівa збыўшы яго. Гвалтоўна напалі на стомленых, здарожаных, безабаронных людзей, адабралі выручку за прададзеных валоў. А каб пазбыцца ахвяраў і сведкаў свайго разбою, дзіка замардавалі абаіх. Зарэзаных укінулі ў сані з надзеяй, што конь адвязе трупы далей ад месца нападу, і тым будуць заблытаны сляды ўчыненага злачынства.

***

Ураз асірацеламу Андрэеваму сыну сваякі не далі прапасці. Хлопец рос і дужаў у рознай сялянскай працы. Рана навучыўся касіць, араць, сеяць. Маладым ажаніўся. Узяў за жонку Прузынку Будвісішку, дачку гуменніка з маёнтка графа Агінскага. Удваіх яны дружна загаспадарылі на бацькоўскім надзеле, выдзеленым Андрэю Лісу, былому парабку Агінскага, пры адмене прыгону. Малады гаспадар пераабсталяваў бацькаву хату, выбудаваў новае гумно, як на батрацкі надзел у тры гектары, дык і надта вялікае. Лес быў побач, на Букараве, — толькі не лянуйся. Маючы сілы, Пятрусь нацягаў драўніны лічы на сабе, саматугам. Праўда, далося тое ня лёгка. Расшырыў лёгкія, з'явілася ранняя аддышка. Але лішне прыслухвацца да здароўя не выпадала.



Дзед Пятрок (крайні злева), яшчэ далёка не дзед, а малады бацька з малымі сынамі. На руках у яго — Сяргей, будучы бацька Арсеня Ліса. 1916 год



Арсень Ліс у 7-м класе, па цэнтры ў першым шэрагу. 1948 год

Адно па адным нараджаліся дзеці: ажно тры сыны і дачка. Трэба было рупіцца. Сям'я прыбывала, большала, а зямлі той малавата, і каб неяк даваць рады людскага бытавання, трэба было шукаць нейкага пабочнага прыбытку. Пятрок махнуў рукой на тое, што яго задумка патрабуе не сялянскага досціпу і спрыту, узяў ды адчыніў лаўку. Па праўдзе кажучы, адразу і лаўкай тое назваць не надта выпадала. Папросту прарэзаў у задняй сцяне істопкі акно, вылучыў унутры яе на некалькі метраў прастору, дзе ўладкаваў стол, а па баках усталяваў паліцы пад тавар. Паехаў возам у Маладзечна, бо бліжэйшыя Смаргоні на той час былі адрэзаны руска-германскім фронтам, што стаяў тут нязрушна трэці год, закупіў селядцоў, мыла, солі, табакі, запалак, і пачаў, не ўрокам кажучы, купчаваць.

Аднавяскоўцы сустрэлі тую Пётраву навіну па-рознаму: хто з цікавасцю, хто з усмешкай, а хто і шчыра-зычліва — патрэбныя рэчы цяпер можна было знайсці, што называецца, пад рукой. У лаўку сталі заглядаць і салдаты. Без справы сумуючы ў акопах, часцей пыталіся махоркі ды гарэлкі. У сям'і неяк успаміналі эпізод з таго дзедавага гандлявання. Пакупнік быў нячасты. Гаспадар пакідаў сваю краму зачыненай дзеля рознага клопату. Часам саджаў у крамавой нішы-акне дачку-падлетка Надзю. Аднойчы салдат-пакупнік абураўся: «Хозяина нет. Посодил в лавке девчушку-несмышлёныша. Спрашиваю, где отец? Отвечает: «В куце арэ...» Где орет? Чего орет? Не понять». Тым часам хазяін-гаспадар араў у кутнім полі пад азіміну.

***

У 1925 годзе, калі пры паляках у Заходняй Беларусі паўстала Беларуская сялянска-работніцкая Грамада, дзед Пятрок, на той час яшчэ і не зусім дзед, не застаўся ў баку ад грамадскага руху, агульнага ажыўлення ў народзе. Ці то праз старшага свайго сына Івана (ён быў арганізаваўшы гурток БСРГ у Вётхаве), ці наогул праз адвечную мару-імкненне селяніна да зямлі, а яе якраз абяцала тады Грамада, далучыўся да клопату, працы маладых. Быў памочнікам у падпольнай іх рабоце. Прывозіў з Вільні літаратуру, лістоўкі. Аднойчы ў цягніку яго папярэдзілі, што на станцыі ў Залессі некага чакае нарад паліцыі.

Тады, калі поезд на падыходзе да станцыі мінаў Міхневічы, дзе чыгунка рабіла невялікі паварот, дзед штурхнуў пакунак з афішкамі пад адхон. На станцыі такі сапраўды чакала паліцыя якраз яго. Але ў ладнай скуранoй сумцы акрамя сітняга хлеба і смаргонскіх баранак нічога не знайшла. Праз нейкі час, пэўна, непрацяглы, падазроны пасажыр вярнуўся з паўкіламетра назад, уздоўж чыгункі, каб забраць і перадаць каму трэба той крамольны ў вачах улады груз. Пэўна, прывоз дзедам забароненага багажу быў не адзіным эпізодам яго сувязі з клопатам грамадаўцаў і капэзэбоўцаў. Мяркую, невыпадкова, будучы на лецішчы ў Міхневічах у Піліпа Казлоўскага, лідар Грамады Сымон Рак-Міхайлоўскі, наведаўся з сям'ёю ў нашу хату, да дзеда. Мой бацька, на той час яшчэ падлетак, успамінаў, што пакуль баба Прузына пякла яешню, дзед з госцем хадзілі па гумнішчы пры садзе, а дачка Рак-Міхайлоўскага Рагнеда гуляла з коткай, пакуль тая не шэрпнула малую за палец.

Я не застаў дзеда Петрака пры жыцці. Ён памёр у 1932 годзе, маючы 57 гадоў. «Была вясна, — успамінаў бацька. — Цвілі вішні. На вуліцы спявалі дзяўчаты. Маці клікнула дамоў: «Бацька паміраe...» Апошнія словы яго ўрэзаліся на ўсё жыццё: «Сыны, ці скора прыйдуць бальшавікі?» Сыны тым часам былі ўжо, лічы, гасцямі ў родным доме. Старшы, Іван, пасля трох год мадзення ў Лукішскай турме і паражэнняў у правах збіраўся выбрацца за мяжу, у Мінск, дзе ўжо быў яго сябра-аднадумец Алесь Салагуб. Меншага, бацьку майго, чакала позва ў Польскае войска, на чынную службу. Сярэдні, Жэня, адслужыўшы ў войску, мыкаўся без работ і таксама, як старэйшы, падумваў, ці не падацца ў Саветы.

Сымон Рак-Міхайлоўскі болей да нас не заглянуў. Але ў гутарках маіх дзядзькоў Рыгора Дудкі і Захаркі Сідаровіча ды бацькі, імя яго побач з імёнамі Браніслава Тарашкевіча, Пятра Мятлы і па вайне яшчэ ўспаміналася часта. Заступнікі народа, яго праўдзівыя абаронцы надоўга заставаліся ў памяці заходніх беларусаў.

**Працяг будзе**

▸ ВЫСТАВА

# «КОЛЕРАПРАДСТАЎЛЕННЕ» ВАСІЛЯ ПЯШКУНА

Марат ГАРАВЫ

**Выстава Васіля Пяшкуна «Колерапрадстаўленне» адкрылася вечарам 24 верасня ў Мінску, у галерэі Беларускага саюза мастакоў «Мастацтва».**



Васіль Пяшкун сярод сваіх твораў.

У экспазіцыі дэманструюцца рэалістычныя краявіды і нацюрморты мастака — жывыя і экспрэсіўныя, нібыта напісаныя на адным дыханні. Васіль Пяшкун шчыра захапляецца веліччу і гармоніяй свету, нават у шэрай будзённасці знаходзіць паэтычнасць і вытанчаную прыгажосць, вялікую ўвагу надае каларыту і асвятленню. Дзякуючы гэтаму палотны жывапісца вылучаюцца светлым жыццесцвярджальным позіркам на свет, напоўнены паветрам, прасякнуты своеасаблівым серабрыстым свячэннем, прыцягваюць цеплынёю, тэмпераментам і пачуццёвасцю.

Мастачка Ганна Сілівончык назвала творчасць свайго мужа Васіля Пяшкуна «шэдэўральнай і цудоўнай, яна цешыць людзей, весяліць душу, напаўняе яе захапленнем і святам».

Найвышэйшым сваім дасягненнем Васіль Пяшкун лічыць роспіс інтэр'ераў Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь, праведзены падчас рэканструкцыі будынка. Сярод сваіх настаўнікаў ён называе рускіх перадзвіжнікаў, французскіх імпрэсіяністаў і сучасных гомельскіх мастакоў Валянціна Пакаташкіна і Аляксандра Фядотава.

Мастак часта выстаўляецца ў Беларусі і за яе межамі, актыўна супрацоўнічае з Міністэрствам замежных спраў і беларускімі амбасадамі за мяжою. Яго працы знаходзяцца ў прыватных калекцыях і музеях шэрагу краін свету, у тым ліку ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі ў Мінску і Музеі сучаснага рускага мастацтва Джэрсі Сіці (ЗША).

**Даведка:**

Васіль Пяшкун нарадзіўся ў 1978 годзе ў Гомелі, з 2000 года жыве ў Мінску. Закончыў Гомельскае мастацкае вучылішча і аддзяленне манументальнага жывапісу Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

▸ КІНО

# АРГАНІЗАВАНАЯ ЗЛАЧЫННАЯ СЯМЕЙКА

АНДРЭЙ РАСІНСКІ

**У ціхім французскім мястэчку спыняецца амерыканская сям'я: тата, мама, сын, дачка і сабачка. Тата — гангстар на пенсіі, якога хаваюць улады. Але старыя бандыцкія звычкі нікуды не падзеліся, дый сваякі таксама бяруць з патрыярха прыклад. Ціхага жыцця ў Нармандыі болей не будзе.**



**«Малавіта» (The Family)**
ЗША — Францыя, 2013, каляровы, 111 хв.
**Рэжысёр:** Люк Бесон паводле матываў раману Таніна Малаквісты «Малавіта». **Ролі выконваюць:** Роберт дэ Ніра, Мішэль Пфайфер, Томі Лі Джонс, Дыяна Агрон, Джогн Д'Леа, Джон Фрэда. **Жанр:** Настальгічная сямейна-гангстарская драма з парадыйнымі элементамі
Адзнака: ***1/2 (з *****)

Стужка Люка Бесона — настальгічная драма пра сямейна-гангстарскія каштоўнасці з філіграннай ironіяй і дасціпнай гульнёй. За Люкам Бесонам — і ў яшчэ большай ступені за галоўным акцёрам Робертам дэ Ніра, — гангстарскія сагі, меладрамы з наёмнымі забойцамі і кулакі «добрых хлопцаў» з кінабанды Марціна Скарсэзэ. І велічны цень «Хроснага бацькі» Фрэнсіса Форда Копалы маячыць дзесьці ў цэню карціны — і фыркае ад пацешак.

Эпічнае гангстарскае кіно яшчэ на мяжы 1980-х завяршылася пародыяй. Паўторнае ўзнаўленне жанру пад 1990-я гады — з моцнай меладрамнай ін'екцыяй — звялося да штампу і таксама прасіцца на кпіны. «Малавіта» — стужка, дзе смех — закраса, але не галоўная эмоцыя. Што з таго, што пекная гаспадыня Мішэль Пфайфер мае звычку падрываць кожны супермаркет, дзе ёй нахамілі: важней не ўсмешка, а простая сямейная ўтульнасць, замілаванне. Ксёндз пасля споведзі мілай жанчыны — у перадынфарктным стане, затое шкілеты ў хатняй шафе цяпер адданыя на суд Богу.

Нябесная бландзінка-дачка абараняе гонар і годнасць, лупцуючы раўналеткаў да страты прытомнасці, а хітры малодшы брат шантажуе нават дарослых і галасна дамагаецца адваката: справа жыццёвая. Тое, што кіраўнік сям'і перыядычна закопвае трупы, катуе сантэхнікаў і марыць спаліць настаўніка англійскай мовы — таксама не дзеля смеху, а дзеля сям'і. І нават мемуары героя, што паставілі на вушы ўсё ФБР, — прыватная хроніка.

У гэтай хатняй гісторыі, дзе нават непрыкметны сабачка здольны абгрунтавана пераканаць самых зацятых галавазлэраў, што неабачліва зазірнулі на агеньёк, ёсць яшчэ адзін пласт.

Карціна — не проста асабістая гісторыя ў парадыйна-дасціпнай абгортцы гангстарскага кіно. Персанажы фільму — гэта далёка не сямейка Адамсаў, гатычна-гратэскная і празмерная. Чужаземцы, што высадзіліся ў Нармандыі, — тыповыя амерыканцы ў тыповых французскіх абставінах. Крыху гамбургераў — для віду, а лепей макаронаў з соўсам; крыху англійскай мовы. Крыху пераканаўчых гутарак на тэму адказнасці і Другога фронту. Крыху няправільных барбекю. І вось ужо паўстае гастранамічна-культурніцкі канфлікт шырынёю з Атлантыку.

Але, калі ёсць ладныя выбухі, добрая перастрэлка і сямейная згуртаванасць, дык акіяны непаразумення — не перашкода.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1-1234.
Тэл.: +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 1182

Падпісана да друку 27.09.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.
(S) — матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча